*Маім баявым сябрам — юным абаронцам Брэсцкай крэпасці — прысвячаю.*

Аўтар

# ГАЎРОШЫ БРЭСЦКАЙ КРЭПАСЦІ



*Гераічная драма ў трох дзеях, сямі карцінах*

## ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ:

**В я д у ч а я — вобраз маці-Радзімы.**

**А н д р э й  К і ж а в а т — лейтэнант, начальнік пагранічнай заставы, 36 год.**

**Н ю р а — яго дачка, 14 год.**

**П а т а п о в і ч — старшы лэйтэнант, 37 год.**

**П е ц я, Л ё н я, К о л я — выхаванцы палка, гадоў па 13.**

**Г р ы ш а  Е р а м е й — яфрэйтар пагранічных войск.**

**П а р л а м е н ц ё р — капітан фашысцкай арміі.**

---

**Чэрвень — ліпень 1941 года. Адзін з участкаў абароны Цытадэлі Брэсцкай крэпасці.**

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

### Карціна першая

Музыка. У ёй — мужнасць і гора Чалавека. Праз глядзельную залу са свяцільнікамі ў руках праходзяць мужчыны, жанчыны, дзеці, падымаюцца на сцэну. Там, на фоне патрыятычнага надпісу: «Я умираю, но не сдаюсь! Прощай, Родина! 20.VII. 41 г.», па чарзе тухнуць свяцільнікі, і людзі нібы раствараюцца ў цемры. Застаецца Вядучая ў вобразе маці-Радзімы. Сігнал піянерскага горна: «Слухайце ўсе!»

Вядучая. Слухайце, слухайце ўсе! Слухайце расказ пра тых, хто ў далёкія чэрвеньска-ліпеньскія дні сорак першага года ў пагранічнай крэпасці над Бугам першым, нібы Аляксандр Матросаў, засланіў сабою ад варожых куль Радзіму, хто аддаў сваё жыццё за наша Сягоння: за мір і шчасце, за зямлю і сонца, за чыстае неба і зоркі! Слухайце, слухайце ўсе!

Уторыць сігнал піянерскага горна.

Зацямненне.

Чэрвеньская ноч. Рукаў Заходняга Буга. Старыя вербы. Кустарнік. Мост. За імі вырысоўваецца сілуэт Цярэспальскай вежы. На беразе рэчкі — дачка начальніка пагранічнай заставы Андрэя Кіжавата — Нюра.

Нюра *(нібы падхоплівае апошнія словы Вя-*

*дучай).* Паслухайце! Кажуць, калі з неба зорка падае, на зямлі чалавек памірае... Вунь адна паляцела... другая... А я хачу, каб усе зоркі гарэлі! Я хачу, каб усе людзі жылі...

З-за куста асцярожна паказваецца босы выхаванец палка Пецця. У яго салдацкі горн, цераз плячо перакінута пара ботаў.

Пецця *(падкрадваецца, далонямі закрывае Нюры вочы. Таямніча).* Нюра?!.

Нюра *(спалохана).* Ах! *(Рэзка паварочваецца.)* Пецька?!. Ты дурань! Ды яшчэ не біты...

Пецця *(перапыняе, з трывогай).* Не крычы...

Нюра *(павышае голас).* Напэўна, не ведаеш, што такое дурань не біты! Дык ведай: ён горшы за дурня бітага. Бо ў таго дурня, якому добрую лупцоўку дадуць, крышачку розуму прыбаўляецца. А ў цябе яго ні на грош. Дадумаўся сярод ночы пужаць людзей.

Пецця. Ціха!

Нюра. Баішся?!.

Пецця. Не выдумляй.

Нюра. А чаго аглядаешся, нібыта з-пад курыцы яйкі пакраў?

Пецця. Проста так... Можна тут крышачку пасядзець?

Нюра *(з ірoніяй).* Бедненькі, знябыўся! Дваццаць крокаў да свае казармы не дайшоў.

Пецця. Я цэлую ноч за шпіёнамі ганяўся.

Нюра. Можа, яны за табой?

Пецця. Праўду кажу. *(Насцярожана.)* Ціха... *(Хаваецца за куст.)*

Чуваць крокі. Яны набліжаюцца. Нюра заўважае боты, якія забыўся Пецця, хоча іх схаваць, ды няма куды, спрабуе надзець.

З'яўляецца з аўтаматам пагранічнік Ерамей.

Е р а м е й *(у тоне іранічнага жарту).* Цікава, каго ноччу на беразе рукава Буга чакае дачка начальніка пагранічнай заставы?!.

Н ю р а *(разгублена).* Боты... боты надзяю...

Е р а м е й *(звярнуўшы ўвагу на абутую нагу Нюры).* Не ведаў, што правы бот носяць на левай назе...

Н ю р а *(збянтэжана).* Модна...

Е р а м е й. Модна?.. *(Бярэ бот, разглядае падэшву.)* Сляды знаёмыя... Значыць, прагульваешся?

Н ю р а. Вечарам тут недзе брошку згубіла... Думала, знайду...

Е р а м е й *(вяртае бот. Кідае падазроны позірк на куст, за якім схаваўся Пеця).* Цяпер мне ўсё зразумела... Спакойнай ночы! *(Выходзіць.)*

Н ю р а *(разгублена).* Дзякую... *(Спахапіўшыся.)* Ох, памылілася! *(Услед.)* Спакойнай ночы!..

З'яўляецца з-за куста П е ц я.

П е ц я *(з палёгкай уздыхнуўшы).* Дзякуй...

Н ю р а *(паказваючы на куст).* А ну!.. Адкуль прыйшоў, туды і вымятайся!

П е ц я *(здзіўлена).* Чаго так закіпела?

Н ю р а. Памылілася, а ты перадражніваеш?! З-за цябе павінна была гаварыць няпраўду.

П е ц я. Дзякуй — за выручку...

Н ю р а. Дзякуй, што хлусіла людзям. Так?

П е ц я. Ідзі далажы старшыне: я тут. Няхай мяне на «губу» пасадзяць.

Н ю р а *(з усмешкай).* Нават слова правільна сказаць не можаш. Не шкодзіла б цябе пасадзіць вось сюды... *(Паказвае жэстамі пальцаў турэмныя краты.)*

П е ц я *(угледаючыся).* Куды, куды?

Н ю р а. Туды, адкуль неба ў клетачку відаць.

П е ц я *(смяецца).* А-а, на «губу».

Н ю р а. Не на «губу», а на гаўптвахту.

П е ц я. Гавораць так.

Н ю р а. Нехта пойдзе тапіцца, дык і ты пабяжыш?

П е ц я. Сказанула!

Н ю р а *(папраўляе).* Сказала!

П е ц я. Зноў пачынаеш.

Н ю р а. Адукоўваю.

П е ц я. Вучы, я насуперак ні слова... Ты добрая...

Н ю р а. Адкуль узяў?

П е ц я. Мяне не прадала.

Н ю р а *(узнёсла).* Пецька! Старшыны роты не бойся! Выручу! Нават самому маршалу Варашылаву скажу: назначыла спатканне і ты... прыйшоў...

П е ц я. Яшчэ што выдумай!..

Н ю р а *(у засмучэнні).* Мішка з Валяй дружыць... А ты... ты ўсё пра шпіёнаў... Толькі дзеля іх гатоў з казармы праз акно ўцячы...

П е ц я. У казарме парадак, цішыня. Рота спіць, служба ідзе. Дзяжурны правяраў, усе на месцы.

Н ю р а. І так-такі «ўсе»?

П е ц я. Усе! Сам чуў, як ён старшыне дакладваў... *(Мяняе тон.)* Я ў гэты час ведаеш дзе сядзеў? Пад ложкам...

Н ю р а. У казарме ўсё адно твой ложак пусты.

П е ц я. Не пусты. Глядзі, што я з коўдрай зрабіў. *(Паказвае жэстам рук.)* Вось так.

Н ю р а. А калі старшына вось гэтак? *(Жэстам рукі, нібы адхінае коўдру.)*

П е ц я. Пабаіцца.

Н ю р а. Каго?

П е ц я. Каго, чаго? Каб байца не разбудзіць!

Вось чаго! Кожны камандзір хоча, каб яго чырвонаармеец выспаўся. Тады ён і песні весела спявае, і ў страі добра ідзе, і страляе ў самае «яблычка».

Н ю р а. Пецька, слухай: ці могуць пасадзіць на гаўптвахту такога, як ты?

П е ц я. Чаму пытаешся?

Н ю р а. Цікава.

П е ц я *(задумаўся).* Напэўна... Ды не напэўна, а могуць!

Н ю р а. Выхаванца палка?

П е ц я. А чаму б і не? Мы такія ў арміі, як і ўсе. Нам дарослы чарпак кашы даюць, а не дзіцячы. І форму, бачыш, носім чырвонаармейскую.

Н ю р а. А хто-небудзь з выхаванцаў сядзеў там?

П е ц я. Не пападаюцца, дык і не сядзяць. А пападзіся, як міленькі сядзеш у тое месца, адкуль, як ты кажаш, неба ў палоску відаць.

Н ю р а *(смяецца).* У клетачку!

П е ц я *(перакідае боты цераз плячо, бярэ горн).* Днець пачынае. Пайду! Ля брамы, дзе крапасны гадзіннік, пасяджу, а там і пад'ём трубіць... Мне як гарністу дазваляецца раней за ўсіх уставаць.

Н ю р а. Не забудзь, сёння нядзеля, пад'ём пазней.

П е ц я. Ведаю! *(Прыпыняецца.)* Прыходзь днём у казарму. Навучу на трубе іграць.

Н ю р а. Гэта занятак не для дзяўчынак.

П е ц я *(уздыхнуўшы).* Піяніна ў мяне няма.

Н ю р а. Думаеш, я такая смелая, што старшыне зманіла? Проста не хацела, каб заставу па трывозе падымалі...

П е ц я. Трывогі не было б.

Н ю р а. Была б!

П е ц я. А вот і не! Я сам бы да твайго бацькі

прыбег і далажыў бы вось так, па ўсіх правілах. *(Становіцца па камандзе «смірна».)* Таварыш лейтэнант! Дазвольце далажыць?..

У гэты момант з'яўляецца лейтэнант Кіжават.

Кіжават *(заўважыўшы Пецю, які разгублена змоўк)*. Дакладвай! Начальнік пагранічнай заставы Кіжават слухае... *(Акідвае позіркам Пецю.)* У які паход сабраўся?

Пецья. Шпіёна лавіў!

Кіжават. Злавіў?

Пецья. Вашы пагранічнікі апярэдзілі.

Кіжават. Сюды як трапіў?

Пецья. Па дарозе, таварыш лейтэнант! У казарму іду...

Нюра. Тата, Пецья баіцца... старшыны...

Пецья. Не баюся! Толькі ў яго голас, самі ведаеце. Як пачне са мною гаварыць, дык можа ўсю роту разбудзіць.

Кіжават. Спачатку я з табой пагавару. Абувайся!

Пецья *(паказвае на боты)*. У мяне падкоўкі новыя. Па бруку моцна стукаюць... а байцы спяць...

Кіжават. Таварыш выхаванец палка! Выконваць загад!

Пецья. Ёсць! *(Садзіцца, хутка абуваецца, устае і дакладвае.)* Таварыш лейтэнант, заданне выканаў! Абуўся!

Кіжават. Смірна! Выхаванцу трыццаць трэцяга стралковага палка...

Пецья *(перапыняе)*. Таварыш лейтэнант, я сам раніцаю далажу старшыне, дзе быў і што... Няхай лепш ён карае...

Кіжават. Не перапыняць! Адказвай, туне-

лі ў земляных валах крэпасці хто правяраў сягоння ноччу, калі трывога на заставе была?

П е ц я. Адкуль ведаеце?

К і ж а в а т. Бачылі.

П е ц я. Я нікога не бачыў.

К і ж а в а т *(перапыняе)*. Смірна! За тое, што самавольна ноччу пакінуў казарму, атрымоўвай нечарговы нарад. Другі раз, калі гэта паўторыцца, на гаўптвахту сядзеш!

П е ц я. Ёсць далажыць старшыне роты, што я атрымаў пакаранне... і што другі раз вы мяне на гаўптвахту пасадзіце...

К і ж а в а т. Можаш ісці!

П е ц я выходзіць.

Н ю р а *(глядзіць услед Пецю. З сумам)*. Не аглянуўся...

К і ж а в а т *(абняўшы дачку)*. Раніцы добрай, родная! А мама ўжо дома?

Н ю р а. Яшчэ на вакзале. Жонку лейтэнанта Муліна праводзіць. Яго на палігон тэрмінова выклікалі.

К і ж а в а т. Вернецца маці, перадай: і вам сягоння трэба пакінуць крэпасць. Машына на Баранавічы ідзе.

Н ю р а. Я сказала: з крэпасці — нікуды.

К і ж а в а т. Тут граніца. Неспакойна.

Н ю р а. Скора ўсё ўладзіцца. Стане цішэй. Германія зусім не збіраецца на нас нападаць. Яна з намі заключыла мірны дагавор.

К і ж а в а т *(узрушана, з болем у сэрцы)*. Усё мы робім, каб пазбегнуць канфлікту... А тут, па той бок Буга, замест пагранічных нямецкіх падраздзяленняў Гітлер паставіў рэгулярныя палявыя часці. Яны абстрэльваюць нашы нарады,

кожны дзень лезуць, задзіраюцца... *(Схамянуўшыся.)* Даруй, дачка. Гэта я не да цябе...

Н ю р а. Тата! Табе адпачыць трэба. Ужо каторыя суткі не спіш.

К і ж а в а т. Пайшлі дахаты...

Прыбягае яфрэйтар Е р а м е й.

Е р а м е й. Таварыш лейтэнант! Дазвольце далажыць: са штаба атрада прынята сакрэтная тэлефанаграма! *(Перадае пакет.)*

К і ж а в а т *(чытае. Да Нюры).* Збірайцеся! Неадкладна! Машына падыдзе. *(Цалуе дачку. Да Ерамея.)* За мной!

К і ж а в а т і Е р а м е й выбягаюць. Нюра некаторы час стаіць разгубленая. З-за куста паказваецца П е ц я.

П е ц я. Трывога?

Н ю р а. Не ведаю.

П е ц я. Правільна, Нюра, заўсёды гавары так. Ты дачка камандзіра. *(Падыходзіць да Нюры.)* Я ўсё-такі шпіёна злаўлю. І падзякі мне не трэба будзе... Вось паглядзіш!

Н ю р а. Пецька, кажуць, вайна будзе.

П е ц я. Не падымай паніку. Які дурань табе сказаў?

Н ю р а. Сам ты... *(Прыслухоўваецца.)* Чуеш? *(Нявесела.)* Гэта машына... па нас прыйшла...

Гул нарастае, ад яго пачынае трымцець зямля. З неба даносіцца нарастаючы свіст, нібы вые сірэна.

П е ц я *(насцярожана).* Што такое? Глядзі! Глядзі! Зоркі з неба падаюць!..

Раптоўна раскалолася неба, і над галовамі дзяцей павісла чорная фашысцкая свастыка. Усё навокал скаланулася, пацямнела, зямля загула ад выбухаў. З'явіліся водбліскі агню.

Н ю р а *(крычыць)*. Та-та! Вайна!!!
П е ц я. Не! Не! Гэта страшны сон...

Усё тоне ў чорна-крывавых сполахах.

З а ц я м н е н н е.

Грукат бою не змаўкае.

Цярэспальская вежа. Яна амаль да другога паверха разбурана. Байцы без гімнасцёрак, галаўных убораў, босыя займаюць абарону: вядуць агонь з кулямётаў, аўтаматаў, вінтовак, кідаюць гранаты.
З санітарнымі насілкамі, на якіх ляжыць паранены баец, з'яўляюцца Н ю р а і П е ц я. З першага паверха вежы, ахопленага пажарам, выбягаюць ж а н ч ы н ы з д з е ц ь м і на руках. Побач выбухі. Людзі падаюць, чуваць крыкі...
Гром вайны раптоўна абрываецца пазыўнымі Цэнтральнага радыё з Масквы. Пад голас Левітана, які чытае ўрадавае паведамленне аб вераломным нападзе фашысцкай Германіі на Савецкі Саюз, апускаецца заслона. Гучыць песня Аляксандрава «Свяшчэнная вайна».
У святле пражэктараў з'яўляецца В я д у ч а я ў вобразе маці-Радзімы. Пад яе сцяг ідзе ўзброены народ: м у ж ч ы н ы, ж а н ч ы н ы, д з е ц і — усе мужна, у ногу крочаць уперад.

З а ц я м н е н н е.

## Карціна другая

Падвал. Над ім — руіны двухпавярховай казармы. Уверсе — вузкае акно-байніца. Даносіцца гул бою: ружэйна-кулямётная перастрэлка, часам — выбухі снарадаў, мін.
Выхаванцы палка Л ё н я і П е ц я сядзяць у падвале на скрынках з-пад боепрыпасаў і набіваюць патронамі магазіны ручных кулямётаў, аўтаматаў. Побач ляжаць гармонік-трохрадка і салдацкі горн.

П е ц я *(укладвае магазіны ў сумкі ад процівагазаў)*. Лёнька, гатова!
Л ё н я. Давай! *(Бярэ боепрыпасы, выбягае.)*

Уваходзіць Н ю р а з санітарнай сумкай цераз плячо. На яе рукаве павязка з чырвоным крыжам. Нюра ў нейкім вялікім горы стомлена апускаецца на скрынкі. Аднекуль праз шум бою па радыё даносяцца словы з выразным нямецкім акцэнтам: «...на ўсходнім фронце ад Чорнага да Баранцава мораў доблесная армія фюрара паспяхова развівае наступленне. Учора нямецкія войскі ўзялі бальшавіцкія гарады...» Апошнія фразы тонуць у грукаце выбухаў. Убягае Л ё н я.

П е ц я. Фашысты зноў пачалі брахаць. Думаюць, што мы паверым... *(Пасля паўзы.)* Скора нашы тут будуць.

Нюра адварочваецца да сцяны, крадком выцірае слязу.

Л ё н я *(падыходзіць да Нюры).* Плачаш?

Нюра круціць галавою.

П е ц я. Ноччу нашы танкі падыдуць.

Н ю р а. Не падыдуць.

П е ц я. Тады заўтра раніцаю.

Н ю р а. Ні заўтра, ні паслязаўтра, ні праз тыдзень...

Л ё н я. Наслухалася брахні?!. Мы з Пецькам дабяромся да фашысцкай радыёўстаноўкі, заткнём ёй горла гранатамі!

Н ю р а *(дастае з санітарнай сумкі газету і працягвае яе хлапчукам).* Чытайце.

Л ё н я *(разглядае газету. Здзіўлена).* Гітлераўская?

Н ю р а. У забітага фашыста знайшла.

П е ц я. Пакажы. *(Бярэ газету.)* Па-нямецку. Ведаю толькі адзін вершык. *(Дэкламуе.)*

«Вір баўэн машынэн,
Вір баўэн турбінэн...»
«Мы будуем машыны,
Мы будуем турбіны...»

Н ю р а *(паказвае на фота ў газеце).* Учарашні здымак. Танкі Гітлера на вуліцах Мінска.

Газета пераходзіць з рук у рукі.

Л ё н я. Нюрка, ты добра прачытай. Можа, вычытаеш, што гэта ў Варшаве?..

Н ю р а. У Мінску... Перад Домам урада... Я была летась на гэтым месцы.

П е ц я. Усё адно нашы тут будуць!

Л ё н я. Яны непадалёку. Праўда, Пецька?..

Н ю р а *(хапае газету, ірве на шматкі і кідае за скрынкі)*. Нікому! Нікому! Няхай пра гэта ніхто не ведае... Людзям лягчэй будзе...

Паўза. Усе ў глыбокім задуменні.

Л ё н я *(кранае лады гармоніка. Іграе песню «Любімы горад». Музыка гучыць павольна)*. Сёння роўна год, як мяне праводзілі з дому... *(Пяе.)* «В далекий край товарищ улетает...» *(Сам сабе.)* Дваццаць восьмага чэрвеня...

За акенцам падвала ўспыхвае зарыва пажару. Водбліск прасвятляе Лёню. На заднім плане як успамін мінулага прамень пражэктара выхоплівае ■ марыва твар жанчыны. Яна выцірае слёзы і пасылае рукою развітальнае прывітанне сыну. У адказ як успамін з далёкіх мінулых дзён даносіцца г о л а с Л ё н і: «Мама! Не плач! Я налета зноў прыеду! Не! Лепш ты да мяне: паслухаеш, як у палкавым аркестры іграю!.. Крэпасць нашу пакажу! Яна прыгожая! Мне добра! Не плач, мама! Пры-я-яз-джа-ай!» Водбліск пажару і прамень пражэктара з адлюстраваннем успамінаў прападаюць. (Шэпча.) «Ма-ма... Ма-ма... Ты пісала, што прыедзеш на гэтым тыдні... Цяпер сюды, да мяне, няма дарог... Дзе ты, мама?!.»

На заднім плане ўспыхвае квадрат святла. На яго фоне м а ц і Л ё н і з клункам у руках. Фашыст аўтаматам перагароджвае ёй дарогу, жанчына рвецца наперад, гітлеравец б'е яе прыкладам.

Адлюстраванне прападае.

«Мама... Мама...» *(Схіляе галаву на гармонік і сядзіць нерухома.)*

Н ю р а. Пеця, а ў цябе мама ёсць?

Пеця маўчыць.

А тата?

П е ц я. Я дзетдомаўскі.

Зноў за акном-байніцай успыхвае зарыва пажару. На гэты раз яго водбліск вырывае з цемры твар Пеці, які, абхапіўшы аберуч галаву, сядзіць у задуменні. Яму ўспамінаецца музыка духавога аркестра і ўрачыстая прамова піянерважатай, сілуэт якой на гэты час з'яўляецца ў крузе святла на заднім плане: «Дарагія дзетдомаўцы! Мы сягоння праводзім у Чырвоную Армію свайго выхаванца Пецю. Спадзяёмся, што ён будзе слаўным сынам воінскай часці, выдатнікам у вучобе, дысцыплінаваным, смелым, кемлівым, не падвядзе нашу піянерскую дружыну, наш дзіцячы дом...» Музыка, голас піянерважатай і святло пражэктара прападаюць ад выбуху, які раздаецца дзесьці непадалёку. Раптоўна гасне і водбліск пажару. Пеця падхопліваецца. Выносіць з-за скрынак дарожны чамадан, дастае адтуль гімнасцёрку, боты, рэмень з партупеяй. Усё кладзе Нюры на калені.

Н ю р а *(разгублена)*. Навошта?

П е ц я *(расчулены ўспамінамі)*. Збіраўся ў родны дзіцячы дом... Камандзір палка казаў: на цэлы месяц адпускаю...

Н ю р а. Паедзеш! Абавязкова паедзеш! Мы з табою, Пецька, яшчэ будзем хадзіць у школу... у кіно... *(Хоча вярнуць назад гімнасцёрку, боты і рэмень.)* Няхай будзе ўсё новенькае...

П е ц я *(рашуча)*. Бяры!

Н ю р а *(забірае адзенне)*. Я зараз. *(Выбягае. Праз мінуту з'яўляецца ў вайсковай форме.)* Ну, як?

П е ц я *(любуецца Нюрай)*. Бацька не пазнае. *(Разглядае туфлі, якія яна трымае ў руках.)* На высокім абцасе. І як гэта ты галаву не скруціла?

Н ю р а. Затое ростам была вышэй.

Л ё н я. Нявеста! Замуж можна.

Н ю р а *(рашуча, ад сораму).* Думаеце, мне патрэбна ваша форма! *(Зрывае пілотку, збіраецца скідаць гімнасцёрку.)*

П е ц я. Не слухай яго! *(Дастае з чамадана штаны. Расцягвае іх на руках.)* Хочаш? З галіфэ...

Н ю р а *(сарамліва замахала рукамі).* Пецька, не выдумляй.

Л ё н я. Мы адвернемся.

Паўза.

Н ю р а *(да Лёні).* Не глядзі.

Лёня адварочваецца.

П е ц я. І мне?

Нюра круціць галавой. Пеця стаіць разгублены з працягнутымі ў руках штанамі. Нюра нясмела наблізілася да Пеці, асцярожна дакранулася да яго твару рукой.

Паўза.

Л ё н я. Можна? *(Аглядаецца. Здзіўлена.)* Не?!

П е ц я *(дастае з-за пазухі піянерскі гальштук, завязвае сабе).* Лепш піянерскі збор правядзём.

Завязваюць гальштукі Лёня і Нюра. Дзеці застылі ва ўрачыстым маўчанні.

Н ю р а. Давайце дадзім клятву заўсёды быць разам... Да канца...

Усе бяруцца за рукі і паўтараюць услед за Нюрай.

*(Урачыста і велічна.)* Мы — піянеры-выхаванцы палка і дзеці камандзіраў Брэсцкай крэпасці — клянёмся!.. Клянёмся дружыць, не хныкаць, клянёмся абараняць Радзіму, клянёмся не баяцца нічога: ні фашыстаў, ні чорта, ні самога Гітлера! Клянёмся! Клянёмся! Клянёмся!

2 Зак. 305

П е ц я. Здорава ў цябе атрымоўваецца. *(Працягвае штаны.)* Вазьмі! Будзеш у мяне камісарам!

Н ю р а. Каб ты даў ёд, бінты, вату... Раненым трэба.

Л ё н я. Знойдзем!

П е ц я. Давай сягоння ноччу ўсіх школьнікаў на піянерскі збор сюды! Пагаворым, каб у медсанбаце і вада была і было чым перавязваць.

Н ю р а. Руіны санчасці трэба разведаць. Кожнаму па пяць тысяч цаглін падняць — і завалаў няма.

П е ц я. Нюра, давай на гэтую аперацыю разам. Я камандзірам буду, а ты — камісарам... Лёнька — начальнікам штаба.

Л ё н я. Начальнікам? *(Задумаўся.)* А што ён робіць?

П е ц я. Не ведаеш! Эх, ты! *(Пасля паўзы.)* Нюра, скажы яму, якія абавязкі ў начальніка штаба.

Нюра паціскае плячамі.

Пачакай! Што ж ён робіць? А-а! Прыпомніў! Сядзіць за сталом: піша, па тэлефоне звоніць...

Л ё н я *(перапыняе)*. Пісаць? Чым? За якім сталом?

П е ц я. Гэта ў мірны час. Разумець трэба. А ў баі — фашыстаў б'е, патроны падносіць... І нават камандуе. Ну, не зусім камандуе, а памагае камандзіру... Увогуле, будзеш рабіць усё, што я загадаю... *(Пасля паўзы.)* Эх, каб нам кулямёцік!

Л ё н я. Па кулямётных гнёздах фашысты з гармат лупяць.

Н ю р а. Сержанта Косціна ўчора зусім засыпала. Разам з кулямётам.

П е ц я. Казалі, яго бомбай.

Л ё н я. Усё адно цэлілі ў кулямёт.

Паўза.

П е ц я. Лёнька, ты ведаеш месца, дзе Косціна з кулямётам засыпала?

Л ё н я. У казарме трэцяй роты.

П е ц я. Можа, не там?

Л ё н я. Там!

Пеця аб нечым задумаўся.

Н ю р а. А вам страшна бывае, калі вы наверсе, дзе бой?

Л ё н я. А табе?

Н ю р а. Я першая запыталася. Ты першы і адказвай.

Л ё н я. Сама ведаеш! Кожнаму жыць хочацца. А тут кулі кругом свішчуць, усюды выбухі... І яшчэ баішся старшага лейтэнанта Патаповіча, каб хаця ён не згледзіў цябе, бо пасадзіць...

П е ц я *(перапыняе)*. Лёнька! Не адказвай на такія правакацыйныя пытанні. *(Нюры.)* А ты не пытайся. Мы выхаванцы палка — значыць, ваенныя. А ў ваенных ніхто не пытаецца: «Страшна ці не?!.» Разумееш?! *(Мяняе тон.)* Баявы піянерскі атрад! Слухай мяне! Мы павінны дастаць з-пад руінаў кулямёт! Айда за мной! *(Выходзіць.)*

Услед ідуць Л ё н я і Н ю р а.

З а с л о н а.

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

### Карціна трэцяя

Пакой разбітай салдацкай казармы. Справа і злева — праёмы былых дзвярэй. Невялікія абвалы бакавых сцен. Столь і дах сарваны. Падлога засыпана раструшчанай цэглай, з-пад якой тырчаць табурэткі, ложкі. На заднім плане — байніца. Ля яе стол. На ім — станкавы кулямёт «максім». Побач, на перакуленай тумбачцы, сядзіць яфрэйтар Ерамей. Ён набівае стужку патронамі.

З варожай радыёўстаноўкі даносіцца: «Салдат Брэсцкай крэпасці! Твая абарона бессэнсоўная! Выбірай: жыццё альбо смерць! На роздум застаецца сорак пяць мінут...»

З пралому бакавой сцяны паказваецца Пеця. У яго цераз плячо салдацкі горн. Пеця прыпыняецца, папраўляе на сабе гімнасцёрку, пілотку, дастае з-за пазухі пісталет з кабурой, трафейны плоскі штык, гранату і вешае на рэмень.

Пеця *(прыняўшы бравы выгляд, падыходзіць да Ерамея. Бярэ руку пад казырок)*. Дзень добры, таварыш яфрэйтар!

Ерамей *(з сумам)*. Дзень нядобры, Пецька!.. Нядобры!

Пеця *(агледаецца)*. А Сурэн дзе?

Ерамей *(цяжка ўздыхнуўшы)*. Няма... Няма чалавека!..

Пеця. І ты адзін?

Ерамей. Чаго ўзрадаваўся?

Пеця. Зусім і не радуюся. Толькі хачу запытацца: можа, мяне другім нумарам кулямётнага разліку?

Ерамей. Не магу.

Пеця *(набліжаецца да кулямёта)*. Хіба можна так зброю кідаць?

Ерамей *(з іроніяй)*. Вінават, Пецька! Хадзіў цябе шукаць, каб запытацца, ды, на жаль, не знайшоў.

Пеця. Я напраўду пытаюся. Фашыст можа

падкрасціся ды закляпаць дула тоўстым цвіком. Тады паскачаш, ды позна будзе...

Паўза.

Е р а м е й. Пакрыўдзіўся?

П е ц я. Сурэн быў лепшы за цябе. Казаў: «Прыходзь, Пецька, душа дарагі, будзеш патроны падносіць, страляць дам...» І яшчэ казаў Сурэн: «Душа мой харошы, Пецька, прыязджай Ерэван, вінаград будзеш, абрыкосы будзеш...» *(Стараецца ўспомніць.)* І вось гэтыя... забыўся, як іх...

Е р а м е й. Чабурэкі?

П е ц я. Ды не! Каўказскія яблыкі... такія кругленькія...

Е р а м е й. Персікі?

П е ц я. Ага! Персікі!..

Е р а м е й. Эх, Пецька, Пецька! Табе б цяпер у Ерэване быць ды вінаград есці.

П е ц я. Лёньку, выхаванца палка, ведаеш?

Е р а м е й. А што?

П е ц я. Ён учора, цяжкапараненьі, на другім паверсе клуба з кулямётам заставаўся. Адзін абарону трымаў. Патронаў не стала, дык Лёнька гранатамі направа і налева ў фашыстаў... Вось які! А гаварылі ўсе, «дзіця», «малыш». У падвал гналі...

Е р а м е й. Дзе твае сябрукі — Мішка ды Коля?

П е ц я. Мішку ўчора... Я яму крычу: хавайся, а Мішка бяжыць. Гітлераўскі самалёт убачыў ды бомбу на яго кінуў... А Колька — не ведаю. Казалі, не прачнуўся... соннага... *(Паўза.)* Дык ты мяне бярэш?

Е р а м е й. Куды?

П е ц я. Я ж казаў! У кулямётны разлік.

Ерамей. Не маю права.

Пецян. А хто?

Ерамей. Старшы лейтэнант Патаповіч.

Пецян *(уздыхнуўшы)*. Не адпусціць.

Ерамей. А! Разумею. Цябе ж у цёмны падвал пасадзілі.

Пецян. Праўда? Не чуў. *(З цікавасцю.)* А што гавораць?

Ерамей. Кажуць, за твае самастойныя баявыя аперацыі.

Пецян *(цяжка ўздыхнуўшы)*. Няхай гавораць. Старшы лейтэнант усё адно мяне любіць. Толькі загадаў ад яго далёка не адыходзіць.

Ерамей. Ты неўзабаве нейкім начальнікам станеш?

Пецян. Не хачу. Лепш бы мне адмералі ўчастак абароны і далі кулямёт. Альбо да цябе — другім нумарам. Эх, каб назначылі! *(Паказвае жэстамі рук.)* Захапілі б мы Цярэспальскую вежу. Паставілі б там на шостым паверсе кулямёт і адтуль кругом бы пачалі страчыць: «трах-та-тата!!!» Усіх бы фашыстаў знішчылі.

Ерамей. Пра гэта старшаму лейтэнанту скажы.

Пецян. Гаварыў.

Ерамей. Ну і што?

Пецян. Кажа: «Табе, Пецька, як Чапаеву, толькі дывізіяй камандаваць».

Ерамей. А чаму б не камандаваць?

Пецян. І ты кепікі строіш? Няма таго, каб баявы дух падтрымаць. А Гайдар вунь у чатырнаццаць год амаль палком камандаваў.

Ерамей. Табе ж чатырнаццаці няма.

Пецян. Ну, крышачку не хапае, можа, адну пятніцу ці дзве... Цяжка цяпер палком камандаваць: трэба ваеннае вучылішча і акадэмію закон-

чыць. У грамадзянскую вайну лягчэй было. Тады сабраў людзей, падгаварыў ісці біць буржуяў, а затым скамандаваў: «За мной! Ура!» — і ты камандзір.

Прабягае з ахапкам коўдраў выхаванец палка К о л я. Ён у цывільным адзенні.

П е ц я *(заўважыўшы Колю, камандуе).* Стой, пацан! Стой!.. *(Хапаецца за пісталет і кідаецца ўслед.)* Стой! Страляць буду!..

Коля вяртаецца назад.

К о л я *(вінавата).* Чаго прыстаеш?

П е ц я *(паказваючы на коўдры, якія трымае Коля).* Марадзёрства?

К о л я. Не бачыш? Коўдры!

П е ц я. Адкуль? Куды?

К о л я. Для раненых, у медсанбат. Чырвонаармейцы перадалі.

П е ц я *(пазнаўшы свайго сябра. Радасна).* Колька! Жывы!

К о л я. Думаў, няма?

П е ц я. Нічога і не думаў. Толькі думалася, куды ты прапаў... *(Спахапіўшыся.)* Пачакай. Дзе твая чырвонаармейская форма?

К о л я. Згарэла.

П е ц я. А сам цэленькі?

К о л я. Не паспеў адзецца. *(Цягнецца да Пецевага пісталета.)* Пакажы.

П е ц я. Трэба свой мець.

К о л я. Думаеш, у мяне няма?

П е ц я. Дзе ён?

К о л я. Схаваны недзечка.

П е ц я. Ты ў медсанбаце? На пабягушках?

К о л я. Куды пашлюць.

П е ц я *(з дакорам).* Запісаўся ў брацікі міласердзія?

К о л я. Я кажу, куды пашлюць.

П е ц я. Колькі фашыстаў забіў?

К о л я. Толькі раз стрэліў.

П е ц я. Прамазаў?

К о л я. Пацэліў.

П е ц я. Маладзец!

К о л я. Я ў сцяну. Вельмі ж хацелася выстраліць.

П е ц я. У фашыстаў трэба страляць. Хто там над табою старшы?

К о л я. Цётка Наташа.

П е ц я. А я думаў, капітан... Дык вось, слухай: бяры свой пісталет — гэта раз, надзень чырвонаармейскую форму — гэта два...

К о л я. А форму дзе знайсці?

П е ц я. Не перапыняй. І скажы сваёй камандзірцы, што яна больш над табою не начальнік, скажы, што знайшоўся твой сапраўдны камандзір — гэта тры... *(Думае.)*

К о л я. А чатыры?

П е ц я. Прыходзь сюды да мяне — вось і чатыры будзе. Я цяпер тут камандую.

К о л я *(са смехам).* Ты ж такі, як і я!

П е ц я. Сам старшы лейтэнант мяне назначыў. Над выхаванцамі палка... Разумееш? Толькі не думай са мной у хованкі гуляць, бо я цябе нават на тым свеце злаўлю ды такую цёмную зраблю, што тры дні не сядзеш.

К о л я. Не бойся. Калі сказаў прыйду,— значыць, прыйду... Слухай, Пецька, а пісталет тут можна вось так, як ты...

П е ц я. Дазваляю!

К о л я. Чакай! *(Выбягае).*

Е р а м е й. Пецька, ты дзяцей баламуціш.

П е ц я. Зусім і не баламучу.

З'яўляецца Н ю р а.

Н ю р а *(убачыўшы Пецю, радасна).* Пецька! *(Здзіўлена.)* Казалі, што цябе...

П е ц я *(перапыняе).* ...забілі?

Н ю р а. Не выдумляй чаго не трэба.

П е ц я. А што?

Н ю р а. Што ты... *(Жэстамі пальцаў паказвае краты.)* Сюды папаў, дзе неба ў клетачку.

П е ц я. Ніхто мяне пад замок не саджаў. Старшы лейтэнант пажартаваў... Разумееш? Мне ён... нават дазволіў з падвала сюды... да кулямёта...

Е р а м е й *(да Нюры).* Я чуў, што ты на заставу дабіралася. Як там бацька, пагранічнікі?

Н ю р а. Тата загадаў толькі цяжкапараненым, жанчынам і дзецям сюды перабрацца. Ад заставы — адны руіны ды попел. Дыхаць няма чым, усе ў процівагазах...

Е р а м е й. А маці?

Н ю р а. Не ведаю. Яна яшчэ ў суботу перад вайною на вакзал ноччу паехала.

Уваходзіць лейтэнант К і ж а в а т. На яго гімнасцёрцы медаль «За адвагу».

Н ю р а *(кідаецца да бацькі).* Тата!

П е ц я, убачыўшы лейтэнанта, непрыкметна хаваецца за абвалам сцяны.

К і ж а в а т *(прытуліўшы дачку да сябе).* Як вы тут?

Н ю р а. Тата! Загадай сваім пагранічнікам, хай сюды пяройдуць. Загадай! Ты ж маеш права!

К і ж а в а т. Застава будзе трымацца да прыходу нашых.

Н ю р а. Каторыя суткі ніводнага самалёта, ніводнага танка...

К і ж а в а т. Мы далі клятву абараняць граніцу. Пакуль ёсць хоць якая-небудзь магчымасць, будзем трымацца...

Е р а м е й. Старшы лейтэнант ідзе.

Уваходзіць П а т а п о в і ч.

Н ю р а *(да Патаповіча).* Вы старшы па званню! Калі ласка, загадайце майму тату, і ён паслухае, пяройдзе сюды...

П а т а п о в і ч. Добра, Нюра. *(Заўважыў Кіжавата.)* Андрэй! Рады цябе бачыць.

Камандзіры адзін аднаму паціскаюць рукі. Зноў з варожай радыёўстаноўкі даносяцца словы: «Увага! Увага! Салдат Брэсцкай крэпасці! Здавайся! Выбірай: жыццё альбо смерць! На роздум засталося дваццаць пяць мінут!» Кіжават і Патаповіч садзяцца на скрынкі з-пад патронаў. Камандзіры аб нечым задумаліся.

Н ю р а. Тата! Калі ласка, загляні да нас у медсанбат...

Кіжават у знак згоды ківае галавой. Н ю р а выходзіць. Кіжават устае, доўга глядзіць услед дачцэ.

П а т а п о в і ч *(падыходзіць да Кіжавата).* Я веру, Андрэй, на савецкай зямлі вораг сустрэне яшчэ многа Брэсцкіх крэпасцей. Яны ў дзесяткі і сотні раз пераўзыдуць нашу бітву на Бугу...

З'яўляецца К о л я. На ім не па росту чырвонаармейскае адзенне. Ён нясе вялізны сувой квяцістага паркалю.

К о л я *(прыпыняецца, кідае на падлогу сувой. Уздыхнуўшы з палёгкай).* Ох!

П а т а п о в і ч *(да Колі).* Што скажаш?

К о л я *(толькі цяпер заўважыў камандзіраў. Разгублена).* Я?.. Нічога...

П а т а п о в і ч *(з іроніяй).* Да Пецькі захацеў?..

К о л я. Да яго, таварыш старшы лейтэнант!

П а т а п о в і ч *(паказваючы на паркаль).* Адкуль узяў?

К о л я. На руінах...

П а т а п о в і ч. Дзе?

К о л я *(паказвае жэстамі)*. Вось так электрастанцыя, дзе фашысты, а тут нашы казармы... Дык пасярэдзіне...

К і ж а в а т *(здзіўлена)*. На нейтральнай паласе?

К о л я. Там, дзе да вайны магазін быў...

П а т а п о в і ч. Хто пасылаў?

К о л я. Я... сам...

К і ж а в а т. Ноччу?

К о л я. Ноччу нічога не ўбачыш. Раніцай.

П а т а п о в і ч. Пад агнём?

К о л я. Пад дымам. Непадалёк пажар быў...

П а т а п о в і ч *(да Кіжавата)*. Якое пакаранне ім прыдумаць? Загадаеш адно, ■ робяць што хочуць!

К о л я *(вінавата)*. Дзецям шукаў цукерак ці пячэння.

П а п а п о в і ч. Дзіця для дзіцяці цукерак... *(Іранічна.)* Знайшоў?

К о л я. Усё завалена... толькі гэты паркаль.

П а т а п о в і ч. І куды цяпер?

К о л я. Да вашага памочніка.

П а т а п о в і ч. Якога?

К о л я. Да Пеці.

П а т а п о в і ч *(усміхнуўся, а затым робіцца суровым)*. Да памочніка, кажаш? А ты ведаеш, дзе ён сядзіць?..

К о л я. Ведаю, таварыш старшы лейтэнант...

З-за абвалу сцяны паказваецца пагражальна кулак Пеці, Коля раптоўна змаўкае.

К і ж а в а т. Пра вашага Пецьку ў нас на заставе легенды ходзяць. Хацеў бы паглядзець на

яго, зняць спагнанне, якое даў у апошнюю суботу перад вайной.

Паказваецца Пецця.

Пеця. Таварыш старшы лейтэнант, дазвольце звярнуцца да начальніка пагранічнай заставы?

Патаповіч *(у здзіўленні глядзіць на ўзброенага выхаванца палка. Пасля паўзы папераджальна кашлянуў).* Дазваляю!

Пеця *(падыходзіць бліжэй).* Таварыш лейтэнант, па вашаму жаданню з'явіўся!

Кіжават *(з радасцю).* Пецька?! Знімаю з цябе нарад, які даў табе па-за чаргі! Памятаеш апошнюю суботу перад самай вайной?..

Пеця. Я вам, таварыш лейтэнант, цяпер самога Гітлера буду лавіць і злаўлю!

Патаповіч *(кідае позірк на Пецю, папераджальна кашлянуўшы. Разгортвае паркаль).* Каб яшчэ сюды іголка ды ніткі, можна было б пашыць якія-небудзь сукенкі жанчынам. У першыя мінуты вайны ім не было калі думаць пра верхняе адзенне, пад бомбамі з агню дзяцей ратавалі...

Пеця. Таварыш старшы лейтэнант, я магу паказаць, як без іголкі і нітак шыць. Глядзіце! *(Адрывае метры два тканіны, выхоплівае з ножнаў штык і пасярэдзіне матэрыялу робіць адным махам прарэз, у які прасоўвае галаву. Вузейшым кавалкам матэрыялу падпяразваецца.)* Сукенка фасону Пеці гатова! *(Паварочваецца.)*

Кіжават і Патаповіч усміхнуліся.

Кіжават. Пецька! Пайшоў бы да мяне на заставу?

Пеця глядзіць на Патаповіча.

А! Зразумела. Ты ў старшага лейтэнанта за памочніка...

П е ц я *(Патаповічу).* У тым воданапорным баку, пра які вы гаварылі ўчора, вады няма. Ні крапелькі...

П а т а п о в і ч. І туды дапяў.

П е ц я. Гэта яшчэ ноччу... А сягоння нічога...

П а т а п о в і ч *(стрымліваючы гнеў. Да Кіжавата).* У вас там, можа, замок вялікі знойдзецца?..

К і ж а в а т *(глянуўшы на хлапчукоў).* Перайду са сваімі пагранічнікамі да вас, тады разам пашукаем такі замок.

П а т а п о в і ч *(да Колі і Пеці).* Вось што, мой памочнік і памочнік памочніка, паркаль перадаць жанчынам і з'явіцца ў штаб абароны. Будзе апошняя размова!

К о л я. Матэрыял на перавязкі ці на сукенкі?

П а т а п о в і ч. Жанчыны самі вырашаць.

П е ц я *(да Патаповіча).* А я ведаю, што вы нам у штабе скажаце.

П а т а п о в і ч. Пецька! *(Папераджальна кашлянуў.)*

П е ц я. Ёсць выконваць загад. *(Бярэ сувой паркалю. Да Колі.)* Айда!

П е ц я ў сукенцы ўласнага фасону і К о л я выходзяць. Зноў з радыёўстаноўкі чуецца: «Салдат Брэсцкай крэпасці! Засталося пятнаццаць мінут! Выбірай: жыццё альбо смерць!..»

П а т а п о в і ч. Што ж, час яшчэ ў нас ёсць. Пройдзем, Андрэй, па лініі абароны. Няхай усе чырвонаармейцы бачаць і ведаюць: пагранічнікі з крэпасці не адступяць! Будзем разам да канца!

П а т а п о в і ч і К і ж а в а т выходзяць.
Ідуць крадком К о л я і П е ц я. Яны нясуць на руках цяжкапараненага Л ё н ю.

К о л я. Лёнька! Вернемся ў медсанбат. Табе ляжаць трэба.

Л ё н я *(перамагаючы боль).* Там цёмны падвал. Страшна... Мяне туды... высока-высока...

П е ц я *(да Колі).* Пайшлі!

Выхаванцы палка нясуць Лёню па лесвіцы на другі паверх казармы.

Л ё н я *(углядаецца ў неба).* Прыляцяць... прыйдуць нашы... Мы ўстанем... *(Спрабуе прыўзняцца, ды не можа.)*

К о л я *(занепакоена).* Лёнька!.. Лёнька...

Л ё н я *(развітальным позіркам абводзіць крэпасць).* Сыграйце маю любімую песню... *(Галава і рукі безжыццёва павісаюць.)*

П е ц я *(з трывогай).* Лёнька! Я табе вады... вады з самога Буга... *(Выбягае.)*

К о л я *(падтрымліваючы, апускае Лёню на руіны. У роспачы).* Што ж ты надумаў?!. Ты не маеш права! Лёнька!

Паўза.

Не! Ты не памёр... Цябе дагналі ўчарашнія кулі...

З варожага боку чуваць аўтаматная чарга.
Прыбягае паранены ў галаву П е ц я. У яго руках каска з вадою.
Хлапчукі некаторы час стаяць у жалобным маўчанні.

П е ц я *(беражліва ставіць каску каля Лёні).* Даруй! Гэта ўсё, што я змог. Ты яшчэ раніцай казаў: самае лепшае лякарства — вада... і я прынёс... Лёнька, Лёнька! Засталася з намі твая няспетая песня.

Гучыць мелодыя песні «Любімы горад».
Пеця павольна сыходзіць уніз. Насустрач ідзе Н ю р а.

Н ю р а *(занепакоена).* Ранены? *(Накладае яму павязку на галаву.)* Моцна?.. Баліць?.. *(Са слязамі.)* Што здарылася?

Паўза.

П е ц я. Плач, Нюрка! Плач! Толькі няхай ніхто не чуе, няхай ніхто не бачыць тваіх слёз. У нас ужо і Лёнькі... няма... *(З болем у сэрцы.)* Чаго маўчыш?

Нюра працягвае стаяць моўчкі, нібы акамянелая.

Загадваю! Плач тут! Нюрка!.. Чуеш? Лёньку забілі!.. Пойдзем, развітаемся...

Н ю р а *(круціць галавой)*. Ён жывы... жывы ў вачах маіх... Хачу, каб такім застаўся назаўсёды ў памяці, у сэрцы... Ты, Лёнька, жывы... для мяне... *(Выходзіць.)*

П е ц я *(не ведаючы, каму сказаць пра сваё вялікае гора)*. Лёнька!.. *(У роспачы кідаецца ў цёмны куток і там плача наўзрыд.)*

Коля стаіць, журботна схіліўшы галаву над целам Лёні. Загучала і пачала аддаляцца песня «Любімы горад», на гэты раз са словамі. Паступова гасне святло.

З а ц я м н е н н е.

## Карціна чацвёртая

Каземат. Свеціцца вузенькае акенца. На падлозе — пустыя скрынкі з-пад патронаў. Справа і злева — хады ў суседнія адсекі. Дзесьці наверсе грукоча вайна: раз-пораз даносяцца блізкія і аддаленыя выбухі, часамі чуваць ружэйна-кулямётная перастрэлка. З'яўляюцца П е ц я і К о л я. Яны з цяжкасцю нясуць насілкі. На іх пад прасцінай вырысоўваецца сілуэт чалавека: відаць каска, боты. Уперадзе з санітарнай сумкай — Н ю р а. У Колі за плячамі гармонік-трохрадка, а ў Пеці — пагнуты салдацкі горн і пісталет, кабура якога звісае аж да самых каленяў. Насустрач з вінтоўкай у руках ідзе Г р ы ш а Е р а м е й. Ён у тапачках, без каскі і рэменя. Хлапчукі збочваюць, ставяць насілкі ля скрынак.

Е р а м е й *(прыпыняецца)*. Памагчы?

Пецяя *(амаль праз слёзы).* Позна... *(Здымае пілотку.)*

Услед за ім здымае галаўны ўбор Коля. Некаторы час усе стаяць у глыбокім маўчанні.

Ерамей. Пахаваем...

Нюра *(па-змоўніцку пераглянулася з хлапчукамі).* Мы самі...

Коля. Ён герой...

Пецяя. Яго з музыкай трэба...

Нюра робіць выгляд, што плача.

Ерамей. Можа, з нашых? *(Прыадкрывае прасціну і хоча зазірнуць у твар чалавека, які ляжыць на насілках. Але там, дзе вырысоўваецца пад прасцінoю галава, аказваецца толькі каска. Бярэ яе ў рукі і глядзіць на хлапчукоў, Нюру.)*

Пецяя *(разгублена).* Яму ў галаву асколкам...

Ерамей. І што?

Коля. Усё...

Ерамей *(з іроніяй).* Шкада! І, відаць, без ног... *(Бярэ боты.)* Яны вашаму нябожчыку не спатрэбяцца. А мне дарэчы. Бачыце ў чым застаўся: хадзіў на сувязь ва Усходні форт крэпасці да маёра Гаўрылава. Давялося двойчы Мухавец пераплываць. А вярнуўся — ні кулямёта, ні каскі, ні ботаў... Бомбай накрыліся... *(Надзяе каску, боты. Кінуўшы хітравата-вясёлы позірк на груз, што прыкрыты ляжыць на насілках, прытупнуў.)* Хлопцы, жыць будзем! Дзякуй вам!

Пецяя *(нявесела).* Насіце на здароўе...

Ерамей выходзіць.
Паўза.

Нюра. Пагарэлі.

Пецяя. Без панікі. *(Заходзіць за скрынкі. Аглядае месца.)* Насілкі сюды!

Коля і Нюра выконваюць загад Пеці.

*(Камандуе.)* Падымай цела!.. Так... Так... Асцярожна!..

Коля. Цяжкі.

Пеця. Шэсцьдзесят шэсць кіло. Бярэм на рукі! Раз-два!.. Узялі!..

Дзеці з цяжкасцю падымаюць на падаконнік станкавы кулямёт «максім». Коля падае каробку са стужкай патронаў. Пеця зараджае, прыцэльваецца.

Нюра. Не страляй! Як пойдуць, тады...

Коля. Яшчэ ці спраўны?

Пеця. Паглядзім... Куды б пальнуць...

Нюра. Па клубу! Кажуць, там фашысты.

Пеця *(паварочвае ствол кулямёта. Да Нюры)*. Папільнуй!

Нюра *(становіцца ля выхаду, азіраецца)*. Давай!

Пеця *(выпускае чаргу з кулямёта. Радасна)*. Парадак!

Коля *(ціснецца да кулямёта)*. Цяпер я...

Пеця *(адпіхае назад)*. Чаго?

Коля *(з крыўдай)*. Скупеча! Шкада двух патронаў.

Пеця. Думаеш, цацку знайшоў?!

Коля. Пецька! Давай у наш разлік Ерамея. Ён вопытны кулямётчык.

Пеця. Такі вопытны, што сам без кулямёта застаўся.

Коля. Ерамей не вінаваты, што бомба на кулямёт упала. Ёй не загадаеш, дзе падаць. Гэта яшчэ добра, што сам Ерамей застаўся жывы.

Пеця. Колька! Больш ні гу-гу! Мы самі павінны адбіць атаку. Тады на нас ніхто не скажа: дзеці; не стане гнаць у падвал. Змікіціў?!

Недзе паблізу чуецца страшэнны выбух. Яго хваля шугану-

ла ў падвал з дымам, пяском і шчэбенем. Закрыўшы рукамі твар, Пеця прыціскаецца да кулямёта.

Коля *(валіцца на падлогу).* Ох!

Нюра *(падхоплівае Колю).* Жывы?

Коля *(абмацвае сябе).* Не ведаю... Здаецца, жывы... *(Сцяўшы зубы ад болю, трымаецца за галаву.)* Ліхтар павесіў...

Нюра. Пакажы.

Коля *(паказвае на галаву).* Тут...

Нюра *(мацае).* Гэта шышка. Ліхтар бывае пад вокам.

Дзеці здымаюць з падаконніка кулямёт, хаваюць яго за скрынкі.

Пеця. Колька, за тваю «шышку» фашыстам дзірак у лабаціне наробім.

Коля. Дакажам, хто мы такія.

Нюра *(паказвае на галаву Колі, іранічна).* Даказаў.

Коля *(асцярожна нацягвае на галаву пілотку).* Нічога не відаць. А што мне баліць галава, ніхто не ведае.

Пеця. Нюра, будзеш у мяне другім нумарам кулямётнага разліку.

Коля. А я?

Пеця. Назначаю падносчыкам патронаў.

Коля пакрыўджана глядзіць на Пецю і Нюру.

Нюра *(да Колі).* Я сваё месца ўступаю.

Пеця. Колька, не крыўдуй. Табе яшчэ кемлівасці не хапае. Трэба галаву за шчыток кулямёта хаваць, а ты рот разявіў да самых вушэй... Вось і ляпнула міна пад самы нос.

Коля. Гэта ж не міна, а цагліна...

Нюра. Пайду.

Пеця. Пачакай. Паглядзіш, як мы Гітлеру перцу на хвост насыплем.

Н ю р а. Я ў медсанбаце патрэбна. *(Выходзіць.)*

К о л я. Гарматы зацiхнуць — пяхота папрэцца. Тады, Пецька, нідзе не дзенешся. Сам папросіш мяне ў свае памочнікі.

З'яўляецца лейтэнант К і ж а в а т.

К і ж а в а т *(прыпыняецца, глядзіць на хлапчукоў)*. Дакладвайце!

К о л я *(рапартуе)*. Таварыш лейтэнант, выхаванцы палка выконваюць ваш загад: сядзяць у падвале.

П е ц я. Толькі сумнавата.

К і ж а в а т. Вось бачыце, і нам спакойна за вас, і вам лепш. А то надумалі наверх, туды, дзе бой. Глядзіце мне, калі хто-небудзь з вас парушыць мой загад ці загад старшага лейтэнанта, усіх у падзямелле і за краты. Інакш з вамі нельга! *(Аглядаецца вакол, заўважае кулямёт.)* А гэта што?

П е ц я. Станкавы кулямёт сістэмы «максім», таварыш лейтэнант!

К і ж а в а т. Хто пакінуў зброю?

К о л я. Ніхто!

П е ц я. Мы вартуем!

К і ж а в а т. Чый кулямёт?

Хлапчукі маўчаць.

Адкуль?

П е ц я. З-пад руін казармы трэцяй роты, таварыш лейтэнант!

К і ж а в а т. Хто дастаў?

Хлапчукі зноў маўчаць.

*(Бярэ з планшэткі запісную кніжку.)* Я павінен ведаць імя героя, які пад агнём ворага, на нейтральнай паласе адкапаў кулямёт.

Хлапчукі пераглянуліся.

П е ц я. Пішыце, таварыш лейтэнант! *(Паказвае на Колю.)* Яго.

К о л я. Самы галоўны — Пеця.

П е ц я *(нясмела)*. Нюра галоўная.

К і ж а в а т *(перапытвае)*. Хто?

П е ц я. Ваша дачка. Яна памагала...

К і ж а в а т. Вось што, героі. Усіх вас пасаджу не ў падвал, а за краты ў падзямелле. Вы ж не выконваеце загад...

П е ц я *(перапыняе)*. Нюра не вінавата. Яна толькі насілкі дала. *(Паказвае.)* Вось гэтыя...

К і ж а в а т. Апошняе папярэджанне! Без ведама камандзіра нікуды і нічога.

К о л я. Больш не будзем...

К і ж а в а т *(гукае ў суседні каземат падвала)*. Яфрэйтар Ерамей!

Прыбягае Е р а м е й.

Е р а м е й. Слухаю вас, таварыш лейтэнант!

К і ж а в а т. Прыняць кулямёт!

Е р а м е й. Ёсць прыняць кулямёт!

К і ж а в а т. Другі нумар разліку самі падбярыце.

Ерамей пачынае аглядаць кулямёт.

*(Да хлапчукоў.)* Кру-гом! У медсанбат, у распараджэнне цёткі Наташы. Ша-а-гам марш!

К о л я і П е ц я пакідаюць каземат страявым крокам.

*(Глядзіць услед выхаванцам палка. Цяжка ўздыхае.)* Дарагія мае Гаўрошы. *(Выходзіць.)*

Неўзабаве з суседняга адсека паказваецца П е ц я.

П е ц я *(прыцішана)*. Таварыш яфрэйтар! Кулямёт спраўны.

Е р а м е й *(радасна)*. А-а! Пецька! Давай сюды!

П е ц я *(крадком прабіраецца да Ерамея і хаваецца за скрынкамі)*. Хто другім нумарам?

Е р а м е й *(спакойна)*. Па цябе думаў ісці.

П е ц я. Зноў кепікі?!

Е р а м е й. Праўду кажу.

П е ц я. Партыйны?

Е р а м е й. Не.

П е ц я. Камсамолец?

Е р а м е й. Хочаш ад мяне «чэснае камсамольскае»? Чуў, што лейтэнант сказаў, памочніка сам падбярэш. А я цябе... Гэта твой кулямёт, ты яго, можна сказаць, з таго свету дастаў.

П е ц я *(радасна)*. Дзядзька Грыша, ты адзіны, хто мне паверыў.

Е р а м е й. Табе ўсе вераць. Нездарма цябе называюць Гаўрошам Брэсцкай крэпасці.

П е ц я. Гэта той самы з кніжкі, што ў Парыжы на барыкадах?

Е р а м е й. Той самы. Кажуць, старшы лейтэнант цябе сваім памочнікам прызначыў.

П е ц я. Зусім і не памочнікам.

Е р а м е й. Ты ж казаў.

П е ц я. Гэта спачатку здавалася. А на самай справе ён узяў да сябе, каб не даць мне разгарнуцца: «Ты, Пецька, дзяцей не баламуць!», «Пецька, нікуды», «Пецька, гэтага нельга». Вось такі ён... Цяжка мне з ім... *(Па абломках лесвіцы падымаецца на другі паверх.)*

Е р а м е й. Ранавата табе, Пецька, першым нумарам, вось пабудзеш у мяне памочнікам, падвучышся.

У гэты час крышка каналізацыйнага люка непрыкметна прыўзнімаецца, і адтуль вылазіць ф а ш ы с т. Ён кідаецца да Ерамея, які паспявае выбіць з рук ворага фінскі нож.

Завязваецца барацьба. З люка паказваецца другі фашыст. Пецця робіць па ім трапны стрэл, і варожы салдат асоўваецца мяшком назад. Затым Пеця кідаецца на выручку Ерамею: цаглінай па галаве аглушае гітлераўца.

Пеця (*выціраючы рукі*). Капут!

Ерамей (*падхопліваецца, накіроўвае пісталет на фашыста*). Устаць! Рукі ўгору!

Пеця (*здзіўлена*). Жывы? (*Пагражаючы пісталетам.*) Ах ты, прыдурак! Фашысцкая гадзюка!

Фашыст нехаця ўстае, падымае рукі.

Ерамей (*робіць вобыск: забірае ў гітлераўца пісталет, гранаты. Да Пеці*). Адвядзі яго ў штаб, а сам — назад!

Пеця. Добра! (*Падбірае фінскі нож і з ім набліжаецца да фашыста, але той са страху падаецца назад.*) Не бойся! Я толькі зрэжу ўсё, на чым у твайго Гітлера штаны трымаюцца. (*Зразае гузікі са штаноў палоннага.*) Трымай! Цяпер не ўцячэш! І давай уперад! (*Выводзіць фашыста.*)

Ерамей правярае люк, адкуль лезлі фашысты, затым спыняецца ля кулямёта.
Неўзабаве з'яўляецца Пеця.

Ерамей. Нешта ж ты скора. Напэўна, не рыссю, а галопам гнаў?

Пеця. А я яго па дарозе Самвелу Матэвасяну перадаў. Матэвасян кажа, што фашыст гэты — «жывы язык». І яшчэ Матэвасян ад самога палкавога камісара Фаміна і капітана Зубачова загад прынёс: быць усім напагатове... вось-вось фашысты на штурм крэпасці пойдуць...

Ерамей. Малыш! Патроны! (*Бярэ кулямёт і ставіць яго на падаконнік.*)

Ерамей і Пеця рыхтуюцца да бою.

Пеця (*шэпча на вуха Ерамею*). Я не малыш.

Е р а м е й  *(таксама прыцішана).* Ведаю! Маўчы.

П е ц я. Маўчу... Скора папруцца...

Разлік кулямёта застыў у напружаным чаканні. Зноў пачуліся выбухі. У акно ляціць раструшчаная цэгла, пясок.
І раптам усё сціхае. Павольна асядае пыл і дым.

Е р а м е й *(хапаецца за сцяну, асоўваецца на падлогу).* Страляй, Пецька, страляй! За Сурэна страляй! За мяне страляй!..

П е ц я *(разгублена).* Куды страляць?

Е р а м е й. Страляй! Няхай гады ведаюць: Грышка жывы... Пецька жывы... Сурэн жывы...

П е ц я *(убачыў, што Ерамей паранены, кідаецца да яго).* Моцна? *(Шукае, чым перавязаць рану.)*

Е р а м е й. Чуеш?.. Гарматы маўчаць... Трымайся... Фашыст пойдзе... *(Цягнецца да кулямёта і асоўваецца на зямлю.)*

П е ц я *(падтрымлівае Ерамея, гукае ў суседні адсек падвала).* Сястра! Сястра!

З'яўляецца Н ю р а.

Ерамея параніла!.. *(Схіляецца над яфрэйтарам.)* Дзядзька Грыша! Ты чуеш мяне?! *(Да Нюры.)* Толькі што гаварыў...

Н ю р а *(улівае з біклагі ў рот Ерамею глыток вады).* Выпіў! Жыць будзе.

П е ц я. Дзядзька Грыша! Ты чуеш? Мы з табою яшчэ будзем гнаць фашыстаў, гнаць да Берліна!..

Н ю р а. У медсанбат!

П е ц я і Н ю р а кладуць на насілкі Е р а м е я, выносяць.
Неўзабаве з другога боку з'яўляецца К о л я.

К о л я *(заўважае кулямёт. Аглядаецца).* Як

той у кіно казаў: «Пушкі вашы сталі нашы...» *(Бярэцца за рукаяткі кулямёта.)*

Уваходзіць Пеця.

Пеця *(кладзе на Колева плячо руку)*. Гэй, ты!

Коля. Што?

Пеця. Дзвесце! Злазь, прыехалі!

Коля. А Ерамей дзе?

Пеця *(з сумам)*. Параніла. Я цяпер тут камандую.

Коля. Мяне возьмеш?

Пеця. Нюры абяцаў. Ты будзеш памочнікам майго першага памочніка. *(Назірае праз акенца. Насцярожана прырастае да кулямёта.)* Вось... вось... глядзі... паказваюцца. Ціха... Ціха... Не палохай...

Паўза.

Здалёку даносяцца крыкі фашыстаў, якія ідуць на штурм крэпасці. З нашага боку пачуліся дружныя стрэлы. Пеця прыцэльваецца.

Коля *(з нецярплівасцю)*. Лупі!.. Лупі!..

Пеця адкрывае агонь. Спачатку кароткімі, а затым доўгімі чэргамі. Неўзабаве чутно гучнае «ўра!». Гэта абаронцы пайшлі ў контратаку. Пеця выпусціў патроны са стужкі і стаіць, нібы прыкаваны да кулямёта.

Убягае Нюра.

Нюра. Пецька!

Яе ніхто не чуе.

Коля. Ура! Ура!

Нюра. Пецька! Пецька!

Коля азірнуўся.

Коля. Пецька, Нюра прыйшла!

Пеця *(не чуе)*. Пайшлі! Пайшлі! Ура!.. Наша ўзяла!

К о л я *(крычыць Пецю на вуха).* Нюра прыйшла.

П е ц я *(паказвае на вушы).* Не чую!

Коля бярэ Пецю за галаву і паварочвае. Уваходзіць лейтэнант К і ж а в а т.

К і ж а в а т. Дакладвайце аб становішчы на вашым участку.

К о л я. Таварыш лейтэнант! Пецька не даў мне і дакрануцца да кулямёта. Няхай ён і дакладвае.

П е ц я. Не пайду!

К і ж а в а т. Малайчына!

П е ц я *(спакойна).* Я ведаю, што вы скажаце: пад замок да прыходу нашых. *(Мяняе тон.)* А я не хачу ў цёмным падзямеллі паміраць! Не хачу! Усё адно нашы не скора прыйдуць! Вы самі ведаеце! Не паспеюць.

Н ю р а. Яго аглушыла.

К і ж а в а т *(па-бацькоўску кладзе Пецю руку на плячо, усміхаецца).* Герой! *(Свой медаль прычапляе Пецю.)* Насі, Пецька, медаль «За адвагу»! Няхай усе бачаць адважнага Гаўроша Брэсцкай крэпасці! *(Паказвае на кулямёт.)* Аставайся!

П е ц я *(усміхнуўся, кіўнуў у знак згоды галавой).* Цяпер адпусціла, чую.

К і ж а в а т. Пойдзем, таварыш Коля!

К і ж а в а т і К о л я выходзяць.

П е ц я. Магу, Нюра, табе вады прынесці з Буга...

Н ю р а *(набліжаецца да Пеці).* Пецька! Дай паглядзець на цябе...

У гэты момант зверху засвісталі снарады. Скаланулася ўсё навокал ад выбухаў. Вузкая палоска святла ў акне засцілаецца чорным дымам. Постаці Нюры і Пеці паступова цямнеюць.

Голас Пеці. Нюра!
Голас Нюры. Пецька-а!

Новы страшэнны выбух заглушае гэтыя словы і засцілае цемрай падвал.

Зацямненне.

## ДЗЕЯ ТРЭЦЯЯ

### Карціна пятая

Каземат падвала. Ён апалены выстраламі варожых агнямётаў. Са скляпенняў густа звісаюць шэрыя капяжы. Гэта застылі расплаўленыя цагліны. На падлозе — пустыя скрынкі з-пад боепрыпасаў. На адной з іх гарыць газоўка, зробленая з гільзы артылерыйскага снарада. Пры яе цьмяным святле сядзіць Кіжават і штосьці піша. Галава яго і левая рука забінтаваны.

Убягае Ерамей.

Ерамей. Таварыш лейтэнант! Фашысты перадалі, што праз пяць мінут да нас накіроўваецца парламенцёр. Ён у званні капітана, ідзе [redacted] белым флагам. На час перагавораў прапаноўваецца спыніць баявыя дзеянні.

Кіжават. Далажыце Патаповічу.

Ерамей. Старшы лейтэнант аддаў загад спыніць агонь і накіраваў мяне да вас.

Кіжават. Тады сустракайце няпрошанага госця.

Ерамей. Можа, яго ў Белы палац, туды, дзе ў васемнаццатым быў падпісаны Брэсцкі мір?

Кіжават. Сюды! У гэты падвал! Няхай вораг бачыць: камень, жалеза, цэгла плавяцца, гараць, а мы жывём і змагаемся!

Ерамей. Зразумела! *(Выбягае.)*

К і ж а в а т *(зрывае з галавы бінты. Крычыць у суседні адсек падвала)*. Пецька!

Убягаюць П е ц я і Н ю р а.

Каску!

Пеця здымае каску і аддае яе лейтэнанту. Ён асцярожна надзяе на сваю галаву.

Н ю р а *(занепакоена)*. Ой! Так жа баліць!

К і ж а в а т *(пераадольвае боль, стараецца схаваць раненую руку ў кішэню)*. Дапамажы!

Н ю р а *(дапамагае)*. Што здарылася?

П е ц я. Парламенцёр ідзе ў крэпасць.

К і ж а в а т *(паварочваецца)*. Як, таварыш, не відаць, што ваш камандзір паранены?

Уваходзіць П а т а п о в і ч.

П а т а п о в і ч. Падрыхтаваўся? *(Мяняе тон.)* Андрэй! Вораг яшчэ не ведае, што загінуў штаб абароны крэпасці. Магчыма, парламенцёр захоча сустрэцца са старшымі камандзірамі.

К і ж а в а т *(задумаўся. Нюры і Пецю)*. Фашыст няхай пачакае. *(Патаповічу.)* У мяне ёсць ідэя. Выйдзем!

К і ж а в а т і П а т а п о в і ч выходзяць.
Убягае К о л я.

К о л я *(з радасным крыкам)*. Ура! Сам Гітлер просіцца на мірныя перагаворы!.. Да нас парламенцёра пасылае...

Н ю р а. Ведаем...

П е ц я. Фашыст нам заявіць: «Складзі зброю». А мы яму адкажам: «Гэтага ад нас не дачакаешся!»

Н ю р а. Вядуць!

П е ц я *(папраўляе гімнасцёрку, рэмень. Колю)*. Падцягніся!

К о л я. Перад кім?

Пе ц я. Няхай вораг адчувае нашу дысцыпліну!

Ко л я *(выконвае загад Пеці).* Так бы і сказаў...

Пе ц я *(важна садзіцца на скрынку, закідвае нагу за нагу. Нюры).* Будзеш перакладчыцай. Я пашпрэхаю.

Н ю р а. Па-нямецку не ўсё разумею...

З'яўляецца з белым флагам Парламенцёр. У яго завязаны вочы. Ён, выцягнуўшы рукі перад сабою, ідзе вобмацкам.

Парламенцёра суправаджае Ерамей.

Па р л а м е н ц ё р *(прыпыняецца).* Гэта здзек над парламенцёрам!

Е р а м е й. Даруйце, пан капітан! Хацеў бы вас за ручку ўзяць, але, на жаль, парламенцёр — асоба недатыкальная.

Па р л а м е н ц ё р. Вы павінны ісці ўперадзе.

Е р а м е й. Не прадугледжана ўставам! Салдат, калі суправаджае афіцэра, заўсёды ідзе за ім.

Па р л а м е н ц ё р. Не жадаю слухаць! Вядзіце да галоўнага камандавання крэпасці!

Е р а м е й. А мы амаль і прыйшлі.

Пе ц я. Бітэ! Ком! Ком! Сюды! Да мяне!

Парламенцёр падыходзіць да Пеці. Ерамей пагражае кулаком Пецю, каб той маўчаў. Развязвае вочы фашысцкаму капітану.

Па р л а м е н ц ё р *(не спяшаючыся, дастае з кішэні акуляры, праціраe шкло).* З кім маю гонар весці размову?

Н ю р а. Айн момант. Камандзірэн шнэль геен.

Е р а м е й *(да Нюры).* Што яму адказала?

Н ю р а. Каб пачакаў. Наша камандаванне скора прыйдзе.

Ерамей *(да Пеці)*. А ты, дыпламат, памаўчы.

Парламенцёр *(надзяе акуляры. З жахам абводзіць позіркам падвал, кранае рукой застыўшыя капяжы расплаўленай цэглы. Заўважае хлопчыкаў і Нюру. У здзіўленні)*. Дзеці?

Нюра. Зольдатэн.

Парламенцёр. Салдаты?!. *(Пасля паўзы.)* Адкуль ведаеш нямецкую мову?

Нюра. Вучыла.

Парламенцёр. У школе?

Нюра. Сама.

Парламенцёр *(здзіўлена)*. Навошта?

Нюра. Хацелася да вас у госці. Думала, калі і вы да нас завітаеце, дык я змагу з вамі на вашай роднай мове гаварыць. Я нават Генрыха Гейнэ чытаю ў арыгінале.

Парламенцёр. Якога Гейнэ?!.

Пецbackward. Вялікі нямецкі паэт. «Зімнюю казку» напісаў...

Парламенцёр. Яго кнігі спалены! Ён знішчаны!.. *(Паўза.)* Ты хацела, каб мы завіталі да вас? Вось мы і прыйшлі...

Нюра. Вы тут не госць!

Парламенцёр. Гаспадар!

Коля. Хто вас прасіў?

Парламенцёр. Мы прыйшлі на гэтую зямлю ўстанаўліваць новы парадак.

Нюра. У вас дзеці ёсць?

Парламенцёр. Дзеці не павінны ваяваць! Чаму вы салдаты?

Нюра. А каб бандыты ўварваліся да вас, пачалі забіваць усіх, падпалілі ваш дом? Што б рабілі вашы кіндэры?

Фашыст маўчыць.

Пеця. Яны таксама сталі б салдатамі!

Коля. Навошта вы нас забіваеце?

Нюра. Што мы вам благое зрабілі?!

Парламенцёр. Нямецкае камандаванне кожны дзень прапануе спыніць супраціўленне. Але вашы камісары і камандзіры не разумеюць, што абарона крэпасці бессэнсоўная. *(Садзіцца. Белы флаг кладзе на скрынку.)*

Пеця *(Парламенцёру)*. Устаць!

Парламенцёр *(Ерамею)*. Вам даручана мая бяспека. Праганіце адгэтуль дзяцей!

Ерамей. Яны салдаты. Кожны з іх мае права цяпер вам пусціць кулю ў лоб.

Парламенцёр. Я парламенцёр.

Ерамей. Пакуль што не бачу.

Коля *(накіроўвае дула пісталета на фашысцкага капітана)*. Устаць!

Парламенцёр устае, бярэ ў руку белы флаг.

Ерамей. Цяпер ідаць.

Пеця. Вышэй руку! Вось так. А то рассеўся тут, як дома, ды яшчэ антысавецкую прапаганду пачынае...

Уваходзяць Патаповіч і Кіжават. Адзін з іх у форме палкавога камісара, другі — палкоўніка. Абодва падцягнутыя, боты начышчаныя, аж блішчаць.
Усе ўстаюць.

Парламенцёр. Перад вамі парламенцёр, капітан нямецкай арміі. З кім маю гонар весці размову?

Патаповіч. А перад вамі палкоўнік і палкавы камісар — кіраўнікі абароны Брэсцкай крэпасці!

Парламенцёр. Вельмі прыемна!

Кіжават *(перапыняе)*. Адказвайце! *(Паказ-*

*ваючы за акенца на плошчу.)* Навошта забілі гэтых людзей?!

П а р л а м е н ц ё р *(разгублены нечаканым пытаннем).* Я... я ад імя нямецкага камандавання прыйшоў перадаць: каб пазбегнуць новых ахвяр, мы патрабуем неадкладна скласці зброю і здацца ў палон! Усім будзе захавана жыццё...

П а т а п о в і ч *(перапыняе).* Тут мы над вамі суддзі. І мы патрабуем перадаць нямецкаму камандаванню наш ультыматум: неадкладна спыніць бандыцкую вайну супроць нашай краіны.

П а р л а м е н ц ё р. Пан палкоўнік, пан камісар! Не забывайце, мы пераможцы! Вам, напэўна, яшчэ невядома, што нашы войскі ўчора занялі Смаленск?

К і ж а в а т. На подступах да Смаленска. Вас, пан капітан, няправільна інфармавалі.

П а р л а м е н ц ё р *(нервова).* Дэталі не маюць значэння. Войскі фюрара праз тыдзень будуць на вуліцах Масквы. Чаго вы чакаеце?

П а т а п о в і ч. Перамогі!

П а р л а м е н ц ё р. Яна, як бачыце, недалёка.

П а т а п о в і ч. Нашай перамогі! Нашай, якая будзе там, на вуліцах Берліна!

П а р л а м е н ц ё р. Я прыйшоў пачуць цвярозы адказ.

К і ж а в а т. Мы патрабуем спыніць бандыцкую вайну! Спыніць неадкладна: патрабуем ад імя свайго ўрада, патрабуем ад імя свайго народа!

П а р л а м е н ц ё р. Страшны фанатызм! Нармальны чалавек так разважаць не стане! Тут, у крэпасці, я чуў, як у падвалах плачуць дзеці, чуў трагічныя галасы жанчын...

П а т а п о в і ч. Гэта тых, каго вы спальваеце агнямётамі?

П а р л а м е н ц ё р. Складзіце зброю, і ўсе за-

станецеся жывыя. Я ведаю, у крэпасці знаходзяцца вашы родныя, блізкія. Яны загінуць разам з вамі. *(Паказвае белым флагам на Колю, Пецю, Нюру.)* Загінеш ты! Загінеш ты! І загінеш ты! А калі бацька шкадуе сваё дзіця, ён ніколі не аддасць яго ў рукі смерці. Прыміце нашы патрабаванні, і мы створым вам добрыя ўмовы, вы будзеце жыць... *(Запытальна глядзіць на дзяцей, а затым на камандзіраў.)*

Нюра, Коля і Пеця адвярнуліся ад фашыста і чакаюць адказу Кіжавата і Патаповіча.

Паўза.

Н ю р а *(Парламенцёру)*. Мы не кінемся ў ногі вам! Гэта вы павінны ў нас прасіць літасці! Вы — забойцы! Чаго прыйшлі на нашу зямлю?

П а р л а м е н ц ё р. Усе тут камісары, бальшавікі!

К і ж а в а т *(фашысцкаму капітану)*. Размова закончана! Пакіньце крэпасць! *(Ерамею.)* Завяжыце парламенцёру вочы і адпраўце назад!

Ерамей пачынае выконваць загад.

П а р л а м е н ц ё р. Калі вашы салдаты захочуць спыніць абарону, падыміце белы флаг. Мы прышлём сваіх салдат. Яны пакажуць, куды ісці. Падумайце! На развагу — гадзіна!

П а т а п о в і ч. Гэтага, пан капітан, ніколі не дачакаецеся! Так і перадайце свайму Гітлеру, перадайце ад салдата Брэсцкай крэпасці!

Е р а м е й выводзіць П а р л а м е н ц ё р а. Услед ідуць П е ц я і К о л я. Кіжават, нібыта пасля цяжкай работы, стомлена апускаецца на скрынкі. Побач садзіцца Нюра. П а т а п о в і ч памкнуўся быў падысці да лейтэнанта, але, заўважыўшы, што той па-бацькоўску ласкава глядзіць на дачку, выходзіць. Нюра, нібы маленькая, прыціснулася да бацькі, абняла яго.

Кіжават і Нюра сядзяць моўчкі.
Гучыць музыка: у ёй — Нюрыны словы-думкі: «Гэта вельмі страшна, калі людзі забіваюць сонца, зоркі, неба! Гэта вельмі страшна, калі людзі спальваюць казку, калі людзі забіваюць людзей і ласку! Для чаго?! Хто даў права такое?! Хто?!.» Апошнія словы заглушае артылерыйская кананада.

Зацямненне.

## Карціна шостая

Трывожная цішыня вайны.
Каземат падвала, што і ў папярэдняй карціне. Водбліскі пажару скачуць па яго чорных сценах.
У пагранічнай фуражцы, якая закрыла лоб і вушы, з'яўляецца Пеця. У яго левая рука забінтавана і безжыццёва звісае на рэмені. Знясілены голадам, смагай, бяссонніцай і раненнямі, ён траціць сілы і асоўваецца на падлогу.
Убягае Нюра. Яшчэ здалёку чуваць яе занепакоены голас:
«Пецька! Пецька!»

Нюра *(убачыўшы Пецю, кідаецца да яго. Трывожна, са слязьмі)*. Пецька?! *(Трасе яго, дае з біклагі вады.)*

Пеця *(прыўзнімаецца. Слабым голасам)*. Ты...

Нюра. Я...

Пеця *(з дапамогай Нюры садзіцца)*. Пасвятлела...

Нюра. Яшчэ глыток... Табе двайная порцыя дазволена: ты ж дзіця і ранены.

Пеця. Сама «дзіця»!

Нюра. Бачыш, выпіў крыху вады і адразу ажыў. Раны ў цябе не страшныя... *(Прытуляецца да Пеці. З ласкай.)* Чуеш, сэрца б'ецца... *(Прытуляецца да твару.)* І дыхаеш... *(Абдымае галаву.)* І галава не раненая... Усё добра будзе... Кулямёт-

чыка Ерамея не так стукнула, а глядзі, устаў і зноў з нашым «максімам».

П е ц я. Эх, каб дабрацца да Буга ці Мухаўца! Уяўляеш: тысяча куль мяне прабівае, але я жывы кідаюся на самае дно. І адразу выпіваю рэчку. Станаўлюся ростам аж за воблакі, такім асілкам, што адным махам вось гэтай рукі ўсіх фашыстаў на той свет... І там ім ні дна і ні пакрышкі!

Н ю р а. Ой, як ты гаворыш!.. Як паэт. Напэўна, да вайны вершы пісаў? Прызнайся!

П е ц я. Вершы?! Не-е...

Н ю р а. Тады ў цябе галюцынацыя.

П е ц я. Што, што?

Н ю р а. Гэта хвароба такая! Чалавек уяўляе, што ён нейкі велікан-волат, у яго рукі на цэлыя кіламетры... Такія доўгія, доўгія... Вось гэта і ёсць галюцынацыя...

П е ц я. Не ведаў.

Н ю р а. Я з каляндарыка вычытала. Вучоны пісаў.

П е ц я. Памятаеш, Нюра, як некалі перад самай вайною са школы вярталіся і дробненькі дождж ішоў. Мы папрасілі: «Дожджык, дожджык, секані!» — і ён паліўся як з вядра...

Н ю р а. Якія дурні былі, пад каштанамі пахаваліся... Ад вады...

П е ц я. Давай цяпер папросім!

Н ю р а. Давай!

Н ю р а і П е ц я *(узяўшыся за рукі, узняўшы іх над галавою, пачынаюць кружыцца, да неба з мальбою).*

Дожджык, дожджык, секані!
Я паеду на кані
З ключыкам-замочкам,
Шаўковым павадочкам...

Пеця пахіснуўся. Яму робіцца млосна.

Нюр'а. Пецька, дождж пайшоў! Пайшоў! *(Трасе над вухам Пеці біклагу.)*

Пеця *(ажываючы. Мнагазначна).* Вада... *(Бярэ біклагу, адвінчвае крышку, нюхае ўзацяжку.)* Ох! Ох!

Нюра *(таксама нюхае).* Здорава!.. Я сёння не піла. Цябе шукала. Думала разам. І твае тут дзве порцыі.

Пеця. А як мне было млосна, я лішняга не выпіў?

Нюра. Толькі губы памачыў.

Пеця. А я думаў...

Нюра адмервае ваду ў крышку ад біклагі і дае Пецю. Пеця жэстам рукі адмаўляецца.

Нюра *(вылівае ваду назад).* Ведаю твой характар, а таму і не ўпрошваю... Пецька... *(Сарамліва замаўкае.)*

Пеця. Чаго?

Нюра *(з хваляваннем).* Прызнацца... сказаць хачу пра самае дарагое на свеце... Для мяне...

Пеця. Ведаю.

Нюра. Скажы... *(Аглядаецца.)* Тут нікога...

Пеця. Вада. Адгадаў?

Нюра *(уздыхнуўшы).* Ты нейкі...

Пеця. Які?

Нюра *(пакрыўджана).* Не скажу...

У падвал заглянуў вузенькі праменьчык сонца.

Пеця *(заўважыўшы гэта. Здзіўлена).* Ой, Нюра!

Нюра *(радасна).* Сонейка! *(Хоча абняць палоску святла.)* Жывое!.. Добры дзень! *(З замілаваннем.)* Дзе ты было так доўга? *(Ловіць рукамі праменні.)* Не бойся, гэта я і Пецька.

П е ц я. Не чапай! Няхай свеціць.

Н ю р а. Чаму ты такое, што цябе нельга зачарпнуць?

П е ц я. Не выдумляй лішняга. Сонца зроблена добра. А ты хочаш, каб яго вёдрамі, як ваду, расцягвалі.

Н ю р а. Не расцягаюць! Пабудзе ў падвале, дзе раненыя, ды выпусцім.

П е ц я. Гэта ты, Нюрка, такая. А капіталіст ды фашыст мог бы цыстэрнамі ды машынамі вялізнымі... І атрымалася б: адзін у сонцы купаецца, а другому — цёмная ноч! Гітлер, той бы дадумаўся закаваць сонца ў ланцугі, каб яно нікуды і нікому, а толькі яму...

Н ю р а *(зажмурыўшы вочы, глядзіць праз акенца ўверх)*. Неба нейкае параненае...

П е ц я. Гэта ад смагі і голаду. Мне таксама ўсё ўваччу шэра-жоўтае.

Н ю р а. Сонейка! *(Спахапіўшыся, дастае з санітарнай сумкі два кавалачкі люстэрка.)* Пецька! Трымай! *(Аддае адзін кавалак шкельца.)* Свяці на мяне! *(Адбягае да выхаду.)*

Пеця пускае на Нюру сонечнага «зайчыка».

Не ў вочы! *(Падхоплівае сваім люстэркам Пецевага «зайчыка» і пускае яго з казэмата.)* Каб яшчэ два такіх кавалачкі люстэрка, дык можна было б перадаць «зайчыка» ў цёмны падвал да раненых.

П е ц я *(выцягвае з кабуры пісталет і яго рукаяткай мерыцца разбіць шкельца)*. Перададзім!

Н ю р а *(выхоплівае люстэрка з рук Пеці)*. Гэта ж медыцынскі прыбор.

П е ц я. Аперацыі ім робіш?

Н ю р а. Прыкладаю люстэрка да вуснаў параненага і ведаю, ці жывы ён...

П е ц я. Пакажы! *(Бярэ люстэрка, хукае на*

*яго.)* Каб твой інструмент людзей ад смерці ратоўваў, тады б дзіва было.

Пеця і Нюра пускаюць «зайчыкі». Яны скачуць па сценах і скляпеннях казэмата. Пеця затрымлівае «зайчыка» на адным месцы. Кідаецца туды і чытае патрыятычны надпіс на сцяне.

Нюра. Што там?

Пеця маўчыць. Нюра стараецца заглянуць у напісанае. Уваходзіць Коля.

Коля *(нявесела)*. Мяне паслалі па цябе, Пецька, і па Нюру.

Нюра. Хто?

Коля. Твой бацька.

Пеця. Каб мы пакінулі сягоння крэпасць? Так? За гэтым клічуць?

Коля. Сабралі жанчын, дзяцей. І выхаванцам палка загадана...

Нюра *(даючы знак, каб Коля пайшоў)*. Мы прыйдзем.

Коля выходзіць.

Пеця. Пойдзеш?

Нюра. А ты?

Пеця. Мне нельга. Я чырвонаармеец... А табе трэба...

Нюра. Тата тут застаецца. І мама недзе... Ты, Пецька, ідзі наверх... Я на хвілінку...

Пеця. Плакаць збіраешся?

Нюра. Не! Чэснае піянерскае!

Пеця выходзіць. Нюра, азіраючыся, падыходзіць да надпісу на сцяне. Святло вырывае з цемры толькі суровы твар дзяўчынкі, якая ціха чытае. Услед гучыць голас яе бацькі.

Голас Кіжавата: «...Раздалі апошнія боепрыпасы, няма вады, людзі галодныя... Сёння

загадваем: дзецям, жанчынам і выхаванцам палка пакінуць крэпасць. Мы застаёмся да канца. Пamром, але не здадзімся! Бывай, Радзіма! Камуністы лейтэнант Кіжават, старшы лейтэнант Патаповіч... 20.VII.41...»

Нюра. Тата! Я [redacted] табою не развітваюся!

Убягаюць Коля і Пеця. Яны азіраюцца, занепакоеныя. Коля хаваецца за пустую скрынку, а за ім і Пеця. Уваходзіць лейтэнант Кіжават. Ён стомлены, галава забінтавана. У руках пакунак.

Кіжават *(бярэ Нюру за руку)*. Там наверсе сабраліся жанчыны і дзеці, родныя і блізкія якіх загінулі. Ім няма ўжо з кім развітвацца. Не будзем трывожыць людскія раны. Развітаемся тут... *(Прыціскае дачку да сябе, цалуе.)* Выйдзеш з крэпасці. Знойдзеш маму. Яна недзе ў Брэсце. Затым дабірайцеся да дзядулі, у вёску...

Нюра. А ты?

Кіжават. Тут граніца... застава, а я яе начальнік... Перадай маме ўсё-ўсё харошае, усё, што не паспеў за службай сказаць табе, дачка мая, і маме... *(Працягвае пакунак.)* Пераадзенься ў цывільнае. Тут для Пецькі і Колі таксама.

Нюра. Не пайду!

Кіжават. Нюра!

Нюра. Нікуды!

Пеця *(з-за скрынкі)*. Ідзі, Нюра, ідзі!

Кіжават *(адсоўвае скрынку, за якой сядзяць Пеця і Коля)*. Як бы добра вам тут ні было, уставаць трэба.

Пеця і Коля вылазяць з-за скрынкі. Вінавата глядзяць на лейтэнанта.

Пеця *(пасля паўзы)*. Таварыш лейтэнант, даруйце! Не вытрымаў: хачу сказаць — Нюра ваша

ўпартая. І я ёй кажу: пакідай крэпасць. Табе, Нюра, жыць трэба...

Кіжават *(бярэ за рукі выхаванцаў палка).* Вось бачыш, Нюра, Коля і Пеця пойдуць! Вы ўжо разам трымайцеся...

Коля і Пеця нечакана вырываюцца з рук Кіжавата і пускаюцца наўцёкі.

Нюра *(крычыць услед).* Пецька! *(Хоча бегчы за хлапчукамі, але яе затрымлівае бацька.)*

Кіжават. Іх таксама адправім.

Кіжават і Нюра пакідаюць казамат.
Здалёку насустрач адзін аднаму з розных бакоў нясуцца развітальныя галасы Нюры і Пеці. У іх адчуваецца трагедыя перажытага і боль ростані.

Голас Нюры. Пецька!

Голас Пеці. Нюра!..

Зацямненне.

## Карціна сёмая

Вечар. Руіны Цярэспальскай вежы.
Недзе непадалёку фашысты ўстанавілі радыёрупар. З яго выразна даносяцца тахканне гадзінніка і голас: «Бальшавіцкі салдат! Засталося трыццаць мінут! У апошні раз прапануем здацца!»
Далей праз усю карціну чуецца ход гадзінніка, які робіць абаронцам крэпасці апошні напамінак.
Ля пралому сцяны святло пражэктара выхоплівае Пецю з яго неразлучным салдацкім горнам, пагнутым і прабітым асколкамі, і Колю з гармонікам, мяхі якога месцамі перавязаны бінтамі. Хлапчукі крадком назіраюць з пралому сцяны, што за ёю адбываецца, прыслухоўваюцца.

Коля. Сход.

Пеця. Партыйны.

Коля. Ваенны.

П е ц я. У партыю прымаюць.

К о л я. Чуеш, пра абарону гавораць.

П е ц я. Усё адно партыйны.

К о л я. Тады ваенна-партыйны!

П е ц я. Айда! За мной!

К о л я. Пачакай, можа, закрыты?

П е ц я. Тут і закрываць няма чаго. Нідзе не засталося ні акон, ні дзвярэй, ні столі...

К о л я. Пецька, нас туды не прасілі!

П е ц я. Не забывай! Піянер — памочнік партыі!

К о л я. Памочнік камсамола і ўнук партыі.

П е ц я. Унук партыі! Слухай маю каманду!..

К о л я *(затрымлівае Пецю)*. Пецька! Ты адгадаў! Сход партыйны.

П е ц я. Уступім у бальшавікі?

К о л я. Табе колькі год? Трынаццаць?

П е ц я. Можа, і ўсе чатырнаццаць. Адкуль мне ведаць? Я без дакументаў нарадзіўся. У дзіцячым доме ўзрост на вока вызначаюць. Напэўна, і мне ўбавілі год ці два. Нянькам гэта выгадна. Старэйшыя дзеці пацаноў забаўляюць, каб не раўлі. *(Паўза.)* А з якіх год прымаюць у бальшавікі?

К о л я. Не ведаю. Толькі ведаю, што дарослых.

П е ц я. Тады давай у камсамол!

К о л я. Ранавата. *(Завязвае піянерскі гальштук.)* З гальштукам нейк лягчэй.

Пецяя таксама дастае з-за пазухі гальштук і завязвае сабе. Хлапчукі зноў прыслухоўваюцца, аб чым ідзе размова за сцяною.

З'яўляецца Е р а м е й. Ён з аўтаматам.

П е ц я. Дзядзька Грыша! Пра што гэта там?

Е р а м е й. Партыйны сход. Гавораць, што ў

абароне яшчэ застаюцца выхаванцы палка. Трэба іх неадкладна адправіць з крэпасці. Няхай пераадзенуцца ў цывільнае і скажуць ворагу, што яны дзеці вольнанаёмных людзей, якія да вайны працавалі тут на будаўніцтве.

Коля *(штурхае Пецю)*. Чуеш? Загад ваеннабаявы ды яшчэ рашэнне партыйнае. І ўсё на нас з табой...

Пеця. Спалохаўся?

Коля. Зусім не! Нікуды не пайду з крэпасці!

Пеця. За гэта да сценкі не паставяць.

Коля. Дзядзька Грыша, сядайце, калі ласка. *(Дае месца побач з сабою.)*

Ерамей. Нельга, хлопцы.

Пеця. Сход каравуліце?

Коля. А ён закрыты?

Ерамей. Адкрыты. Толькі што прымалі ў рады Камуністычнай партыі камсамольцаў і беспартыйных.

Коля. А вас?

Ерамей. Прынялі!

Коля. І нашы галасы лічыце.

Ерамей. Галасавалі камуністы.

Пеця. Разумеем...

Ерамей. На сходзе ідзе размова аб становішчы абароны, якое склалася для нас. Многія ўжо не маюць сілы, каб падняць вінтоўку... Вось якія справы...

Коля. Калі фашысты ідуць на нас, тады сіла паяўляецца.

Пеця. І нават большая, чым да вайны, калі добра кашы пад'ясі.

Ерамей. Я разумею вас, хлопцы. Разумею. Але голад і смага могуць знясіліць нас да канца... *(Раптоўна насцярожваецца.)*

Коля *(зацікаўлена)*. Што там?

Ерамей. Далажы камандзірам: ад фашысцкіх пазіцый бяжыць сюды нейкае дзяўчо!

Коля выконвае загад. Неўзабаве вяртаецца з Патаповічам і Кіжаватам.

Кіжават (*гледзячы праз бінокль, здзіўлена*). Дачка?!

Патаповіч. Яна...

Пеця і Коля крадком падыходзяць да акна.

Пеця (*радасна*). Нюра! (*Кідаецца насустрач.*)

Патаповіч (*услед*). Назад!

Кіжават. Пецька!

Неўзабаве з'яўляюцца Нюра і Пеця.

Ты?!

Нюра абводзіць позіркам прысутных, якія чакаюць ад яе пачуць нешта важнае.

Як там дзеці, жанчыны?..

Нюра. У гарадскую турму кінулі. Усіх. Там і мама... Фашысты загадалі мне ісці ў крэпасць і перадаць, каб вы здаліся ў палон. Папярэдзілі, калі гэта не будзе зроблена праз паўгадзіны, дык усё жывое, што тут ёсць, знішчаць без літасці... І яшчэ. Афіцэр загадаў, каб я прынесла адказ самага галоўнага камандзіра і камісара...

Патаповіч. Таварышы! Наш адказ ворагу адзін: не здадзімся!

Пеця. Няхай Нюра скажа фашыстам, што гэта перадаў палкоўнік.

Коля. Гітлераўцы вельмі баяцца камісараў!

Патаповіч. А што, калі Нюра скажа: гэтым камісарам быў не хто іншы, як сам Фамін?

Ерамей. Яго фашысты расстралялі! Нават пра гэта праз сваю радыёўстаноўку паведамлялі...

Кіжават. Хвілінку.

Усе заціхлі.

Сягоння я вёў допыт палоннага нямецкага афіцэра. Ён расказаў некаторыя падрабязнасці, звязаныя з гераічнай смерцю палкавога камісара. Фамін быў захоплены цяжкапараненым. Калі апрытомнеў, ён кінуў у твар ворагу адно: «Смерць фашызму! Няхай жыве Краіна Саветаў!» Гэта былі апошнія словы героя. Так загінуў Фамін, душа нашай абароны. Яго дакументы, партыйны білет у рукі ворага не трапілі. Яны знаходзяцца ў нас. Фашысты так і не даведаліся прозвішча палкавога камісара.

Патаповіч. Нюра! Ідзі назад і перадай фашыстам: з табою гаварыў палкоўнік. Скажы, што ты яго не ведаеш. У падвале было цемнавата. І прысутнічаў пры гэтай гаворцы палкавы камісар Фамін. І вось гэтыя самыя галоўныя камандзіры заявілі: «Мы савецкія людзі! Будзем змагацца да канца!» Толькі, Нюра, тое, што тут у нас бачыла і чула,— забудзь. Пра нашы цяжкасці вораг не павінен ведаць.

Кіжават *(абняўшы Нюру)*. Ідзі, дачка мая! Цалуй там нашых... і маму...

Нюра. Я сюды вярнулася, каб тут застацца. З табой, тата...

Кіжават. Даручаем табе апошняе важнае баявое заданне: перадаць ворагу наша рашэнне, рашэнне абаронцаў Брэсцкай крэпасці.

Нюра. Фашысты здзекі ўчыняюць над жанчынамі, дзецьмі...

Кіжават. Таварышы! Час у нас абмежаваны. Рыхтуйцеся да прарыву. *(Да Нюры.)* Пойдзем... Правяду крыху...

Нюра затрымліваецца, глядзіць на Пецю.

Пеця. І я з вамі, таварыш лейтэнант.

К і ж а в а т *(да Колі).* І ты давай. Пераадзеньцеся ў цывільнае і разам з Нюрай...

Коля і Пеця адразу ўцякаюць ад лейтэнанта. К і ж а в а т і Н ю р а выходзяць. Коля і Пеця доўга глядзяць услед Н ю р ы.

П а т а п о в і ч. Таварыш Ерамей. Вас паслалі на пост, і вы яшчэ не ведаеце рашэння партыйнага сходу па другому пытанню. Камуністы вырашылі так: тым, хто можа стаяць на нагах і трымаць зброю, ісці на прарыў...

Е р а м е й. А раненыя?

П а т а п о в і ч. Прарыў — адзіны выхад. Другога няма!

К о л я. Не пойдзем!

П е ц я. А крэпасць?

Е р а м е й. Я, як бачыце, стаю на нагах, рукі яшчэ трымаюць зброю і магу ісці на прарыў — гэта адно. Але тут другое ёсць: ці магу я пакінуць сваіх баявых сяброў, параненых, кінуць тых, хто ляжыць пад гэтымі руінамі? І калі я ці хто другі павернецца да вас спіною, страляйце! Страляйце, жывыя і мёртвыя!

Уваходзіць лейтэнант К і ж а в а т.

П а т а п о в і ч *(працягвае размову).* Што ж, тады, па-вашаму: чакаць, пакуль зусім не зможам фізічна даць бой і фашысты беспакарана нас усіх пераколюць? *(Мяняе тон.)* Тым, хто можа стаяць на нагах, такога бясслаўнага канца чакаць нельга. Нам трэба шукаць другія метады бою, каб можна было аддаць сваё жыццё дарагой цаной. Так паступаюць камуністы. І камуністы пастанавілі прарвацца [redacted] крэпасці — у бок дзяржаўнай граніцы... Няхай вас не здзіўляе: чаму на захад? Тут вораг не чакае нас. Больш таго, мы дакажам цяжкапараненым, што ідзём не дзеля выратаван-

ня ўласнага жыцця, а дарагой цаною аддаць яго ў рукапашных схватках, знішчаючы ворага. Другога выйсця ў нас няма! Я ўзначальваю групу добраахвотнікаў, якія пойдуць на гранатны прарыў. Гэта, таварышы, будзе наш апошні бой.

Паўза.

Ерамей. Правільна!

Пеця. А вас, таварыш лейтэнант, на руках панясём!

Кіжават *(абапіраючыся на вінтоўку)*. Мне няма куды ісці. Тут мая граніца...

Ерамей *(да выхаванцаў палка)*. На прарыў?

Хлапчукі пераглянуліся.
Паўза.

Коля. Пецька... ідзі... а я тут з лейтэнантам... з параненымі...

Пеця *(стаіць моўчкі, глядзіць на свайго сябра, хоча яму нешта сказаць, ды слоў не знаходзіць)*. Што сказаць табе?..

Паўза.

Коля. Што-небудзь...

Пеця. Вось паглядзіш! Усіх выратую! І Нюру... *(Бярэ горн.)* Я для цябе, Колька, сыграю. Гэта і для Лёнькі Васільева... Перад смерцю ён прасіў... Яго любімую і нашу...

Патаповіч і Кіжават па ўцалелай лесвіцы падымаюцца на сцяну абвалу другога паверха Цярэспальскай вежы.

Патаповіч *(звяртаецца да абаронцаў крэпасці, да тых, хто дзесьці непадалёку ляжыць у абароне. Гаворыць палымяна)*. Дарагія героі! Тут, на краі нашай Радзімы, у Брэсцкай крэпасці, вы зрабілі ўсё, што змаглі. Я ганаруся тым, што на

маю долю выпала быць сярод вас, камандаваць вамі. Яшчэ раз загадваю вам, баявыя сябры мае, біць фашыстаў, загадваю памятаць тых, хто застаўся навечна тут, пад руінамі крэпасці! Ад імя ўсіх, [illegible] кім іду на прарыў, абдымаю, цалую, але не развітваюся! Мы заўсёды з вамі, дарагія воіны!

Кіжават. Я і старшы лейтэнант Патаповіч загадваем: выхаванцу палка Пецю і яфрэйтару Ерамею ўнесці баявыя сцягі дзевятай пагранічнай заставы і трыццаць трэцяга палка!

Ерамей і Пеця ўносяць баявыя сцягі і становяцца побач з камандзірамі.

*(Працягвае.)* Пад гэтымі баявымі сцягамі мы ў мірныя дні давалі клятву Радзіме, народу і роднай партыі. Пад гэтымі баявымі сцягамі мы тут, у Брэсцкай крэпасці, даказалі, што гатовы ў любую мінуту аддаць сваё жыццё ў імя перамогі ідэй вялікага Леніна, у імя заваёў Вялікага Кастрычніка. Паклянёмся яшчэ раз, таварышы, выканаць свой доўг да канца!

У адказ нібы загаварылі руіны крэпасці: «Клянёмся! Клянёмся! Клянёмся!»

Няхай гэта будзе канчатковай рэзалюцыяй нашага партыйнага сходу!

Гучыць «Інтэрнацыянал». Яго выконваюць усе абаронцы, і здаецца, нібы ўсталі з руін і тыя, хто ляжыць пад імі. Патаповіч і Ерамей праносяць баявыя сцягі па абароне. За імі ідуць Пеця і Коля. Абаронцы крэпасці развітваюцца са святынямі пагранічнай заставы і стралковага палка. Ля пралому ў сцяне сцяганосцы прыпыняюцца. Коля і Пеця таксама апускаюцца на калена і цалуюць баявыя сцягі. Патаповіч і Ерамей выходзяць.

Пеця *(затрымліваецца)*. Колька! Мы не развітваемся... *(Абдымае, цалуе сябра. Выбягае.)*

Голас Патаповіча *(даносіцца з пазіцый абароны).* Падрыхтавацца да атакі на прарыў!

З варожай радыёўстаноўкі выразна даносяцца ход гадзінніка і голас фашыста: «Абаронца Брэсцкай крэпасці! Нямецкае камандаванне паважае твой мужнасць. Толькі навошта табе бессэнсоўны смерць? Мы даём табе хароша жыць. На роздум засталося пяць мінут!»
Гадзіннік адлічвае хвіліны.

Коля *(падымаецца на другі паверх вежы. Глядзіць туды, куды пайшлі ягоны сябра Пеця і тыя, каго павёў Патаповіч).* Пайшлі... Пайшлі назаўжды... *(Здымае з пляча гармонік.)* Сыграю для вас, таварышы, сваю самую любімую песню... *(Расцягнуў мяхі гармоніка.)*

Чуваць аднекуль выстрал. Коля пахіснуўся і ўпаў з расцягнутым гармонікам у руках. З цяжкасцю падымаецца, садзіцца. Убягае Нюра. Яна кідаецца да Колі, не ведаючы, што ён смяртэльна паранены.

Коля. Ты?.. Прыйшла...

Нюра *(трывожна).* Пецька... Дзе Пецька?..

Коля. Усе пайшлі... У бессмяротнасць... І Пецька...

Галава Колі безжыццёва павісла на руках Нюры.

Нюра *(глядзіць на мёртвага Колю).* За што?.. *(Устае. У бок ворага, грозна, ва ўвесь голас.)* За што забілі Чалавека?!

Зноў раздаецца выстрал. Смяртэльна параненая, хапаючыся рукамі за сцяну, Нюра павольна асоўваецца на дол.

За што?.. За што?..

Зацямненне.
Прамень святла выхоплівае Кіжавата.

Кіжават *(абапіраючыся на вінтоўку, узбег на сцяну другога паверха Цярэспальскай вежы. Да сваіх воінаў).* Я лейтэнант Кіжават! Слухай маю каманду! За Радзіму — да бою! *(Кідае гранату.)* Смерць фашызму!

Выбух. За ім — кулямётна-аўтаматныя чэргі, вінтовачныя выстралы, новыя выбухі...
...Вораг адказвае агнём. Усё тоне ў агні і дыме.

Зацямненне.

На фоне начнога неба ў сполахах далёкага пажару прамень святла выхоплівае Вядучую ў вобразе маці-Радзімы, яе сыноў і дачок. Яны ідуць пад дзяржаўным сцягам са зброяй у руках і з песняй «Слушай, товарищ, война началася». Кожны раз пасля прыпеву: «И как один умрем в борьбе за это!» — раздаецца дзесьці далёка выбух, і крайнія ў страі — мужчыны, жанчыны, дзеці,— нібыта раненыя, пахіснуўшыся, знікаюць у барвовых сполахах.

Зацямненне.

Застаецца Вядучая ў вобразе маці-Радзімы, за ёй — руіны Цярэспальскай вежы. Вядучая са свяцільнікам у руках па ўцалелых прыступках лесвіцы падымаецца на другі паверх вежы і там, на руінах, запальвае Вечны агонь народнай славы. Ён адразу асвятляе скульптурную групу, нібы вылітую з бронзы: абаронцы крэпасці ідуць у апошнюю контратаку.
Сігнал салдацкага горна: «Слухайце ўсе!»

Вядучая. Слухайце, слухайце ўсе! Слухайце наказ герояў з далёкіх дзён мінулых бітваў за свабоду Айчыны нашай! Гавораць тыя, хто назаўжды пайшоў у бессмяротнасць!

Хор мужчынскіх галасоў. Людзі! Зрабіце ўсё, каб зямлю нашу больш ніколі-ніколі не раніў пажар вайны!

Хор жаночых галасоў. Людзі! Зрабіце ўсё, каб ніхто ніколі ў дзяцей не забіваў

маму і тату, казку і ласку, зямлю і сонца, месяц і зоркі!

Хор дзіцячых галасоў. Хлопчыкі і дзяўчынкі! Зрабіце ўсё, каб новыя фашысты дзяцей баяліся! І яшчэ: дачытайце нашы недачытаныя казкі!

Вядучая. Іх было мільёны — маіх верных сыноў і дачок. Яны не далі патухнуць сонцу і праўдзе, абрынуцца небу і ўпасці зоркам! Яны цаною свайго жыцця не далі згарэць Зямлі! Людзі! Памятайце гэта!

Заслона.

5 Зак. 305

# ШПАЧОК



*Гераічная драма ў трох дзеях*

## ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ:

Даніловіч — камандзір партызанскага дыверсійнага атрада.

| | |
|---|---|
| Мікалай Іванавіч, гадоў 40<br>Надзежда Пятроўна — яго жонка, гадоў 35<br>Васілёк (Шпачок) — іх сын, 13 год<br>Міша, 18 год<br>Сініца, гадоў 45<br>Нісцюк, гадоў 40 | партызаны дыверсійнага атрада. |

Пракоп — былы матрос рускага флоту, гадоў 75.
Бабка Настуля — яго жонка, гадоў 70.
Максімка — іх унук, 13 год.
Вацлаў — чэх, ваеннаслужачы фашысцкага гарнізона.
Фулькe — капітан, начальнік фашысцкага гарнізона.
Фрыц — яфрэйтар.
Вартавы.
Герта Гольцбюрге — жонка фашысцкага палкоўніка, 45 год.
Ганс Ліндэ — вартавы асабняка Гольцбюрге, гадоў 50.
Казяўкін — стараста вёскі.
Хвасцецкі — сын белагвардзейскага афіцэра, на службе ў фашыстаў.

Унтэр-афіцэр, салдат.

Дзея драмы адбываецца ў адным з акупіраваных нямецка-фашысцкімі захопнікамі раёнаў Савецкай Беларусі.

Час дзеі — лета 1943 года.

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

На пярэднім плане — хмызняк. Праз яго відаць насып, па якім праходзіць чыгунка.

З-за куста з аўтаматам напагатове і гранатамі за поясам насцярожана з'яўляецца Мікалай Іванавіч. Услед за ім — Шпачок і Міша. Міша трымае ў руках аўтамат і ўзрыўчатку.

Мікалай Іванавіч падае рукою знак. Усе хаваюцца за кусты. Відаць дулы аўтаматаў, накіраваных на дарогу. Праз некаторы час пачуўся голас фашысцкага вартавога: «Айн, цвай, драй, фір...». З'яўляецца і ён сам.

Вартавы *(ідзе па насыпу чыгункі і лічыць далей)*. ...фюнф, зэкс, зібн... *(Праходзіць і знікае.)*

З-за куста выходзіць Мікалай Іванавіч.

Мікалай Іванавіч *(ціха)*. Сюды...

Да яго падбягаюць Міша і Шпачок.

Шпачок. Што?

Мікалай Іванавіч *(бярэ сына за плечы)*. Баішся?

Шпачок. Ніколечкі...

Мікалай Іванавіч *(паказвае недзе ўгору)*. Не скінешся?

Шпачок *(закінуўшы галаву)*. З таго вяза?.. На самы вяршочак магу...

Мікалай Іванавіч. На вяршочак не

лезь. А глядзі, каб відаць была ўся дарога за паваротам. Пакажацца цягнік — дай знак, а сам — кулём уніз і ў атрад. Мы можам тут затрымацца хвіліну-другую. *(Дае бінокль.)* Бяры.

Шпачок *(схапіўшы бінокль)*. А сігнал — зязюляй ці крумкачом?

Мікалай Іванавіч. Зязюляй.

Шпачок бяжыць і знікае ў хмызняку.

Міша. Можа, пара?

Мікалай Іванавіч *(падумаўшы)*. Я сам.

Міша. Мікалай Іванавіч! Зраблю чыста, як заўсёды...

Мікалай Іванавіч. Веру, Міша, веру. Ды нешта на сэрцы неспакойна. Гэта не проста эшалон. Сам разумееш.

Міша. Ведаю... Мне васемнаццаць... Сягоння споўнілася...

Мікалай Іванавіч *(пасля паўзы)*. Што ж, тады адзначай гэтую дату... Не спяшайся... Яны, гады, могуць спачатку паражняк пусціць. Разлічвай добра.

Міша *(з радасцю)*. Я ім разлічу!

Мікалай Іванавіч *(цэліцца)*. Ну, Міша, вартавы — на мушцы, а табе — ні пуху ні пяра!

Міша паўзе па насыпу, фінскім нажом выкопвае пад рэйкай ямку. Заклаўшы туды ўзрыўчатку, збянтэжана штосьці шукае ў кішэнях, але нічога не знаходзіць. Потым, выхапіўшы з-пад рэйкі тол, хутка збягае з насыпу. Зноў з вялікай трывогай пачынае шукаць, выварочвае кішэні.

Мікалай Іванавіч *(працягвае сачыць за вартавым)*. Спакойна, Міша, спакойна...

Міша вінавата апускае рукі і стаіць моўчкі.
Мікалай Іванавіч заўважае яго разгубленасць.

Міша *(занепакоены)*. Узрывацель...

М і к а л а й І в а н а в і ч *(з трывогай)*. Што?

М і ш а. Няма... Узрываценя няма!..

М і к а л а й І в а н а в і ч. Што? *(Паўза.)* Не можа быць!

М і ш а *(зноў хапаецца за свае кішэні)*. Сапраўды! Не можа быць! Я не згубіў! Не мог!.. Тут штосьці... *(Задумваецца.)* Не, Барысік не зробіць... Але ж ён стаяў *(паказвае на кішэнь)* з гэтага боку, як я правяраў узрывацель...

М і к а л а й І в а н а в і ч. Дык дзе ўзрывацель?

М і ш а *(збянтэжана выварочвае кішэню)*. Вось тут ляжаў...

М і к а л а й І в а н а в і ч *(у прыступе гневу)*. Разява! Я цябе за гэта...

М і ш а *(вінавата, але спакойна)*. Судзіць пасля будзеце. А цяпер — эшалон... *(Здымае з пляча свой аўтамат і працягвае яго Мікалаю Іванавічу.)* Ён мне больш не спатрэбіцца... Вы мяне ведаеце... Камандзіру можна смела далажыць: «Заданне выканалі...» Гэта мая апошняя просьба.

М і к а л а й І в а н а в і ч *(спахапіўшыся, стараецца супакоіць)*. Міша!..

М і ш а. За сваю памылку мінёр сам расплачваецца. За заданне не хвалюйцеся. Тол, дзве гранаты ды... самі ведаеце... Гэта надзейна. Асечкі не будзе...

М і к а л а й І в а н а в і ч. Не час нам вінаватых шукаць... *(Адыходзіць убок, дастае з кішэні лісток паперы, аловак і, падумаўшы, нешта піша. Загортвае лісток і паціху кліча.)* Васілёк!

У адказ пачуўся салаўіны свіст.

М і к а л а й І в а н а в і ч. Злазь, сыночак... *(Падыходзіць да Мішы, кладзе яму руку на плячо.)* Назірай за вартавым... *(Адыходзіць.)*

Неўзабаве прыбягае Шпачок. У руках яго алюмініевы чарпак без ручкі і бінокль.

Шпачок *(перадаючы бацьку бінокль).* Ой, татачка, каб ты толькі глянуў у бінокль з вяза: вартавыя па ўсёй дарозе на кожным кіламетры стаяць як слупы... А чарпак... Ён тут валяўся. Я яго кухару нашаму занясу. Дзядзька Вася ручку прыладзіць... Глядзі, які добры...

Мікалай Іванавіч *(шматзначна).* Не з чарпаком ты сягоння, сынок, у атрад вернешся... *(Аддае аўтамат.)* Бяры!.. Назусім...

Шпачок *(здзіўлена).* Аўтамат? А вы?..

Мікалай Іванавіч. А мы... Нам аднаго хопіць... Беражы!.. Помні, гэта бацькаў...

Шпачок *(кідае чарпак, бярэ аўтамат, але яшчэ не верыць, што ён будзе належаць яму).* Аўтамат?!

Мікалай Іванавіч *(аддае згорнутую запіску).* Пойдзеш, сынок, у атрад... Перадай камандзіру...

Шпачок. А што?.. Чаму?..

Мікалай Іванавіч. Партызан не пытаецца «што?» і «чаму?». Загадана — ідзе!

Шпачок *(становіцца па камандзе «смірна»).* Есць перадаць камандзіру!

Мікалай Іванавіч. А цяпер прысядзем...

Шпачок і Мікалай Іванавіч садзяцца побач.

Людзі кажуць, што заўсёды перад вялікай дарогай трэба прысесці на хвіліну... *(Паўза.)* Памятай, сынку, гэта было сягоння...

Мікалай Іванавіч і Шпачок устаюць.

Шпачок. Не хочацца ісці ад вас... А маме што сказаць?

Мікалай Іванавіч. Перадай... Мы спознімся... *(Цалуе сына.)*

Шпачок. Мы вас будзем чакаць.

Мікалай Іванавіч. Ідзі, мой сын, ідзі!..

Шпачок бяжыць у глыб лесу. Мікалай Іванавіч глядзіць услед сыну. Да яго падыходзіць Міша.

Міша. Ідзіце... Пра заданне не думайце, выканаю.

Мікалай Іванавіч. Я сказаў — кропка! Лезь на вяз! Пастарайся добра агледзець дарогу. *(Аддае бінокль. Паказваючы на ўзрыўчатку.)* А гэта пакінь тут.

Міша *(хоча запярэчыць)*. Мікалай Іванавіч!..

Мікалай Іванавіч *(забірае ўзрыўчатку)*. Ну, хутчэй!

Міша знікае ў гушчары.
Мікалай Іванавіч, наглядаючы за вартавым, выпадкова наступае на чарпак, бярэ яго ў рукі.

Голас Мішы *(чуецца з высокага дрэва, устрывожаны)*. Дрызіна! За паваротам. Яна яшчэ ля самай вёскі... Едуць па другой каляі на малой хуткасці. Тры немцы. Прыглядаюцца да рэек...

Мікалай Іванавіч *(занепакоена пазглядае на выбраную з-пад рэйкі зямлю, куды Міша хацеў закласці ўзрыўчатку)*. Заўважаць ямку, гады! Тут нельга, можна ўсё правaліць... Эх, затрымаць бы іх на паўгадзінкі! *(Паўза. Раптоўна кідаецца да чыгуначнага палатна, штосьці кладзе пад рэйку і прысыпае пяском.)*

Пачуліся аўтаматныя стрэлы.

Прыбягае Міша.

Міша *(прыўзняўшы галаву. Здзіўлена)*. Ракета... Чырвоная...

Мікалай Іванавіч *(радасна)*. Ну, вось

тое, што і трэба было — эшалон затрыманы! Цяпер яны ўсю ўвагу звернуць сюды. Фашыстам і ў галаву не прыйдзе, што мы насустрач ім... туды, на ўскраіну лесу... Там зручная мясціна ёсць... З адхону, і касцей не збяруць.

Міша і Мікалай Іванавіч ідуць кустамі туды, адкуль павінны паказацца фашысты, і знікаюць. Неўзабаве, чуваць, зусім блізка пад'ехала дрызіна. З'яўляюцца фашысты: яфрэйтар Фрыц, капітан Фульке, за імі стараста Казяўкін.

Капітан Фульке *(кідаецца да рэйкі, пад якую паклаў нешта Мікалай Іванавіч. Са злосцю).* Бандыты! Паспелі! *(З асцярогай аглядае гэтае месца з усіх бакоў. Не разумеючы, у здзіўленні.)* Бомба? Не! Міна?..

Стараста. Гер гаўптман, а вось той дзед барадаты, што за вёскай ля дарогі казу пасе...

Капітан Фульке *(перабівае).* Прычым тут барадаты дзед?!

Стараста. Ён у царскім флоце мінёрам служыў. Гэты ж стары недалёка тут... Падскочыць па яго... Ён адразу разбярэцца...

Капітан Фульке *(падае каманду).* Яфрэйтар! Прыступіць да перадачы.

Фрыц. Яволь, гер гаўптман! *(Бяжыць у бок дрызіны.)*

Капітан Фульке *(дыктуе).* «На сто трынаццатым кіламетры пад рэйкай першай каляі закладзена міна невядомага абразца... Круглая, корпус з каляровага металу, велічынёй з футбольны мяч. На стрэлы вартавога бандыты не адказалі і зніклі ў глыбіні лесу... Размініруем... Эшалон затрымаць да зялёнай ракеты... Капітан Фульке».

Стук ключа рацыі замаўкае.

Голас Фрыца. Перададзена, гер гаўптман!

Капітан Фульке *(да Фрыца).* Давай да вёскі! Прывязі таго старога! Па дарозе перадай мой загад вартавому гэтага ўчастка, каб вёў узмоцненае назіранне за чыгункай ля павароту.

Чуецца гул дрызіны, які хутка аддаляецца і заціхае.

Староста *(баязліва тупае вакол «міны»).* Адзін бог ведае, што гэта такое... *(Хрысціцца.)* Злітуйся, госпадзі, над намі... *(Адыходзіць далей. Лісліва.)* Гер гаўптман, адыдзіце ад гэтай халеры, а то яшчэ, барані бог...

Капітан Фульке *(з іроніяй).* Можа, пан Казяўкін у кусты параіць схавацца! *(Павышае голас.)* А эшалон?..

Староста *(апраўдваючыся).* Што вы, гер гаўптман? Яфрэйтар Фрыц прывязе спецыяліста, і ўсё. Навошта вам рызыкаваць... Людзі ў маёй вёсцы паслухмяныя, як цяляты...

Капітан Фульке. «Паслухмяныя»! «Як цяляты»! А колькі гэтых «цялят» сёння ноччу ў бандыты падалося? *(Паўза.)* Маўчыш?

Староста *(вінавата).* Не паспеў праверыць, гер гаўптман.

Капітан Фульке. «Праверыць», і толькі? А што ты зрабіў, каб было скончана *(паказвае на закладзеную пад рэйку «міну»)* вось гэта? Спіш ноччу?.. А ў цябе з-пад носу гэтыя «цяляты» цэлымі сем'ямі ў лес уцякаюць! Што ты зрабіў, я пытаюся?

Староста. Спісачкі даю вам?.. Даю!.. І заложнікаў, і каго ў Германію...

Капітан Фульке. «Заложнікаў»...

Староста. Прыцісну́ць іх трэба. Нідзе не дзенуцца...

Капітан Фульке. Прыціснем і цябе! Усё зробіш!

С т а р а с т а. Раблю, гер гаўптман, усё, стараюся... Ды толькі што я магу зрабіць? Самі бачыце, выганіш раніцай людзей на гравейку, прабарануюць яе ўздоўж і ўпоперак, дзе, здаецца, той міне там быць, а як пойдуць машыны ці матацыклы, дык і ўзрываюцца. Усё адно як з неба гэтыя міны падаюць. Адкуль яны бяруцца, дык ліха іх ведае...

К а п і т а н Ф у л ь к е. Днём бандыты гэтую справу робяць. Я падыму на ногі ўсіх: гестапа, паліцыю, свой гарнізон! Бандыцкія гнёзды знішчу назаўсёды! Мне б нітачку знайсці... І я хутка яе знайду. Толькі, пан Казяўкін, не пры дапамозе такіх шкурнікаў, якія раяць схавацца ў кусты. У мяне ёсць надзейныя людзі. Яны варыліся ў нашым саку *(паказвае рукою)* там, у Берліне. У іхніх бацькоў у Расіі адабралі зямлю, заводы, фабрыкі. Гэтым людзям ёсць за што з бальшавікамі асабістыя рахункі зводзіць.

Капітан Фульке раптоўна змаўкае, пачынае ўглядацца ўздоўж чыгункі. Чуваць, як пад'ехала дрызіна, і г о л а с я ф р э й т а р а Ф р ы ц а: «Злазь!» Пад дулам аўтамата Фрыц вядзе дзеда П р а к о п а.

Ф р ы ц *(загадвае Пракопу)*. Хальт! Хальт!

Пракоп спакойна ідзе.

С т а р а с т а *(да Пракопа)*. Стой!

Пракоп спыняецца і з агідай глядзіць на Казяўкіна.

С т а р а с т а *(ліслíва)*. Добрай раніцы, Пракопе!

Пракоп не адказвае.

*(Да капітана Фульке.)* Гэта мой сусед. Я яму растлумачу, што трэба... *(Да Пракопа. Паказвае на «міну», прысыпаную пад рэйкай.)* Ты, Пракопе, глядзі, каля яе *(паказвае жэстамі)* асцярожнень-

ка, ручкамі вось так, так пясочак разграбі, а затым яе, як гарбузік, і выкаціш з-пад рэйкі... Ну, не мне цябе вучыць. Сам разбіраешся. Даўней на флоце нездарма мінёрам быў. Цару служыў...

Пракоп *(перапыняе)*. Я не той, хто табе трэба, пан Казяўкін!

Стараста *(занепакоена)*. Ціха, Пракопе, ціха! Усё ад бога! Ён мілуе, ён і карае. Што нам на раду напісана, таму і быць.

Пракоп. А мне не наканавана свае рукі запэцкаць. Семдзесят пяты на гэтым свеце дажываю, і яны чыстыя... *(Паказваючы на немцаў, а затым на «міну».)* Цалуеш іх пад хвост, пан Казяўкін, цалуй і цяпер.

Капітан Фульке. Чаго марудзіш?

Стараста *(баязліва)*. Ён згодзен, згодзен! Толькі баіцца крышачку... *(Настаўляе на Пракопа рэвальвер. Да Фрыца і Фульке.)* Адыходзьце, адыходзьце, ён зробіць... Я яму растлумачыў... Ён сам ведае...

Пракоп *(з агідай да Казяўкіна)*. Прадаў сваю душу сатане, а цяпер за цела баішся...

Капітан Фульке *(пагражаючы пісталетам)*. Рус, арбайтэ!

Фрыц *(заляскаўшы затворам аўтамата)*. Шнэль!

Стараста. Пракопе, калі хочаш жыць, дык давай, а то з табой доўга цацкацца не будуць!

Усе хаваюцца за насыпам чыгункі, адтуль і чуваць іх пагрозы Пракопу.

Пракоп. Я ж казаў: не таго знайшлі, хто вам патрэбен!

Капітан Фульке *(сурова)*. Пачынай!

Пракоп *(цвёрда)*. Не буду!

Капітан Фульке. Прымусім!

Пракоп. Я салдат. Абараняць сваю айчыну ад ворагаў я прысягаў двойчы: першы раз цару, а другі — рэвалюцыі.

Стараста. Гм! Святы знайшоўся! Цару прысягаў, а потым цара самога скінуў.

Пракоп. У сваім доме мы самі парадак наводзім! А чужы не сунь свой нос...

Капітан Фульке. Маўчаць! Калі да трох не возьмешся — страляю! *(Лічыць з невялікімі паўзамі, накіраваўшы на Пракопа пісталет.)* Айн, цвай, драй! *(Страляе над галавой Пракопа, але той стаіць нерухома.)* Вас іст дас? *(Выскаквае з-за насыпу і падбягае да Пракопа.)* Ты нават і не схіліўся?!

Пракоп. А мне няма чаго кланяцца перад вамі. Чалавек воўку не служыць...

Капітан Фульке. Бальшавік! Яфрэйтар! *(Паказваючы на Пракопа.)* Расстраляць!

Фрыц *(падбягае да Пракопа і аўтаматам штурхае яго)*. Шнэль! Давай! Давай!

Пракоп у глыбокім задуменні стаіць на краі насыпу. Фрыц, накіраваўшы аўтамат на Пракопа, чакае загаду капітана.

Стараста *(просіць Пракопа, баючыся, каб цяпер яго самога не прымусілі разміраваць)*. Міленькі, родненькі, ты што надумаў?.. Гер гаўптман, пачакайце, ён...

Пракоп *(нібы знайшоўшы выхад. Да афіцэра)*. Стойце!

Стараста *(радасна)*. Ён згодзен! Згодзен...

Капітан Фульке *(да старасты)*. Маўчаць! *(Да Пракопа.)* Што?

Пракоп. Не я, дык другі знойдзецца, разміруе, а мне ўсё адно... Згодзен дастаць міну.

Капітан Фульке *(глядзіць на гадзіннік)*. Даю тры мінуты.

**П р а к о п** *(у знак згоды ківае галавою).* Я саслужу службу... апошнюю...

**К а п і т а н Ф у л ь к е** *(да старасты і Фрыца).* Назад!

Зноў усе хаваюцца за насыпам дарогі, накіраваўшы на Пракопа зброю.

**П р а к о п** *(паварочваецца спіною да фашыстаў і садзіцца на рэйку ля таго месца, дзе падкладзена «міна». Цяжка ўздыхнуўшы, глядзіць наўкола: на неба, на лес, удалячынь, а затым на «міну»).* Навошта вайна? *(Рашуча.)* Вось за гэта трэба давіць, біць праклятых фашыстаў!.. *(На момант заплюшчвае вочы і націскае рукой на «міну». Пасля некаторай паўзы расплюшчвае вочы і глядзіць у здзіўленні навокал.)* Жывы?! *(Разглядае «міну», абмацвае яе з усіх бакоў.)* Малайцы, хлопцы, малайцы!

**К а п і т а н Ф у л ь к е.** Варушыся хутчэй! Што там?

**П р а к о п.** Адну хвіліначку! *(Задумаўшыся, сам сабе.)* Відаць, яно так і трэба... *(Прысыпае «міну» пяском.)* Яны гэтую штуку і пальцам не зачэпяць... *(Устае. Спакойна.)* Пан афіцэр, паверце мне, старому мінёру: гэта такая міна, што як пастравіш, дык лепш не чапай яе. Варта толькі дакрануцца, як твайго і духу не застанецца.

**С т а р а с т а** *(спалохана).* Ён няпраўду кажа, гер гаўптман!

**П р а к о п.** Не верыце? *(Паказвае на «міну».)* Можаце праверыць! А мне... лепш ад кулі, чым... Я сваё пражыў. Шкада, што я не малады цяпер, каб вас, гадаў, душыць...

Раздаецца некалькі залпаў.

*(Стараецца ўтрымацца на нагах.)* Гады!.. *(Апускаецца на шпалы.)*

Да Пракопа падбягаюць капітан, староста і яфрэйтар.

Капітан Фульке *(глядзіць на забітага Пракопа. Пасля паўзы).* Усё! *(Да Фрыца, паказваючы на цела Пракопа.)* Вэк!

Фрыц сцягвае Пракопа пад адхон дарогі. Капітан Фульке, заклаўшы рукі з пісталетам за спіну, ядавітым позіркам упіваецца ў вочы Казяўкіна і пачынае наступаць на яго.

Стараста *(са страхам глядзіць у твар афіцэра, хоча прасіць літасці).* Гер... гер...

Капітан Фульке. Хальт!

Стараста прыпыняецца.

Капітан Фульке *(паказваючы на рэвальвер Казяўкіна).* Здаць! На захаванне... часова...

Стараста *(разгублена).* Што? Што?.. Злітуйцеся! Злітуйцеся! Я вам з вёскі прыганю людзей... Яны..

Капітан Фульке *(хапае Казяўкіна за руку і абяззбройвае).* Маўчаць! Нам дарагая кожная мінута. *(Адзначае па гадзінніку час.)* Драй мінутэн! Не зробіш — і табе капут! Фрыц, назад!

Афіцэр і яфрэйтар зноў адыходзяць і кладуцца за насып дарогі, накіраваўшы зброю на Казяўкіна.

Стараста *(настолькі ахоплены страхам, што спачатку не можа сказаць слова, а затым крычыць не сваім голасам).* Злі... злі... злітуйцеся!

Капітан Фульке. Расстраляю! *(Папярэджвае старасту стрэлам з пісталета.)*

Стараста *(прыціскаецца да зямлі).* Ох! Ой-ёй! Ой-ёй!

Капітан Фульке. Застаецца дзве мінуты!

Стараста быў падаўся да «міны», але яму, відаць, здало·

ся, што яна зашыпела, і ён з крыкам кідаецца ўбок. Фульке зноў папярэджвае Казяўкіна. Той бярэ камень і кідае яго на «міну». Усе прыціскаюцца да зямлі і чакаюць узрыву. Праходзіць хвіліна-другая, а затым з-за насыпу з'яўляецца Фульке.

Ён у вялікім гневе падбягае да Казяўкіна.

Стараста *(прыціснуўшыся да зямлі. Да Фульке).* Асцярожна! Асцярожна, гер гаўптман!

Капітан Фульке *(затрымаўшы позірк на «міне», падыходзіць бліжэй да яе. Разглядае. Здзіўлена).* Увагнулася... З месца падалася... Вас іст дас? *(Спрабуе асцярожна стукаць пазногцем па «міне».)* Гм! Пустая!.. Дзіўна... *(Асцярожна разграбае пясок вакол «міны».)*

Стараста яшчэ больш прыціскае галаву да зямлі. Фульке выцягвае з-пад рэйкі алюмініевы чарпак без ручкі. Падбягае яфрэйтар. Усе стаяць у здзіўленні, пераглядаюцца, а потым іх паступова разбірае смех.

*(Раптоўна абрывае рогат. Да Фрыца.)* Даць зялёную ракету!

Фрыц выконвае загад афіцэра.

Стараста *(задаволены ўсхопліваецца на ногі. Да афіцэра, ліслівa).* Гэта я яе каменьчыкам. Каб не я, дык яшчэ б...

Капітан Фульке *(перапыняе, з гневам і з агідай).* Шкура! *(Паказвае на чарпак.)* Ты разумееш, сабака, што мог натварыць, каб гэта была міна? А-а? *(У прыступе гневу наступае на Казяўкіна.)* Падлюга! Твае тры мінуты скончыліся!.. *(Накіроўвае на Казяўкіна пісталет.)*

Стараста *(кідаецца ў ногі афіцэру і хоча цалаваць боты, скавычучы, як сабака).* Гер... гер... Гаў-гаў-гаўптман!.. Злітуйцеся!

Капітан Фульке б'е Казяўкіна нагою. Той, закрычаўшы не сваім голасам, коціцца пад адхон дарогі.

К а п і т а н   Ф у л ь к е *(кладзе пісталет у кабуру і выцірае з твару пот. Падыходзіць да краю насыпу, глядзіць на мёртвага Пракопа. Да Фрыца).* Цела старога прывезці ў вёску. Я хачу ведаць: ён быў герой ці проста чалавек, які страціў розум...

Ф р ы ц *(прыкладае вуха да рэйкі, прыслухоўваецца).* Гер гаўптман, эшалон ідзе...

У гэты час з-за куста з аўтаматам напагатове з'яўляецца Ш п а ч о к. Ён, відаць, пачуўшы страляніну, бег сюды з усіх сіл. Убачыўшы на чыгунцы фашыстаў, хапаецца за аўтамат і хоча адкрыць па іх агонь. Спахапіўшыся, раптоўна застывае на месцы.

З кустоў супрацьлеглага боку чыгункі з'яўляецца Х в а с ц е ц к і.

Х в а с ц е ц к і *(убачыўшы фашыстаў, прыпыняецца ля насыпу дарогі. Задаволена).* Гер гаўптман!

К а п і т а н   Ф у л ь к е *(уздрыгнуў ад нечаканасці. Пазнаўшы Хвасцецкага, радасна кідаецца яму насустрач).* А-а! Партызан Барысік? Нарэшце! А мы...

Х в а с ц е ц к і *(падае руку капітану Фульке. Перапыняючы).* ...думалі, што паручнік Хвасцецкі даўно загінуў. О не! Яго бацькі тут у семнаццатым загінулі, а іх сын не прападзе!..

К а п і т а н   Ф у л ь к е *(занепакоена).* Ну, дзе бандыты, разведаў?

Х в а с ц е ц к і. Падымайце свой гарнізон, я павяду.

К а п і т а н   Ф у л ь к е *(з радасцю).* Што? Знайшоў?!

Х в а с ц е ц к і. Партызанскую брыгаду не ўдалося выявіць. Знішчым пакуль дыверсійную групу. Яна тут, кіламетрах у сямі. Трэба спяшац-

ца. Гэтыя людзі на адным месцы доўга не сядзяць. Я бег, быў у вас на кватэры... Сказалі, што вы тут... Хутчэй!

Капітан Фулькe. Айн мамент! Прапусцім цягнік...

Хвасцецкі (*заўважыўшы, як яфрэйтар Фрыц засыпае ямку пад рэйкай. Здзіўлена*). Што гэта?

Капітан Фульке. Бандыты міну паставілі...

Хвасцецкі (*здзіўлена*). Не можа быць... (*Дастае з кішэні ўзрывацель і паказвае.*) Паручнік Хвасцецкі папярэдзіў узрыў. Бандытаў было трое...

Капітан Фульке (*убачыўшы ўзрывацель, усміхнуўся*). Удасца аперацыя — мы вам дадзім крыж. Вы заслужылі...

Хвасцецкі. Вы таксама...

У тым баку, адкуль павінен быў з'явіцца цягнік, раздаецца магутны выбух.

Шпачок (*крычыць*). Та-а-а-та!!! (*Голас яго зліваецца з шумам і грукатам вагонаў, якія ідуць пад адхон. Шпачок страляе па фашыстах. Яфрэйтар Фрыц і Хвасцецкі падаюць, капітан Фульке хапаецца за галаву і знікае ў густым хмызняку.*)

Заслона.

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

### Карціна першая

Летняя ноч. Цёмны дрымучы лес. На пярэднім плане будан. У ім на тоўстай калодзе сядзіць камандзір партызанскага атрада Даніловіч. Ён, паклаўшы карту на пень,

штосьці вымярае, вылічвае, час ад часу адрываецца ад работы, услухоўваецца кудысьці ўдалячынь, з трывогай паглядае на гадзіннік. У кутку — рацыя. Ля будана ходзіць вартавы Н і с ц ю к. Непадалёку відаць постаць Н а д з е ж д ы  П я т р о ў н ы. Вартавы патрабавальна падае рукою знак, каб жанчына адышла далей.

Н а д з е ж д а  П я т р о ў н а *(з трывожнай надзеяй).* Яны вернуцца... Праўда?

Н і с ц ю к *(кінуўшы насцярожаны позірк на будан).* Ціш-ша! *(Амаль па сакрэту.)* Забаронена гаварыць...

Пачуліся ўсхліпы Н а д з е ж д ы  П я т р о ў н ы, і яна знікла ў цемры.

*(Услед жанчыне. Вінавата.)* Мне не дазволена ўставам... А яны вернуцца! Вось паглядзіце, вернуцца!.. Ох, бабы, бабы! Не разумеюць, што такое вартавы.

Д а н і л о в і ч, пачуўшы размову вартавога, выходзіць з будана.

*(Дакладвае, збянтэжана.)* Таварыш камандзір!.. Кругом цішыня.

Д а н і л о в і ч. З кім размаўляў?

Н і с ц ю к. Зноў прыходзіла... *(Паўза.)* Мне хацелася сказаць ёй нешта такое добрае, чалавечнае, а ўсё атрымалася... *(Уздыхнуўшы.)* А яна іх чакае... Ды як не чакаць!.. Абодва адразу: муж і сын. Хоць бы Шпачок вярнуўся...

Д а н і л о в і ч *(ідзе ў будан. Звоніць па тэлефоне).* Я «Волга», дайце «Чайку»... Што?.. Разбудзіць!.. *(Паўза. Мяняе тон.)* Спаць улёгся?! *(З іроніяй.)* Віншую!.. Шпачка паслаў воўку ў зубы!.. Ды што тут бацька? Я цябе папярэджваў? Мала каму ўздумаецца на заданне дзяцей браць!.. *(Паўза. Больш лагодным тонам.)* Так... Так... Вернецца разведка — дакладвай! *(Кладзе трубку. Садзіцца на пень, сціснуўшы аберуч галаву.)*

З цемры з'яўляюцца д з в е ч а л а в е ч ы я п о с т а ц і.

Н і с ц ю к *(ускідвае аўтамат)*. Стой! Хто ідзе? Пропуск?

Г о л а с з ц е м р ы. «Шынель»!

Н і с ц ю к *(пазнаўшы па голасу. Радасна)*. А-а, гэта ты, Сініца! Хто яшчэ з табою?

Г о л а с з ц е м р ы. Языка вяду!

Н і с ц ю к *(ажыўлена)*. Давай, давай сюды свайго язычка. Паглядзім, чаго ён варты...

Да будана пад дулам аўтамата С і н і ц а вядзе са звязанымі рукамі афіцэра нямецкай арміі В а ц л а в а.

*(Акінуўшы Вацлава позіркам з ног да галавы.)* Нічагусенькі фрыц...

В а ц л а ў. Я не фашыст... Я шукаю партызанаў...

Н і с ц ю к *(штурхнуўшы Вацлава прыкладам аўтамата)*. Маўчы! Бачылі мы такіх! Мала тут рознай погані цёгаецца...

Сініца прыводзіць Вацлава ў будан.

В а ц л а ў *(убачыўшы Даніловіча)*. Таварыш камандзір... таварыш...

С і н і ц а *(адцягвае Вацлава за каўнер)*. Стой! Змоўкні! *(Настаўляе аўтамат на Вацлава.)* Ні з месца! А то...

Д а н і л о в і ч. Баец Сініца! У чым справа? Дакладвайце!

С і н і ц а. Таварыш камандзір. Сяджу гэта я ў засадзе, сяджу, а затым чую: «Партызан! Партызан!» — хтосьці гукае. Ну, думаю, няхай сабе «партызаніць», няхай сабе ідзе на мушку... Сяджу гэта я, сяджу... Кругом цішыня... а ён усё: «Партызан!»

Д а н і л о в і ч *(не вытрымаўшы)*. Карацей!

С і н і ц а *(становіцца па камандзе «смірна»)*.

Ёсць карацей! Таварыш камандзір! На маім участку затрыманы гэты фашыст. Пры дэталёвым вобыску знойдзены пісталет з патронамі і вось — маленькі цвічок. *(Кладзе на пень трафеі.)*

Д а н і л о в і ч *(да Сініцы)*. Развязаць рукі!

Сініца развязвае рукі Вацлаву.

*(Акінуўшы позіркам трафеі. Да Вацлава.)* А цяпер вас слухаю.

В а ц л а ў *(дастае з халявы бота сваё пасведчанне)*. Калі ласка!

Д а н і л о в і ч *(чытае)*. Антак Вацлаў?

В а ц л а ў. Так, таварыш камандзір, Антон Вацлаў! З Браціславы.

Д а н і л о в і ч. Я вам не таварыш, пан афіцэр фашысцкай арміі!

В а ц л а ў. Мне балюча, што я не маю маральнага права вас таварышам назваць...

Д а н і л о в і ч. І нам нялёгка бачыць чэха, які здрадзіў свайму народу!

В а ц л а ў. Разумею! Прыйдзе час, і вы нас зразумееце...

Д а н і л о в і ч *(перапыняе)*. Што вас прывяло ў лес?

В а ц л а ў *(дастае з халявы бота пакет і перадае яго Даніловічу)*. Вось гэта!

Д а н і л о в і ч *(да Сініцы. З іроніяй)*. «Дэталёвы вобыск»?

С і н і ц а *(незадаволена)*. А-а, гад! *(Настаўляе аўтамат на Вацлава.)* А ну, вытрасай боты!

Д а н і л о в і ч. Сініца!

С і н і ц а *(апускае аўтамат)*. А што ж ён пры вобыску ўкрывае дакументы?

Д а н і л о в і ч *(чытае адрас на пакеце)*. «Рэйхскамісару...» *(Да Вацлава.)* Вы памыліліся адрасам.

Вацлаў. Я лічу, што даставіў пакет па прызначэнню. Калі ласка, чытайце!

Даніловіч *(разрывае пакет, чытае. Здзіўлена).* Яго вязе асабіста генерал фон Блюментрыт?

Вацлаў. Так, генерал фон Блюментрыт. *(Дастае з халявы бота дакумент і перадае Даніловічу.)* Вось пасведчанне асобы.

Даніловіч *(пазнаёміўшыся з дакументам).* Генерал фон Блюментрыт?! *(Да Сініцы, паказваючы на дакумент. З іроніяй.)* Цвічок, значыць...

Сініца *(зноў настаўляе аўтамат на Вацлава).* Скідай боты!

Даніловіч *(з перасцярогай).* Баец Сініца...

Сініца *(адступае назад).* З ім па-чалавечаму: прывёў, не прыхлопнуў... А ён...

Вацлаў *(да Даніловіча).* Я хацеў бы з вамі адзін на адзін пагаварыць. *(Дастае з халявы бота тапаграфічную карту. Сініца ад здзіўлення аж вытарашчыў вочы.)*

Даніловіч *(да Сініцы).* Пакіньце будан!

Сініца *(кінуўшы нявеглівы позірк на Вацлава).* Ёсць пакінуць будан! *(Выходзіць.)*

Даніловіч *(паказваючы на пасведчанне генерала і пакет).* Мяне цікавіць гэта... Як яно да вас трапіла?

Вацлаў. Я і два нямецкія афіцэры, яны з войск СД, суправаджалі генерала фон Блюментрыта ў стаўку рэйхскамісара. *(Паказвае на карце.)* На шашы ва ўрочышчы Голае балота наша машына была вось адгэтуль абстраляна з аўтамата. Шафёр і афіцэры былі забіты адразу. Генерал загадаў мне прыкрываць яго адход па балоту, а затым хацеў знішчыць гэты сакрэтны пакет. Я «не дазволіў» і вырашыў даставіць пакет вам.

Даніловіч. Колькі ў вас чэхаў і славакаў?

Вацлаў. Трыццаць сем.

Д а н і л о в і ч *(папраўляе).* Сорак адзін.

В а ц л а ў. Чатырох маіх салдат пазаўчора расстралялі за спробу перайсці на бок партызан.

Д а н і л о в і ч. Добра! Вы забілі генерала, прынеслі нам сакрэтны пакет. А што далей?..

В а ц л а ў. Прашу вывесці мяне да Голага балота. Там мне трэба пакет і дакументы генерала ў тарфяніку добра прамачыць, каб паверылі, што я іх стараўся выратаваць. Хачу, каб мне фашысты давяралі, верылі хоць бы гэтыя два-тры дні. У мяне ёсць план... *(Паказвае штосьці на карце, расказвае, але далей размовы не чуваць.)*

Да Сініцы, які стаіць ля будана, падыходзіць вартавы Н і с ц ю к.

Н і с ц ю к. Ну, што за птушка?

С і н і ц а. Генерал... нейкі фон...

Н і с ц ю к. Можа, не генерал, а толькі фон?

С і н і ц а. Генерал. Толькі пераадзеты. Пры пакеце, сакрэтным.

Н і с ц ю к. Здорава! Пашанцавала табе, Сініца! Лічы, ордэн ёсць!

С і н і ц а *(цяжка ўздыхнуўшы).* Не ведаю, што будзе...

Н і с ц ю к. Э-э! Відаць, генерал ліпавы?!

С і н і ц а. Адкуль узяў?

Н і с ц ю к. Мяркую па тону твайго адказу...

С і н і ц а. Сапраўдны! Сам прызнаўся. Нават дакументы паказваў. Ды не проста генералішка, а поўны, баронскага роду. Фон! Разумееш?

Н і с ц ю к. Ой-ёй-ёй! І ты нос павесіў? Такога языка злавіў!

С і н і ц а. Адчапіся! Без цябе млосна.

Н і с ц ю к *(з іроніяй).* Бач, яшчэ і незадаволены! А што? Ты, можа, хацеў самога Гітлера ці Рыбентропа з Гебельсам злавіць?

С і н і ц а. У мяне вось тут у сэрцы на гэтага фона кроў закіпае!..

Н і с ц ю к. Сініца, вазьмі сябе ў рукі. За такога гада можаш паплаціцца. Гэта ж генерал! Ды яшчэ фон! Ты адкуль сам? З Рублёўкі?

С і н і ц а. Ну, з Рублёўкі. А табе што?

Н і с ц ю к. У нашых Навасёлках быў хоць раз?

С і н і ц а. Быў. Чаго ты хочаш ад мяне?

Н і с ц ю к *(уздыхнуўшы)*. Няма ўжо Навасёлак... Адзін попел ляжыць... Там у мяне загінула ўся сям'я... А вось памяць бакі гэтаму фону я табе не дазволю. Трэба разумець! Па-першае, гэта скаціна далікатная, стукнеш злёгку, а яна і ногі выцягне. А па-другое, гэты генерал па сваёй вартасці за сто языкоў можа пацягнуць... *(Далей размовы Сініцы з Нісцюком не чуваць.)*

У будане Вацлаў штосьці паказвае Даніловічу на карце і працягвае размову.

В а ц л а ў. ...фашыстам стала вядома, што ваш атрад дваццаць сёмага дыслацыраваўся тут, а затым на правым беразе Безымянкі ў Тоўстым лесе, трыццатага і трыццаць першага — на Паляне, а затым вось тут. Аб гэтым даносяць два правакатары. Яны засланы ў ваш атрад палкоўнікам Гольцбюрге, які распрацаваў план аперацыі разгрому вашага партызанскага злучэння... *(Працягвае расказваць, але размовы не чуваць.)*

Н і с ц ю к. Сініца, ты, напэўна, захварэў?

С і н і ц а. Адчапіся, кажу!

Н і с ц ю к. Я не жартую. У цябе такая ўдача, а ты скрывіўся нешта...

З будана выходзяць Д а н і л о в і ч і В а ц л а ў.

Д а н і л о в і ч *(да Нісцюка і Сініцы)*. Няхай

ён тут з вамі пабудзе. *(Пакінуўшы Вацлава, вяртаецца ў будан і звоніць па тэлефоне.)* «Волга»? Дай «Чайку»... Начальнік разведкі?.. Неадкладна арыштаваць Барысіка і Бацяна. Дапытаць і далажыць... Ёсць звесткі, што яны агенты палкоўніка СС Гольцбюрге і заўтра збіраюцца пакінуць наш лагер. Запішы: дваццаць пятага ў тры нульнуль Бацян сустрэўся з палкоўнікам і атрымаў спецыяльнае заданне: устанавіць дыслакацыю нашага партызанскага злучэння. *(Паўза. Мяняе тон.)* Што? Барысік не вярнуўся?.. Не?! Вернецца — узяць пад арышт!.. Да тэлефона Карпука!.. Карпук? Загадваю: у дваццаць тры пяцьдзесят сабраць у штаб камандны састаў. Неадкладна аддай распараджэнне, каб усё было падрыхтавана да пераходу атрада на новую базу... Ёсць аб'ектыўныя прычыны... *(Кладзе трубку. Вывучае карту.)*

Сініца трымае Вацлава пад дулам аўтамата.

Сініца *(да Нісцюка).* Браток, заходзь з тылу! Час не роўны. Цемра, хоць вока выкалі. Ён можа махні-драла даць.

Вацлаў *(з ласкавай любоўю глядзіць на партызанаў).* Таварыш!..

Нісцюк *(кідаецца да Вацлава, хапае яго загрудкі і трасе).* Ах, фашысцкая погань! Нелюдзь ты! Яшчэ «таварыш»!.. Я табе пакажу «таварыш»! Можа, яшчэ запяеш і «Гітлер капут»?

Вацлаў *(збянтэжана).* Гітлер капут! Гітлер капут!

Сініца *(вырываючы Вацлава з рук вартавога).* Нісцюк! Пакінь ты яго!

Нісцюк *(адпускае Вацлава).* Людаеда шкада? Так? У цябе, відаць, гэтыя галаварэзы нікога не зачапілі? А я ім за ўсё адплачу спаўна!

**Сініца.** Уймíся! У зубы яму глядзець не стануць. *(Мяняе тон.)* Няхай ён лепш свае штаны павартуе! *(Здымае са штаноў Вацлава рэмень, выкручвае гузікі.)* Трымай, а то спаўзуць!

Вацлаў прытрымлівае штаны. Сініца смяецца. З будана выходзіць **Даніловіч**.

**Даніловіч** *(да вартавога і Сініцы)*. Што за базар?

**Сініца.** Мы фрыца вартуем, а фрыц свае штаны...

**Даніловіч.** Вярнуць рэмень!

**Сініца** *(незадаволена)*. Ёсць вярнуць рэмень! *(Аддае яго Вацлаву.)*

**Даніловіч** *(да Вацлава)*. Зайдзіце, калі ласка! *(Да Сініцы.)* А вы пачакайце тут.

**Вацлаў** і **Даніловіч** заходзяць у будан.

Што вы можаце сказаць аб сённяшняй дыверсіі на чыгунцы?.. Пасажырскі састаў быў пушчаны пад адхон каля Альхініч. Чулі? Раніцай...

**Вацлаў.** Чуў! Чуў! Кажуць, трое вашых партызанаў гэты цягнік узарвалі і самі загінулі... Званілі са стаўкі рэйхскамісара. Там страшэнная паніка. Яна можа паскорыць аперацыю войск СС, аб якой я вам далажыў. Лепш за ўсё першымі ісці на ворага, не даваць яму сабрацца ў моцны кулак. Гарнізон Альхініч, як дамовіліся, я бяру на сябе...

**Даніловіч.** Яшчэ раз прадумайце ўсё дакладна... *(Далей размовы не чуваць.)*

Да Сініцы падыходзіць Нісцюк.

**Нісцюк.** Сініца, кажуць, ты быў вартавым пры штабе ў нашага партызанскага генерала, ці праўда?

С і н і ц а. Быў! А што табе?

Н і с ц ю к. Ды проста так...

С і н і ц а. Чаго тады пытаешся?

Н і с ц ю к. Трэба, дык і пытаюся. *(Аглянуўшыся, прыцішана, нібы па сакрэту.)* Скажы, браток, ты, можа, там чуў, калі гэтая праклятая вайна скончыцца?

С і н і ц а. Скора.

Н і с ц ю к. Без цябе ведаю, што скора. Ты мне, Сініца, дзень назаві...

З будана выходзіць Д а н і л о в і ч, за ім В а ц л а ў.

Д а н і л о в і ч. Баец Сініца! Вывесці афіцэра на Голае балота!

С і н і ц а. Ёсць вывесці афіцэра на Голае балота! *(Радасна.)* Значыць, у расход?

Д а н і л о в і ч. Баец Сініца! Каб ніводзін волас з яго галавы не ўпаў! Глядзіце мне! Сваім жыццём адказваеце. З Голага балота пакажаце афіцэру, як выйсці на шашу.

С і н і ц а *(збянтэжана паўтарае загад)*. Ёсць вывесці афіцэра на Голае балота і паказаць дарогу на шашу!

Д а н і л о в і ч. Праз гадзіну далажыць мне аб выкананні задання. *(Мяняе тон. Да вартавога і Сініцы.)* Пра візіт гэтага афіцэра нікому ні слова: ні свайму, ні чужому. *(Да Вацлава.)* Таварыш, дзякуем! *(Паціскае руку.)* Да пабачэння! У добры шлях!

В а ц л а ў. Таварыш!.. Таварыш!.. Я сваё слова стрымаю! Да хуткай сустрэчы! Таварышы!..

Д а н і л о в і ч *(да Сініцы)*. Загадваю вам насіць у кішэні вось гэты цвічок. Няхай ён напамінае аб дэталёвым вобыску... Вазьміце. *(Аддае Сініцы цвічок.)* А цяпер выконвайце заданне!

В а ц л а ў і С і н і ц а ідуць у цемру ночы.

Н і с ц ю к *(услед Сініцы).* Ты гэты цвічок замест медаля пачапі!

Д а н і л о в і ч. Таварыш Нісцюк! Не забывайце! Вы на пасту.

Н і с ц ю к. Я маўчу.

Даніловіч у глыбокім роздуме ходзіць ля будана. З'яўляецца Н а д з е ж д а П я т р о ў н а. Яна моўчкі сочыць за кожным рухам камандзіра. Нарэшце Даніловіч заўважае яе. Прыпыняецца. Некаторы час яны моўчкі стаяць. Затым Надзежда Пятроўна нясмела падыходзіць да Даніловіча, глядзіць яму ў вочы, падрыхтаваная сустрэць цяжкую для яе вестку.

Д а н і л о в і ч. Яны прыйдуць... Не хвалюйцеся... Вам трэба паспаць. Сягоння будзе вялікі пераход. Ідзіце хоць крышачку адпачніце. Ідзіце, Надзежда Пятроўна, прашу вас.

Н а д з е ж д а П я т р о ў н а моўчкі адыходзіць. Д а н і л о в і ч вяртаецца ў будан, зноў садзіцца за карту. Неўзабаве з'яўляецца Ш п а ч о к з аўтаматам цераз плячо. Ён накіроўваецца ў будан. Яго даганяе м а ц і.

Н а д з е ж д а П я т р о ў н а *(абдымае і цалуе сына).* Сынок! Шпачок мой!.. Любы... Вярнуўся!.. Адзіны мой! *(Плача.)*

Ш п а ч о к *(апусціўшы галаву, маўчыць. Пасля паўзы).* Тата...

Н а д з е ж д а П я т р о ў н а *(перапыняе, прыціскаючы сына да сябе).* Ён прыйдзе! Ён вернецца! *(Плача.)*

Ш п а ч о к. Мамачка, не плач! Тата наш... спозніцца... Ты пачакай мяне тут, я толькі далажу камандзіру і вярнуся. *(Бяжыць у будан і дакладвае Даніловічу.)* Таварыш камандзір! Ваша заданне выканана: фашысцкі поезд пушчаны пад адхон... Ды яшчэ... Там непадалёку, знішчаны фашыст і здраднік Барысік... *(Паўза.)*

Даніловіч. Ты не дакладвай, а расказвай... расказвай...

Шпачок *(паказваючы на аўтамат).* Гэта мне тата аддаў... назусім... Я не мог адразу вярнуцца... *(Паўза. Дастае запіску, якую перадаў бацька.)* Яны напісалі вам...

Даніловіч *(з трывогай бярэ запіску, чытае).* «Такое склалася становішча... Мы не маглі інакш... Бывайце...» *(Некаторы час стаіць у жалобным маўчанні. Заўважыўшы, што Васілёк пацягнуўся рукою да шапкі, каб яе зняць.)* Не трэба!.. Мы будзем іх заўсёды чакаць...

Уваходзіць Надзежда Пятроўна. Яна глядзіць у вочы камандзіру, а затым прытуляе да сябе сына.

Надзежда Пятроўна *(авалодаўшы сабою).* Дайце нам самае адказнае заданне!

Заслона.

## Карціна другая

Гасціная кватэры палкоўніка Гольцбюрге. На пярэднім плане — два вакны. На падаконніках — вазоны. Пасярод пакоя — стол, засланы абрусам. На сцяне паміж акон — партрэт маладога нямецкага афіцэра. Направа — уваходныя дзверы. Налева — двое дзвярэй. Адны з іх — на кухню, другія, з французскім замком,— у кабінет палкоўніка.

У гасцінай нікога няма. Чуваць асцярожны званок над уваходнымі дзвярамі.

З кухні выбягае Герта.

Герта *(кідаецца да дзвярэй. Радасна.)* Напэўна, муж!

Зноў чуваць званок, але больш працяглы.

Герта. Не... *(Спыняецца і спалохана адсту-*

*пае назад.)* А можа, гэта той агент Бацян, якога так чакаў муж. *(У бок дзвярэй.)* Хто там?

Голас з-за дзвярэй. Фраў Герта, не бойцеся... Гэта я...

Герта *(з трывогай)*. Хто «я»?

Голас з-за дзвярэй. Ганс Ліндэ... Вартавы вашага асабняка...

Герта. Айн мамент! *(Паспешна адмыкае дзверы. На парозе з аўтаматам у руках з'яўляецца Ганс.)* А я думала... Дзе цяпер мой муж?

Ганс. Я толькі салдат. І раён, у якім пачынае дзейнічаць супраць партызанаў полк вашага мужа, застаецца ў сакрэце.

Герта. Я хачу толькі ведаць, што з ім?..

Ганс. Аб гэтым нічога не магу сказаць. *(Мяняе тон.)* Я прыйшоў далажыць вам, што мною затрыманы рускі хлапчук. Гадоў трынаццаці-чатырнаццаці...

Герта *(са здзіўленнем глянуўшы на Ганса)*. Я не палкоўнік! *(Хоча са злосцю зачыніць перад ім дзверы.)*

Ганс *(затрымлівае)*. Пачакайце, фраў Герта! Уласна кажучы, рускага хлапчука ніхто не затрымліваў. Ён сам напралом лезе, каб сустрэцца з палкоўнікам. Вось я і хачу параіцца...

Герта *(з абурэннем)*. Што патрэбна гэтаму шчанюку? У камендатуру яго! Там разбяруцца!

Ганс. Ён, напэўна, тайны агент вашага мужа і прынёс, як я зразумеў, каштоўныя звесткі аб партызанах... Пан палкоўнік, відаць, не жадае, каб яго сакрэты трапілі другому камандзіру або ў гестапа. Рускі хлапчук сам намякнуў аб гэтым. Вось я і прыйшоў да вас... як лепш?..

Герта. Ідзі і скажы: палкоўнік загадаў перадаць табе ўсё, што трэба. А сюды не пускай!

Ганс. Ён не ■ такіх. Аўтамат на яго настаў-

ляў, страшыў у камендатуру завесці і павесіць, як партызана... *(Пацiскае плячамі.)* Аж дзіўна! Яшчэ мяне палкоўнікам запалохвае... Ён разы два ваша імя называў...

Г е р т а *(здзіўлена).* Маё?

Г а н с. Ваша. Кажа, палкоўнік папярэдзіў, што калі яго не будзе дома, дык усе сакрэты можна даверыць толькі вам. Так і сказаў: фраў Герце Гольцбюрге. Вось чаму я да вас...

Г е р т а. Нічога мне муж не гаварыў. Ён перад ад'ездам папярэдзіў, гэта майце на ўвазе і вы: нікога ў дом не пускаць, апрача чалавека, які назаве сябе Бацяном.

Г а н с *(перапытвае).* Бацян? Бацян, кажаце?

Г е р т а *(зацікаўлена).* Так, так, Бацян! А што такое? Ён тут? Можа, прыходзіў?

Г а н с. Не! Хлапчук кажа, што нейкі Бацян не можа зараз прыйсці сюды сам і таму паслаў яго. Хоча нешта перадаць асабіста палкоўніку.

Г е р т а. Вось яно што!.. Цяпер зразумела, чаму Бацян не прыйшоў пазаўчора. А мужу ён быў так патрэбен. *(Да Ганса.)* Як завуць гэтага хлапчука?

Г а н с *(разводзіць рукамі).* Ён кажа, Іван Шпак, ці Шпэчак...

Г е р т а *(угледаючыся ў расчыненыя дзверы).* Гм! Шпэк... ад Бацяна... Цікава, цікава... Абшукай і прывядзі гэтага хлапчука сюды.

Г а н с. Абшукаў, няма нічога. Толькі пустая торба.

Г е р т а. Не забывай, дзе мы знаходзімся. На гэтай зямлі нікому нельга верыць.

Г а н с *(ківае пальцам у бок выхаду).* Рус! Ком, ком гір!

Чуваць, як забрахаў сабака.

Г а н с *(крычыць).* Рэкс! Рэкс! На месца!

У дзвярах гасцінай з'яўляецца Ш п а ч о к з торбай у руках. На ім парванае адзенне, шапка з абвіслым брылем.

Ш п а ч о к *(з абурэннем да Ганса).* Я ж табе, можа, не сабака, каб так доўга трымаць мяне на вуліцы. Усё палкоўніку раскажу... Мяне маглі заўважыць, што я прыйшоў да палкоўніка, і данесці партызанам. Ты фарштэйн?

Г а н с *(вінавата, да Герты).* Я, здаецца, нічога такога... *(Абмацвае адзенне Шпачка.)* Аллес нікс... *(Да Шпачка.)* Ну, рускі Іван, дакладвай, чаго ты з торбаю цэлую раніцу сюды рваўся.

Ш п а ч о к *(са злосцю).* Каб цябе ў гэтую торбу забраць! Вось чаго! Яшчэ пытаецца... Сто разоў казаў: да пал-коў-ні-ка! Фарштэйн?

Г е р т а *(да Шпачка).* Дакументы!

Ш п а ч о к *(здзіўлена глядзіць на яе, потым смяецца).* Якія дакументы? *(Паказвае пальцам на дзверы ў кабінет.)* Вось ідзі, ідзі пакліч палкоўніка. Ён скажа: хацелі мне даць пропуск, а я адмовіўся. На чорта ён мне. З ім, як зловяць партызаны, дык адразу капут. *(Паказваючы на торбу.)* А так усім відаць: сірата, жабрую... *(Мяняе тон.)* Ты не стой, не стой, ідзі далажы палкоўніку, што я да яго прыйшоў... Фарштэйн?

Г е р т а *(рэзка).* Што табе трэба?

Ш п а ч о к. Сама ўбачыш, кліч хутчэй!.. *(Паўза. Да Ганса і Герты.)* Дык вы не хочаце ісці? Я пачну крычаць, і ён сам выйдзе. *(Да Ганса.)* І абавязкова скажу, каб цябе на фронт... *(Да Герты.)* І ты, служанка, глядзі, будзе табе...

Г а н с *(перабівае).* Апамятайся, што ты гаворыш! Гэта ж фрау Гольцбюрге!

Ш п а ч о к *(з ног да галавы аглядае Герту).* Вы?!

Г е р т а *(ледзь не крычыць).* Што табе трэба тут?

Ш п а ч о к *(здзіўлена).* Вы!.. А я... Прабачце, фрау Герта. Мне трэба перадаць важныя звесткі. Прашу вас, паклічце палкоўніка, а то я спяшаюся... Скажыце яму, што я ад Бацяна прыйшоў.

Г е р т а. А калі б мужа не было дома, што тады?

Ш п а ч о к. Тады... вам... Ён так прасіў...

Г е р т а. Давай сюды!

Ш п а ч о к. Палкоўнік са мной пагаварыць хоча. Вось запытайцеся...

Г е р т а. Яго няма.

Ш п а ч о к. А-а... *(Глянуўшы на Ганса.)* Шкада, што няма... Тады прыйдзецца вам... Толькі вы іх нікому не паказвайце... І няхай салдат маўчыць... або лепш няхай выйдзе.

Герта знакам рукі загадвае Гансу яшчэ раз абшукаць хлопчыка. Ганс зноў пачынае абшукваць.

Ш п а ч о к. Не шукай дарэмна, бо трасцу знойдзеш. Я ўсе сакрэты ў галаве трымаю.

Г а н с *(канчыўшы абшукваць).* Аллес нікс!

Г е р т а. Гут, ідзі... *(Непрыкметна дае рукой знак Гансу выйсці за дзверы і стаяць там.)*

Ганс ківае галавою, што зразумеў, і выходзіць, пакінуўшы дзверы крыху адчыненымі.

Г е р т а. Ну!

Ш п а ч о к. Ваш муж мяне добра ведае.

Г е р т а *(перабівае).* Навошта табе палкоўнік?

Ш п а ч о к *(прыцішвае голас, азіраецца).* Ён мяне і Бацяна на заданне пасылаў. Мы да партызанаў хадзілі. Бацян абяцаў яму пазаўчора прынесці звесткі, але цяпер не можа прыйсці. Я за яго ўсё прынёс. Палкоўнік мяне ведае і казаў,

што калі я ўсё выканаю, дык дасць мне пісталет. *(Паўза. Шпачок недаверліва аглядае Герту з ног да галавы. Мяняе тон.)* Можа, вы не сапраўдная жонка палкоўніка, можа, служанка?.. Яшчэ ў вартавога запытаюся... Няхай паклянецца, што вы ёсць вы... *(Адчыняе дзверы. Заўважыўшы за імі Ганса, здзіўлена.)* А-а, ты тут?! *(Ківае пальцам.)* А ну, гер зольдат, ком, ком гір!

У дзвярах з'яўляецца Ганс.

Шпачок. Падслухоўваў! Палкоўнік цябе павесіць за гэта. Фарштэйн?

Ганс *(збянтэжана)*. Я толькі што ішоў...

Шпачок. Ты можаш паклясціся, што гэта самая сапраўдная фрау Гольцбюрге?

Ганс. О так, так!..

Герта *(здзіўлена)*. Гм!.. Не верыць...

Ганс. Майн гот! Ён не верыць салдату фюрара!

Шпачок *(махнуўшы рукой)*. Гут, ідзі на пост, толькі дзверы няхай будуць адчынены, каб зноў не падслухоўваў, пра што я расказваць буду. Праўда, фрау Герта?

Ганс чакае распараджэння гаспадыні.

Герта. Ідзі. *(Паказаўшы на дзверы.)* Няхай застаюцца адчыненымі.

Ганс выходзіць.

Герта. Ну!

Шпачок. Я пра ўсё намалюю і напішу. Толькі дайце на чым...

Герта *(паказвае на крэсла ля стала)*. Сядзь тут і чакай.

Шпачок садзіцца.

Г е р т а. Аднаго ліста хопіць?

Ш п а ч о к. Як не маленькі, дык хопіць.

Герта адмыкае кабінет і хоча туды зайсці.

Ш п а ч о к *(прыўзнімаецца і хоча заглянуць у расчыненыя дзверы).* І канверцік не забудзьце!

Г е р т а. Сядзі! *(Знікае за дзвярамі.)*

Ш п а ч о к *(таямніча).* Так, гэта яго кабінет...

Вяртаецца Г е р т а, замыкае за сабой дзверы.

Г е р т а *(дае Шпачку паперу, аловак і канверт).* Пішы!..

Ш п а ч о к *(нешта малюючы, сам сабе).* Гэта лес, дарога... А тут балота і возера... У гэтым баку ля берага хвойнік расце. Тут зямлянкі...

Г е р т а *(наглядаючы за работай Шпачка).* А які гэта лес, і колькі там гэтых бандытаў?

Ш п а ч о к *(не адрываючы вачэй ад паперы, спакойным тонам).* Вам не абавязкова ведаць.

Г е р т а. Не мне, а палкоўніку.

Ш п а ч о к. Не бойцеся, ён не такія мае планы чытаў. І тут разбярэцца.

Г е р т а *(з усмешкай).* Глядзі, малы, а які ўпарты...

Ш п а ч о к. А што вы думалі, палкоўнік абы-якога цямцю-лямцю возьме да сябе на службу?

Г е р т а. А бацькі твае дзе?

Ш п а ч о к *(з іроніяй.)* У мужа запытайце, ён добра ведае. *(Мяняе тон.)* Я спяшаюся. Не перашкаджайце... Мне сёння яшчэ трэба дабрацца да другога лесу. Ён адгэтуль далёка... Лепш пашукайце мне чаго-небудзь перакусіць, а то нешта духі падцягнула і кішкі марш іграюць...

Г е р т а. Гут! Пішы! *(Ідзе на кухню.)*

Неўзабаве на кухні чуваць звон пасуды. Шпачок устае, кідае позірк на вартавога, потым дастае з брыля шапкі ключ

і асцярожна пачынае адмыкаць дзверы кабінета. У гэты час з кухні чуваць набліжэнне крокаў Герты. Шпачок з усіх сіл спрабуе выцягнуць ключ з замка, але гэта яму не ўдаецца. Пакінуўшы ключ у дзвярах, ён ледзь паспявае сесці на сваё ранейшае месца, але спіной да стала.

З кухні паказваецца Герта. У яе руках невялікі кавалак чэрствага хлеба.

Шпачок *(адразу, як паказалася Герта, настаўляе палец на партрэт, які вісіць на сцяне).* Хто гэта?

Герта *(сурова).* Чаго круцішся?

Шпачок *(збянтэжана).* Ён нейкі падобны...

Герта *(паклаўшы хлеб на стол).* Хто?

Шпачок *(разгублена).* Я кажу толькі, што ён знаёмы нейкі... Я недзе бачыў яго...

Герта. Ну? І не ведаеш?..

Шпачок. Я проста так кажу, што нейкі знаёмы... А так я яго не ведаю...

Герта. А на палкоўніка ён падобны?

Шпачок. На палкоўніка?.. *(Доўга ўглядаецца ў партрэт, баіцца, каб яго не злавілі на слове.)* Не... Мусіць, крышку падобны... Не... Гэты малады нейкі...

Герта. Гэта ж мой сын... Капітан... Увесь у бацьку. Усе кажуць, хто ні гляне...

Шпачок *(з радасцю хапае хлеб і пачынае есці. Становіцца насупраць расчыненых дзвярэй і гукае).* Гэй ты, фрыц! *(Адкусвае хлеб, дражніць вартавога.)* Фарштэйн? *(Смяецца. Хоча паказаць, што ён у гэтым доме свой чалавек.)* А яшчэ не пускаў...

Герта. А ты, Іван, сядзь тут! Фэрштэен?

Шпачок *(тонам вартавога).* О так, так... *(Садзіцца за стол. Недаедзены кавалак хлеба кладзе ў торбу.)* А вы фарштэйн, чаму я гэты хлеб сюды кладу, хоць і есці хочацца?.. *(Паказвае на торбу.)* Гэта мой пропуск. З ім мяне і немцы прапуска-

юць, і партызаны. Тут заўсёды ў мяне бывае ўсякая ўсячына. Усе думаюць, што я жабрую, і ніхто не здагадваецца, хто я такі... Толькі пропуск я ўвесь з'еў. Можа, у вас знойдзецца адна-дзве цыбуліны, галоўка часнаку, бурак які-небудзь, гурочак, хлеба кавалачкі два. Ну і крышачку солі... Вас за гэта палкоўнік пахваліць, вось паглядзіце!.. *(Уздыхнуўшы.)* О, каб ён сам тут быў! Я адгэтуль панёс бы цэлую торбу марак за такія сакрэты...

Г е р т а. Грошай для цябе ў мяне няма, а пропуск такі можна.

Ш п а ч о к. Вельмі вам аддзякую. *(Падае торбу.)* Пакладзіце сюды ўсяго патрошкі. А я тым часам скончу пісаць. Калі ласка!

Г е р т а *(трасе рукамі, адмахваецца ад торбы).* Найн, найн! *(Ідзе на кухню.)*

Ш п а ч о к *(занепакоена пазірае на ключ, які застаўся ў замку).* Няўжо Міцька падвёў? Ён жа казаў, што сам тут замкі ўстаўляў... *(Падбягае да ўваходных дзвярэй, зачыняе іх і замыкае на ключ, які хавае сабе ў кішэню. Схапіўшы торбу, кідаецца да кабінета. Адамкнуўшы яго, знікае за дзвярамі. Неўзабаве вяртаецца адтуль, несучы нешта ў торбе. Замыкае за сабою дзверы.)*

З кухні з вялікай эмаліраванай міскай у руках выходзіць Г е р т а. Заўважыўшы, як адскочыў Шпачок, яна кідаецца да дзвярэй кабінета. Пераконваецца, што дзверы замкнёныя, і грозна глядзіць на Шпачка.

Г е р т а. Бандыт?!

Ш п а ч о к *(дастае з кішэні невялікі пісталет і настаўляе на Герту).* Партызан...

Герта ад страху выпускае з рук міску, з якой на падлогу вывальваюцца розныя аб'едкі.

Ш п а ч о к. Маўчы! А то капут зраблю!

Г е р т а *(перапалохана).* Ав-ва-ва!..

Ш п а ч о к. Маўчы! *(Паказвае на сваю торбу.)* Бачыш? Гэта міна. Яе партызаны праз акно перадалі. Будзеш мяне слухаць — застанешся жывой, а не — падарвём!

Г е р т а. Іх... іх... іх...

Ш п а ч о к. Слухай маю каманду: лажыся ніцма!.. Што? Нікс фарштэйн?.. Носам да падлогі! Фарштэйн?

Герта, калоцячыся ад страху, выконвае каманду Шпачка.

Ш п а ч о к *(падымае міску і накрывае ёю галаву Герце).* Маўчы і не варушыся! Я цябе мініру́ю, каб не бегла нікуды і не крычала.

Г е р т а *(слабым голасам).* Я... маўчаць буду... Міну нікс... нікс...

Ш п а ч о к. Не скуголь!

Г е р т а. Ы... ы... ы...

Ш п а ч о к *(бярэ з падаконніка вазон і ставіць яго на спіну Герце).* Мініру́ю!.. Цяпер рот не разяўляй і нагамі не дрыгай! Калі будзеш ляжаць спакойна, цябе размініруюць і ты застанешся жыць... *(Вешае цераз плячо торбу, адчыняе акно, хоча вылазіць, але, пачуўшы, як пад акном забрахаў сабака, падаецца назад. Голасна, нібы да каго звяртаецца, у бок акна.)* Хлопцы, адыдзіце ад акна, а то я тут фраў замініраваў. Яна нешта круціцца, відаць, жыць абрыдла... Вазьміце яе на мушку, каб не варушылася, а я пагляджу на кухні для вас чаго-небудзь паснедаць... *(Бяжыць на кухню, неўзабаве выносіць адтуль засмажаную курыцу. Падбягае да акна.)* Вось курыца смажаная! *(Зноў пад акном забрахаў сабака.)* На, лаві! *(Кідае праз акно курыцу. Сабака сціх.)* Ну, фраў, мы пайшлі, цябе размініруюць, толькі не вару-

шыся і не крычы, а то ўзарвешся... *(Вылазіць праз акно і знікае.)*

Герта ляжыць моўчкі. Па лістах вазона, які стаіць у яе на спіне, відаць, што яна калоціцца ад страху. Праз некаторы час за акном чуваць здзіўлены голас Ганса.

Ганс. Рэкс! Што такое?.. Курыца?.. Няўжо яна сабаку?.. Не верыцца... А можа, ты сцягнуў? Зараз запытаемся... *(Ля расчыненага акна з'яўляецца Ганс.)* Фраў Герта! Фраў Герта!..

Герта *(хоча адазвацца, але баіцца сказаць слова)*. Ых... ых...

Ганс *(прыслухаўшыся, больш уважліва пачынае агладаць пакой... Заўважыўшы на падлозе Герту з міскай на галаве і вазонам на спіне, не верыць сваім вачам)*. Не можа быць!.. *(Праціраe вочы.)* Гэта мне здалося... *(Надзяе акуляры, углядаецца. Спалохана падаецца назад.)* Фраў Герта!..

Герта. Ы-ы-ы... Ы-ы-ы-ы...

Ганс кідаецца ад акна ў дзверы, але яны замкнёныя.

Ганс *(за дзвярамі. Звоніць, стукае)*. Фраў Герта! Адчыніце! Што з вамі?! Адчыніце, фраў Герта... *(Паўза.)*

У пакой праз акно ўлазіць Ганс.

*(Тупае ў здзіўленні вакол Герты, не ведае, з якога боку падступіцца.)* Гэта вы, фраў Герта? Што здарылася?..

Герта. У... у-у-у...

Ганс *(асцярожна знімае з Герты вазон і міску, дапамагае ёй устаць)*. Што з вамі?

Герта *(крыху апамятаўшыся, палахліва адыходзіць ад таго месца, дзе ляжала)*. Міна! Міна! Партызаны!..

Г а н с *(здзіўлена глядзіць на Герту).* Якія партызаны? Якія міны?

Г е р т а. Вакол дома партызаны! *(Хоча схавацца пад стол.)*

Г а н с *(нічога не разумее, сам сабе).* Бедная фрау... Напэўна, розум страціла...

Г е р т а. Той рускі, бандыт...

Г а н с *(спахапіўшыся, пачынае мітусіцца, трымаючы аўтамат напагатове).* Дзе ён? Дзе?!

Г е р т а. Уцёк... праз акно... Тут было іх шмат... Мяне замініравалі...

Г а н с *(з трывогай кідаецца да дзвярэй кабінета. Упэўніўшыся, што яны замкнёныя, уздыхае з палёгкай).* Замкнёныя... *(Да Герты.)* Ніякай міны і партызанаў тут не было... Гэта на вашай спіне вазон стаяў. *(Паказвае.)* Глядзіце. І ўсё! Не трэба лішняй панікі падымаць, фрау Герта...

Г е р т а *(са страхам аглядае ўсё ў гасцінай і правярае, ці замкнёны кабінет).* Дзякуй богу! *(Пасля некаторай паўзы зноў усхвалявана.)* Не! Яны так адгэтуль не пайшлі! Акно кабінета?!

Г а н с. Яно цэлае... Я толькі што глядзеў...

Г е р т а. Значыць, ён тут адзін быў... Адкуль у яго пісталет... такі, як там, на стале ў мужа? Пазваніць у гестапа...

Г а н с *(затрымлівае яе).* Прашу!.. Не трэба... І вам непрыемнасці будуць... Вы ж... Я ж... Калі толькі пісталет, дык я дастану... Палкоўнік не пазнае.

Г е р т а *(кідаецца да кабінета, адмыкае яго і застывае ў адчыненых дзвярах).* Карты! Дакументы! Пісталет! Дзе? Дзе?

Г а н с *(спахапіўшыся, выцягваецца па камандзе «смірна» перад Гертай. Заікаючыся ад страху).* Вінават, гас-гас-па-дзін пал-коў-нік! Віна-віна-вінават!..

Г е р т а *(кідаецца ў кабінет, чуваць, як яна звоніць па тэлефоне).* Дайце гестапа!.. Паліцыю!.. Бандыты на асабняк палкоўніка напалі!.. Адзін!..

Г а н с *(перабівае).* Адзін-наццаць! Адзінаццаць...

Г е р т а. Адзінаццаць. Мяне замініравалі...

Г а н с *(стаіць як аслупянелы).* І мяне звязалі...

З а с л о н а.

## ДЗЕЯ ТРЭЦЯЯ

Хата бабкі Настулі. Направа — дзверы, руская печ. На пярэднім плане — насцеж адчыненае акно, стол, каля яго — услоны.

У хату ўваходзіць М а к с і м к а, а праз хвіліну — Ш п а ч о к. Ён у парваным адзенні, з торбачкаю цераз плячо.

Ш п а ч о к. Радзі Хрыста! *(Працягвае руку.)* Што-небудзь!..

М а к с і м к а. У нас няма нічога.

Ш п а ч о к. Радзі Хрыста!

М а к с і м к а. Ты што, глухі? У саміх няма нічога!

Ш п а ч о к *(акінуўшы позіркам хату).* Пашкадуйце няшчаснага сірату!

М а к с і м к а. Пачакай! Бабка скора прыйдзе. Мы сёння бульбу варым. Яна леташняя. Я на полі назбіраў. Хоць перамерзла, але смачная. *(З асалодай пацягнуўшы носам паветра.)* Чуеш, як пахне? Скора абедаць будзем!

Ш п а ч о к *(таксама пацягнуўшы носам паветра).* Ага! Здорава... смярдзіць!

М а к с і м к а *(пакрыўджана).* Сам смярдзіш! Вось за гэта абедаць не дадзім!

Ш п а ч о к. Гэта ж я кажу, што да вайны яна смярдзела і ніхто яе не еў. *(Заўважыўшы пустую бляшанку з-пад кансерваў, якая засталася на падаконніку. Здзіўлена.)* Дзе ты ўзяў?

М а к с і м к а. Не чапай! Хіба не бачыш, што на ёй па-фашысцку напісана?

Ш п а ч о к. Не адзін ты грамацей на свеце. Без цябе бачу, што тут не нашы буквы... І што, цэлую бляшанку адзін адразу сажраў ці ўдвух тут яны яе злопалі?

М а к с і м к а. Адзін!

Ш п а ч о к. Ай-яй-яй! Ну і кормяць іх, усё адно як на ўбой! А гэты абжора сюды больш не вернецца?

М а к с і м к а. Не ведаю! Прыбягаў старшы фрыц, нагергетаў яму нешта праз акно, і яны пайшлі. Відаць, зноў будуць на вуліцы гайню ганяць цэлы дзень.

Ш п а ч о к. А што гэта за «гайня»?

М а к с і м к а *(паказвае)*. Вось так яны ходзяць, размахваюць рукамі і ўсё спяваюць: «Ой, гайлі, гайлё-о-о! Гайню...»

Ш п а ч о к. Фашыст у вас на кватэры?

М а к с і м к а. Тут пост іхні.

Ш п а ч о к *(смяецца)*. Пост у хаце?

М а к с і м к а. Наша хата канцавая, і яны адгэтуль за дарогай цікуюць, бо нехта нават і днём міны ставіць.

Ш п а ч о к *(паказвае жэстам рук)*. А ў гэта самае яны глядзяць на дарогу?

М а к с і м к а. У што?

Ш п а ч о к. Ну, у гэтыя трубкі. Глянеш у іх, дык усё на сто вёрст вакол відаць.

М а к с і м к а. А-а! Бінокль!

Ш п а ч о к. Ён самы!

М а к с і м к а. Навошта табе?

Ш п а ч о к. Паглядзець хочацца. А тут ёсць яшчэ пасты, якія сюды на дарогу глядзяць?

М а к с і м к а. Няма. Фрыцы толькі з нашай хаты цікуюць, каб ніхто міну не падклаў ім... А праз бінокль, калі глянуць, можна ўбачыць тату на фронце?

Ш п а ч о к. Фашысцкі не возьме так далёка. Вось як прыйдуць нашы, ты ў іх папрасі, дык абавязкова ўбачыш. *(Кладзе бляшанку з-пад кансерваў у торбу.)*

М а к с і м к а. На якога чорта яна табе здалася? Выкінь!

Ш п а ч о к. Пясочак буду перасыпаць, і замест конаўкі спатрэбіцца...

М а к с і м к а. Пясочак... А табе колькі год?

Ш п а ч о к. Трынаццаты пайшоў.

М а к с і м к а. І мне гэтулькі.

Ш п а ч о к. А як тваё прозвішча?

М а к с і м к а. Міхейчыкі мы.

Ш п а ч о к *(здзіўлена)*. Міхейчыкі? Дзе ж тады тут жыве бабка Настуля? Пракопіха! Дзеда Пракопа ведаў?

М а к с і м к а. А навошта яна табе?

Ш п а ч о к. Я іх... сваяк.

М а к с і м к а *(здзіўлена)*. Сваяк? У нас зроду не было такіх. Дзед сам казаў, што я адзіны ў яго ўнук. Маму ў нямеччыну пагналі... Я цяпер з бабкаю жыву, і ў нас больш нікога няма. *(Паказвае на партрэт матроса, які вісіць на сцяне. Уздыхнуўшы.)* Яшчэ дзед у мяне... быў... Вось які! Матрос!

Ш п а ч о к *(разглядаючы)*. Царскі?

М а к с і м к а. Сам ты царскі! Ён рускага флоту...

Ш п а ч о к. Твой дзед усім дзядам дзед!

М а к с і м к а. Адкуль ты ведаеш?

Шпачок. Ведаю. Яго фашысты пахавалі пазаўчора... у труне і на могілках...

Максімка. Я як схаплю цябе за каўнер, дык ты за дзвярамі апынешся! Ты не ведаеш майго дзеда! Не ведаеш!

Шпачок. Больш за цябе, хоць ты і яго ўнук!

Максімка. Выбірайся адгэтуль, каб твайго духу тут не было!

Шпачок. Эх ты! Дарэмна цябе дзед расхвальваў: удаленькі, казаў, у мяне ўнучак... І за што ён табе кавалачкі цукру прыносіў?

Максімка *(спалохана)*. Які цукар? Я нічога не ведаю! Адвяжыся ад мяне!

Шпачок. Вось і добра, што не ведаеш. Я таксама нічога не ведаю! Нікому не расказвай, што твой бацька — камандзір на фронце. Я і аб гэтым нічога не ведаю. А дзед твой — сапраўдны савецкі герой. Гэта ён дапамог пазаўчора партызанам узарваць цягнік і пусціць яго пад адхон. За гэта твайго дзеда фашысты расстралялі. Твой дзед будзе Героем Савецкага Саюза. Вось папомніш мяне! *(Заўважыўшы на сцяне малюнак бусла.)* Гэта я маляваў... Не верыш? Памятаеш, ты з дзедам казу пасвіў ля алешніку? Гэта ў тую нядзелю было. Дзед пайшоў у лес, каб вудзільна выразаць. Але вудзільна не знайшоў, а прынёс табе вось гэтага бусла і цукру тры кавалкі. Гэта я табе даў.

Максімка. Ты?!

Шпачок. Я.

Максімка. А хлопцы са мною перасталі гуляць, кажуць, што дзед мой нядобры.

Шпачок. Хто з цябе кепікі строіць?

Максімка. Ванька Герасімаў.

Шпачок. Пакажаш?

Максімка. Ён здаравейшы за цябе.

Шпачок. Я толькі з выгляду лядашчы,

а як вазьму загрудкі, дык шаўковы стане. Давай, Максімка, сябраваць. Цябе больш ніхто і пальцам не кране. *(Глядзіць праз акно.)* А можа, пагонім казу пасвіць вунь туды, да гравейкі, што ля лагчыны.

Максімка *(здзіўлена)*. Адкуль ты ведаеш, што мяне завуць Максімкам і што ў нас каза ёсць?

Шпачок. Я пра дзеда твайго многа чаго ведаю, а ты вось таго не ведаеш, што я ведаю.

Максімка. Што ты ведаеш?

Шпачок. Дарогаю раскажу. А цяпер пагналі казу на пашу.

Максімка. Пачакай! А ты курыш?

Шпачок. А што?

Максімка. Магу даць тытунь.

Шпачок. Які, рускі?

Максімка. Дзедаў.

Шпачок. Многа?

Максімка. Цэлы кадоўбчык застаўся.

Шпачок. Прыхавай. Я калі-небудзь забяру.

Максімка *(здзіўлена)*. Увесь?

Шпачок. Не бойся! Распіску дам. Нашы прыйдуць — «Казбекам» разлічуся.

Максімка. Спекульнуць хочаш?

Шпачок. Эх ты, дзіця горкае! Рускім тытунём натры пяткі, дык цябе ніводзін фашысцкі сабака не знойдзе па следу.

Максімка *(папярэджваючы)*. Бабка ідзе! Ціха!

Шпачок. Пайшлі!

Максім і Шпачок накіроўваюцца да выхада. У дзвярах сустракаюцца з бабкай Настуляй.

Бабка Настуля *(да Максімкі)*. Куды?

Максімка. Казу пасвіць.

Шпачок *(углядаючыся ў твар бабкі Настулі)*. Добры дзень вам!

Бабка Настуля. Добры дзень, каток! Чый жа ты будзеш?

Шпачок. Нічый...

Максімка *(тузануўшы Шпачка за руку)*. Пайшлі!

Шпачок і Максімка выходзяць.

Бабка Настуля *(глядзіць услед Шпачку)*. Тварык нейкі знаёмы... Дзе яго бачыла? *(Аглядае хату. Зачыняе акно. Уздыхае.)* Вось дажылі дык дажылі. Нават у сваёй роднай хаце павінен нейкага чорта баяцца. *(Бярэ венік і падмятае хату.)* Каб гэтаму людаеду Гітлеру векі вечныя варыцца ў смале, каб ён ніколі свету божага не бачыў. *(Кончыўшы падмятаць, падыходзіць да абраза і хрысціцца.)* Божа міленькі, злітуйся над намі! Пашлі гром і маланкі на гэтага антыхрыста, забі яго і спапялі! Будзем век табе маліцца! *(Падыходзіць да партрэта мужа.)*

У гэты час у акне з'яўляецца Надзежда Пятроўна, апранутая ў лахманы, яе цяжка пазнаць.

Надзежда Пятроўна *(грукае з вуліцы ў шыбу)*. Каму соль, іголкі! Мяняю на бульбу, хлеб!

Бабка Настуля *(углядаючыся праз шыбу ў твар Надзежды Пятроўны, адчыняе акно. Здзіўлена)*. Надзейка?! Божа ты мой!

Надзежда Пятроўна *(быццам не чуе, што сказала бабка Настуля)*. Бабка! Соль, іголкі мяняю на бульбу, хлеб! *(Прыцішана.)* Я вас не ведаю, і вы мяне! *(Зноў гучна.)* Соль, іголкі трэба?

Бабка Настуля. Трэба, дачушка, трэба! Зайдзі!

Бабка Настуля зачыняе акно.
Надзежда Пятроўна заходзіць у хату.

Не бойся! У нас нікога няма... Надзейка!

Надзежда Пятроўна. Забудзьце маё імя. Я для вас цяпер проста спекулянтка з Мінска. Вы мяне не ведаеце, і я вас.

Бабка Настуля *(плача)*. Мой Пракопка ўсё адно як адчуваў, што не давядзецца яму дачакацца светлага часу. Днямі расказваў пра цябе, Надзейка. Кажа, калі мяне не будзе, прымі яе, як родную, дапамажы ёй ва ўсім. Пракопку ж майго пазаўчора... Няма сізага голуба... Чорны цень на яго ворагі лютыя налажылі...

Надзежда Пятроўна. Ваш муж на подзвіг пайшоў. Ён адмовіўся размініраваць чыгунку. Яго фашысты расстралялі. Ім выгадна было сказаць, што Пракопа забілі партызаны, каб паказаць мясцовым людзям, што нібыта такі чалавек, як Пракоп, за іх «новы парадак» пайшоў.

Бабка Настуля. Людзі ж гэтага не ведаюць. Не выйдзеш жа на вуліцу і не станеш кожнаму стрэчнаму-папярэчнаму расказваць. А мне кожны дзень людзям у вочы прыходзіцца глядзець. *(Плача.)*

Надзежда Пятроўна. Прашу вас, не плачце!

Недзе з гарышча хаты пачуліся стрэлы з аўтамата і выкрыкі на нямецкай мове.
Надзежда Пятроўна насцярожылася.

Бабка Настуля. У нас тут кожны дзень неспакойна.

Надзежда Пятроўна. Адкуль стралялі?

Бабка Настуля. Відаць, з гарышча.

Яны ж не пытаюцца, і ты ў іх не запытаешся. Трэба ці не трэба, лезуць усюды. Нават выганяць з роднай хаты, а самі тут, як свінні, гаспадараць. З кулямётам сядзяць у хаце і на хаце. Усё за дарогай ды за лесам цікуюць.

Надзежда Пятроўна. А хлопчык з торбачкай да вас часамі не заходзіў? У шарачковых портачках з латкамі на каленях?

Бабка Настуля. Быў, быў. Дык гэта твой Васілёк такі ўжо вырас? Увесь у маці. Нават кропелькі пабраў! Толькі што з унукам выбег...

Надзежда Пятроўна. Куды яны пайшлі?

Бабка Настуля. Бог іх ведае, яны ж дзеці... Што ім? Мой казаў, што казу пагоніць на пашу.

На вуліцы пачуліся крыкі і тупат немцаў.

Надзежда Пятроўна *(завязвае свой пакунак, які развязала для адводу вачэй)*. Я пайшла. Дамовіліся: вы мяне не ведаеце, і я вас. Я проста спекулянтка.

Бабка Настуля. Перачакай тут. Гэтыя нехрысці недзе на дарогу пабеглі. Куды ты цяпер пойдзеш? Няхай уціхаміракцца.

Надзежда Пятроўна. Не ўгаворвайце... *(Выбягае з хаты.)*

Бабка Настуля *(становіцца на калені перад абразамі, моліцца, хрысціцца)*. Памілуй, божа, добрых людзей. Ратуй іх заўсёды ад кары антыхрыста! *(Зноў хрысціцца.)*

На вуліцы ўзмацняецца трывога. Чуваць беганя салдат, лаянка на нямецкай мове, кагосьці там пачынаюць катаваць. Чуюцца дзіцячыя стогны.

*(Гледзячы ў акно.)* Божа мой, кагосьці злавілі!

*(Раптоўна ўскрыквае.)* Ох! Ірады акаянныя! Што вы робіце! *(Выбягае з хаты.)*

З вуліцы чуваць голас бабкі Настулі: «Бандыты! Аддайце! Аддайце!»

Неўзабаве фашысцкі салдат прыводзіць у хату бабку Настулю, Максімку і Шпачка. У хлапчукоў на тварах кроў, сінякі. Адзенне на іх жывасілам парванае. Побач з салдатам з пісталетам у руках ідзе капітан Фульке з забінтаванаю галавою.

Капітан Фульке *(да бабкі Настулі, паказваючы на Максімку).* Твой?

Бабка Настуля. Мой.

Капітан Фульке *(паказваючы на Шпачка).* А гэты?

Бабка Настуля. Першы раз бачу.

Капітан Фульке. Даўно завучаны адказ! Вас бальшавікі навучылі?!

Шпачок *(паказваючы на бабку Настулю і Максімку).* Яны не вінаваты і нічога не ведаюць. Я іх першы раз бачу... Міны я адзін стаўляў.

Бабка Настуля *(хрысціцца).* Божа мой!

Капітан Фульке *(да бабкі Настулі).* Я скора цябе паспавядаю. Ты мне, старая ведзьма, усё раскажаш, як перад богам. З вамі важдацца доўга не буду. Размова ў нас будзе кароткая. Даю тры мінуты. Выбірайце: альбо быць спаленымі жыўцом у гэтай хаце, альбо жыццё, харошае жыццё. Толькі пры адной умове: калі вы нам раскрыеце ўсё, што ведаеце пра бальшавіцкіх бандытаў. Так, вашы тры мінуты пачаліся.

Шпачок. Яны не вінаваты. Я адзін усё ведаю!

Капітан Фульке. Так, так, маладзец! Расказвай!

Шпачок. Адпусціце іх! Яны зусім не вінаваты. Я партызан і ўсё ведаю!

Капітан Фульке. Не думай, што я стану абвінавачваць тваіх добрых знаёмых. О, не хвалюйся! Я іх адпускаю. *(Да салдата, паказваючы на Максімку і бабку Настулю.)* Вывесці за дзверы!

Салдат выконвае загад.

Шпачок. Хітрыя! Вы іх без канвою адпусціце! Няхай ідуць куды хочуць.

Капітан Фульке. Гэта залежыць ад цябе. Раскажаш усё пра бандытаў — адпусцім.

Шпачок. У нас бандытаў няма!

Капітан Фульке. О я, я! Партызан, партызан! Калі будзеш маўчаць, мы цябе спалім у гэтай хаце разам з тваёй раднёй. Даю тры мінуты! *(Глядзіць на гадзіннік. Пасля кожнай мінуты адлічвае.)* Айн!.. Цвай!.. Драй!... *(Б'е з размаху Шпачка, той падае на падлогу.)* Дзе? Дзе бандыты? Дзе партызаны? Ты ў мяне скора загаворыш! *(Пачынае біць Шпачка ботам, не даючы яму падняцца.)* Нідзе не дзенешся! Язык развяжу!

Шпачок *(закрываючы рукамі галаву)*. Пачакайце! Пачакайце!

Капітан Фульке. Што? Загаварыў?

Шпачок *(выціраючы з твару кроў. Устае)*. Калі вам так хочацца, дык скажу!..

Капітан Фульке. Ну, ну, давай! А не — я з цябе кішкі выпушчу! *(Дастае з кішэні фінскі нож і пагражае ім.)*

Шпачок *(устаўшы, горда)*. Мой тата — партызан! Гэта ён пазаўчора фашысцкі цягнік пад адхон пусціў!

Капітан Фульке. О я, я! Ты, аказваецца, маладзец! Расказвай!

Шпачок. Гэта я пазаўчора на чыгунцы рас-

страляў правакатара Барысіка, якога вы да нас падаслалі! Гэта я вас падстрэліў!

Капітан Фулькe *(аж прыўзняўся, але перамагаючы злосць).* Я ўсё дарую! Маладзец! Расказвай!

Шпачок. Нелюдзі вы! Знішчыць вас трэба, як шалёных сабак!

Капітан Фулькe *(у гневе).* Маўчаць, бальшавіцкі шчанюк! *(Б'е Шпачка кулаком па галаве. У бок дзвярэй.)* Вартавы!

Убягае салдат.

Забіваць вокны! *(Да Шпачка.)* У агні загаворыш, ды позна будзе!

Шпачок *(падымаецца на ногі, трымаючыся за падаконнік, і пачынае пець).*

Орленок, орленок, мой верный товарищ,
Ты видишь, что я уцелел.
Лети над лесами, родимой расскажешь,
Как сына вели на расстрел...

Песня гучыць мужна, смела. Праз акно Шпачок кагосьці заўважыў на вуліцы, не вытрымаў, адхіляецца ад акна, змаўкае.

Капітан Фулькe. Што? Здрэйфіў? Скора ты на агні не такую песню запяеш!

Чуваць, як на кухні забіваюць вокны...

Шпачок *(зноў становіцца перад акном і працягвае яшчэ гучней і мацней співаць).*

Вперед же, товарищи, в битве кровавой
Громите фашистов смелей!
На бой, партизаны, за счастье и славу
Великой Отчизны своей!..

З натоўпу, які, чуваць, знаходзіцца на вуліцы, даносіцца голас Надзежды Пятроўны: «Сынок! Сынок мой!.. Пусціце! Пусціце!»

Капітан Фульке *(глянуўшы ў акно)*. Абшукаць і прапусціць!

Неўзабаве пад канвоем салдата ўваходзіць Надзежда Пятроўна.

Надзежда Пятроўна *(кідаецца да Шпачка)*. Сын мой! Васілёк!..

Капітан Фульке дае рукою знак салдату, каб той пакінуў хату.
Салдат выходзіць.

*(Абдымае і цалуе сына.)* Родны! Даруй! Так трэба! Я не магла інакш...

Шпачок *(кідаецца ў абдымкі маці)*. Мама! Мамачка! Яны і цябе не памілуюць! Не паверыла? Думала, не вытрымаю?.. Чаго ж ты прыйшла? Мамачка!..

Надзежда Пятроўна. Не губіце яго! Ён дзіця! Я сама прыйшла да вас. Я партызанка. Мой муж — партызан, ён пазаўчора загінуў. Я сама ўзрывала масты, вашы машыны, дарогі... Я і сына паслала вам помсціць, забіваць... Я адна вінавата...

Капітан Фульке. Што вас штурхнула сюды прыйсці?

Надзежда Пятроўна. У вас ёсць дзеці?

Капітан Фульке. О я, я!

Надзежда Пятроўна. Дык навошта пытаецеся?

Капітан Фульке. Не разумею.

Надзежда Пятроўна. Вам не зразумець.

Капітан Фульке. Што за адказ?

Надзежда Пятроўна. Я маці! Па законах маці я за ім пайду ў агонь і ваду! Я хачу, каб маё дзіця жыло!

Капітан Фульке. Гэта ад вас залежыць.

Н а д з е ж д а  П я т р о ў н а. Я не прашу за сябе, а за сына...

К а п і т а н  Ф у л ь к е. Гут! Мы захаваем вам і вашаму сыну жыццё... Але вы павінны расказаць усё. А цікавяць нас бальшавіцкія бандыты: хто, дзе і колькі іх. Пакуль не пацвердзяцца вашы паказанні, мы вымушаны будзем трымаць вас як заложнікаў.

Надзежда Пятроўна глядзіць на сына, сын на маці.

Н а д з е ж д а  П я т р о ў н а. Даруй, сынок, што сама прыйшла. Зразумей мяне правільна! *(Да капітана Фульке.)* Я згодна!

Ш п а ч о к *(заплакаўшы, адварочваецца).* Мамачка! Дзе ты?

Н а д з е ж д а  П я т р о ў н а *(хоча абняць сына).* Сыночак!..

Ш п а ч о к *(вырываецца з абдымкаў маці).* Адыдзі! Ты не мая... Мая мама ніколі сюды б не прыйшла!

Н а д з е ж д а  П я т р о ў н а *(адступаецца ад сына).* Даруй...

К а п і т а н  Ф у л ь к е *(да Надзежды Пятроўны).* Расказвайце. Не звяртайце ўвагі на сына. Ён яшчэ дзіця. Калі вы ўсё раскажаце, мы вас усіх адпусцім. З якой вы партызанскай банды?

Н а д з е ж д а  П я т р о ў н а. Не з банды. У нас іх няма. А ёсць партызанскія злучэнні, брыгады, атрады...

К а п і т а н  Ф у л ь к е *(намерваецца весці запіс).* Гут, гут!

Н а д з е ж д а  П я т р о ў н а. Сынок, зразумей...

Ш п а ч о к *(перапыняе).* У мяне няма мамы. Яна толькі што памерла.

Надзежда Пятроўна са слязамі кідаецца да сына.

Капітан Фульке. Вартавы!

Убягае салдат.

Капітан Фульке *(паказваючы на Шпачка)*. Вывесці за дзверы!

Надзежда Пятроўна *(становіцца паміж вартавым і сынам)*. Тады я нічога не скажу! Нікуды ён ад мяне не пойдзе!

Капітан Фульке дае знак салдату-вартавому пакінуць хату. Вартавы выходзіць.

Капітан Фульке *(адзначае час па гадзіннiку)*. Даю тры мінуты. Калі за гэты час не пачнеш расказваць, тады твайго сына на тваіх вачах спалім, а за ім і цябе. Выбірай: альбо жыццё, альбо смерць. Айн!.. Памятай, мы, немцы, людзі пунктуальныя... Цвай!.. Ну, доўга будзеш у маўчанку гуляць? *(Раптоўна кідаецца з кулакамі да Надзежды Пятроўны.)* Досыць камедыю іграць! Ты мне закруцішся, ты мне загаворыш зусім па-другому, калі твой вырадак будзе енчыць у агні! *(У акно.)* Варта, сюды!

У хату спакойна заходзіць Вацлаў з аўтаматам напагатове.

Вацлаў. Я слухаю вас, гер гаўптман!

Капітан Фульке. Прывязаць гэтага шчанюка да ложка, а яе *(паказваючы на Надзежду Пятроўну)* — на вуліцы перад гэтым домам, да слупа. Няхай палюбуецца, на якія мукі сына паслала. *(У акно.)* Сюды бензін! *(Здзіўлена глядзіць на неба.)* Чырвоная ракета? Вас іст дас?

Вацлаў. А гэта, кат, расплата! *(Дае чаргу з аўтамата па капітану Фульке.)*

Капітан Фульке, як мяшок, апускаецца на падлогу. Шпачок выхоплівае ў яго пісталет і страляе ў нямецкага салдата,

які бег у хату. Надзежда Пятроўна падбірае аўтамат забітага фашыста.
У розных месцах вёскі чуецца бой.

В а ц л а ў *(у акно, падняўшы аўтамат)*. Браты! Смерць фашызму! *(Займае ў акне абарону. Да Шпачка і Надзежды Пятроўны.)* Па салдатах без галаўных убораў не страляць! Гэта нашы! Яны з вамі! *(Прыслухоўваецца да стралянiны. Радасна.)* Чуеце? Гэта нашы, чэхі! Славакі!

Н а д з е ж д а  П я т р о ў н а *(цалуе сына)*. Сынок! Даруй! Нам трэба было выйграць час, і мы яго выйгралі! Хутка нашы падыдуць. Яны тут недалёка. Я паслала сувязную...

Ш п а ч о к. Я ведаў, ты толькі такая! *(Пацалаваўшы маці, выбягае ў сенцы.)*

Надзежда Пятроўна і Вацлаў занялі абарону. Яны час ад часу праз вокны адстрэльваюцца. Бой у вёсцы, чуваць, разгараецца. Кулі трапляюць у акно. Са звонам на падлогу сыплецца шкло. З сянец прыбягае Ш п а ч о к.

Ш п а ч о к. Там без шапак... у фашысцкай форме...

В а ц л а ў і Н а д з е ж д а  П я т р о ў н а пакідаюць хату. У акно лезе гітлераўскі у н т э р - а ф і ц э р, на хаду страляе па Шпачку, які яшчэ паспеў выпусціць кулю ў ворага. Пачуліся партызанскія воклічы: «Ура! Ура!» Праз адчыненыя дзверы відаць, як з сянец Надзежда Пятроўна і Вацлаў радасна вітаюць чэхаў і славакаў, якія павярнулі зброю супраць фашыстаў. У сенцах з'яўляюцца М а к с і м к а і б а б к а  Н а с т у л я, а неўзабаве — Д а н і л о в і ч, С і н і ц а, Н і с ц ю к.

В а ц л а ў *(дакладвае Даніловічу)*. Таварыш!.. Таварыш камандзір савецкіх партызанаў. Чэшскія і славацкія патрыёты стрымалі сваё слова: фашысцкі гарнізон Альхініч разгромлены. Дзякуем вам за падтрымку! Чакаем новага задання!

Д а н і л о в і ч *(надзяе Вацлаву на галаву сваю

*шапку, абдымае і цалуе яго).* Дарагі наш тавары́ш! Браток!..

Н а д з е ж д а  П я т р о ў н а *(спахапіўшыся, убягае ў хату. Убачыўшы на падлозе смяртэльна параненага Шпачка, кідаецца да яго).* Сынок!

У хату заходзяць Д а н і л о в і ч, В а ц л а ў, п а р т ы з а н ы.

Д а н і л о в і ч *(падымае на рукі параненага хлапчука).* Шпачок наш...

Ш п а ч о к *(перамагаючы боль).* Ваша заданне выканаў...

М а к с і м к а. Цябе паранілі?

Ш п а ч о к. Гэта Максімка... Дзеда Пракопа ўнук. Ён дапамог... міны...

Н а д з е ж д а  П я т р о ў н а *(бярэ на рукі сына, цалуе, плача).* Сынок...

Ш п а ч о к. Ма-ма!.. Не плач... Неба будзе чыстае... Песні будуць... Арлёнак... Арлёнак... *(Безжыццёва павісаюць рукі.)*

Апошнія словы Шпачка падхопліваюцца песняй Я. Шведава на словы Л. Ашаніна «Арлёнак».

З а с л о н а.

# ВЫРАТАВАНЫ



*П'еса ў адной дзеі*

## ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ:

Юрка — вясковы хлапчук, 12 год.

Зінаіда Паўлаўна Зайчыкава — цётка Юркі, якая жыве ў горадзе, 37 год.

Толя — яе сын, 11 год.

Алёша — сябар Толі.

Гасцінная кватэры Зінаіды Паўлаўны Зайчыкавай. Пасярэдзіне — стол, крэслы, табурэтка. Збоку — канапа. Двое дзвярэй: адны з іх у калідор, другія — у суседні пакой. Направа — акно, ярка асветленае сонцам.

З калідора ў гасціную асцярожна заходзіць Т о л я. Ён крадком заглядае ў суседні пакой.

Т о л я *(з палёгкай)*. Няма яшчэ! *(З сумам.)* Дома, як у цямніцы. Аж не хочацца сюды заходзіць. *(Гледзячы ў акно, уздыхае.)* Эх, якое цяпер раздолле на рэчцы... *(Спалохана адыходзіць ад акна.)* Мама ідзе! *(Садзіцца на канапу і хутка пачынае раскладваць на табурэтцы дэталі металічнага «Канструктара». Уздыхаючы.)* Няхай думае, што я цэлы дзень дома сядзеў.

З сумачкай у руках уваходзіць З і н а і д а П а ў л а ў н а.

Мама! А, мама! Ты чуеш?

З і н а і д а П а ў л а ў н а. Што?

Т о л я. У Міцькі на двары хлопцы ў футбол гуляюць.

З і н а і д а П а ў л а ў н а *(загарэўшыся)*. Божа мой! Для чаго я табе «Канструктар» купіла? Каб ты сыходзіў з дому?

Т о л я. Я не сыходзіў. Нават і дзвярэй не адчыняў.

З і н а і д а П а ў л а ў н а. Адкуль ведаеш пра футбол?

Т о л я. Хлопцы праз акно казалі... Мама, пусці пагуляць.

З і н а і д а П а ў л а ў н а. Не хапала, каб вокны паразбівалі.

Т о л я. Кожны дзень гуляюць і яшчэ ніколі не разбілі ніводнай шыбы.

З і н а і д а П а ў л а ў н а. Усё да пары да часу — дагуляюцца.

Т о л я. Я хлопцам сказаў, што прыйду.

З і н а і д а П а ў л а ў н а. Ніякіх «прыйду»!

Гэтыя бальшуны могуць і курыць навучыць, і бог ведае што.

Т о л я. Там жа ўсе з нашага класа, нават і меншыя ёсць. І ніхто з іх курыць не ўмее.

З і н а і д а П а ў л а ў н а. Не ўмеюць — навучацца! Кампанія давядзе.

Т о л я. Мама!..

З і н а і д а П а ў л а ў н а *(перапыняе)*. Ніякіх футболаў. У цябе ёсць свой двор, свой «Канструктар», свае кніжкі... Я не хачу, каб маё дзіця заўсёды з разбітым носам хадзіла.

Т о л я. Дык тады пусці мяне без кампаніі.

З і н а і д а П а ў л а ў н а. А чаго? Пад машыну хочаш папасці ці каб жулікі галаву адрэзалі?

Т о л я. Я ніколі жулікаў не бачыў. Дзе яны?

З і н а і д а П а ў л а ў н а. Бо заўсёды са мной ходзіш.

Т о л я *(пакрыўджана)*. Усіх пускаюць, і нічога. А ты...

З і н а і д а П а ў л а ў н а. Што з табою робіцца? Не пазнаць дзіцяці. Я сваё, а ты сваё! Гэта работа Алёшкі! Няйначай! Відаць, ён цябе падбівае і на рэчку і, можа, на падножкі трамваяў чапляцца. Дык ведай жа — не выйдзе. Выкінь гэта нават з галавы! Не забывай, калі мяне дома няма, дык за табой сотні вачэй нашага двара назіраюць. Я папрасіла людзей, і яны пра кожны твой крок, дзе ты ступіш, мне дакладваюць. Ад мяне нічога не схаваеш!.. *(Гладзіць сына па галаве, другім тонам.)* Не трэба крыўдзіцца! Маці благога не пажадае свайму дзіцяці. Я хачу толькі дабра. *(Цалуе Толю.)* Заўтра пойдзем у горад. Табе ручны більярд куплю. А на ім розныя мядзведзікі, зайчыкі намаляваны...

Т о л я. Веласіпед купі.

З і н а і д а П а ў л а ў н а. Двор наш занадта

маленькі, каб на ім ездзіць, а на вуліцы машын многа. Падрасцеш, тады купім.

Т о л я *(з дакорам)*. «Канструктар» прынесла, а я ж не маленькі. Лепш бы набор інструментаў па дрэве. Там і гэблік, і пілка, і долата...

З і н а і д а  П а ў л а ў н а. Гэта не па табе. Яшчэ рукі пакалечыш.

Т о л я. У школе ніхто яшчэ і пальца не парэзаў.

З і н а і д а  П а ў л а ў н а. Ну, ведаеш, я не настаўнік. Часу ў мяне няма, каб ля цябе заўсёды крукам стаяць. Мне трэба і ў кантору на работу бегчы, і дома ўсё дагледзець, прыбраць... *(Паўза.)* Ты абедаў? *(Толя маўчыць.)* Сынок, я пытаюся, ты абедаў?

Т о л я. Не хачу!

З і н а і д а  П а ў л а ў н а. Можа, варэнікі зрабіць?

Т о л я. Не хачу!

З і н а і д а  П а ў л а ў н а *(заўважае на стале складзены лісток паперы. Здзіўлена)*. Тэлеграма?! *(Прабегла яе вачамі.)* Даўно прынеслі?

Т о л я. Яшчэ раніцай, як ты на работу пайшла.

З і н а і д а  П я т р о ў н а. І маўчаў. Хоць бы раскрыў. Можа, тут што-небудзь тэрміновае?

Т о л я. Сама заўсёды кажаш: хто чужымі пісьмамі цікавіцца, таго судзяць.

З і н а і д а  П а ў л а ў н а *(паказвае)*. Хіба ты чытаць не ўмееш ці не бачыш, каму адрасавана: «Зай-чы-ка-вым». А гэта значыць, мне і табе. Мог бы і пачытаць.

Т о л я. Я малы. Мне ніхто не піша.

З і н а і д а  П а ў л а ў н а *(зноў перачытвае тэкст тэлеграмы. Уздыхае)*. Яшчэ адзін клопат едзе на маю галаву. От! Вёска вёскай! Відаць, прыехаў

і сядзіць на вакзале. Чакае, каб яшчэ за ручку ўзялі ды прывялі...

Т о л я. Каго прывялі? Куды?

З і н а і д а П а ў л а ў н а. Гэта ж цётка твая Марыля з Каменкі такая разумніца. Дзіця цягніка ніколі ў вочы не бачыла, не ведае, што такое трамвай, а яна яго выправадзіла аднаго ў такую дарогу за блізкі свет.

Т о л я. Якое дзіця?

З і н а і д а П а ў л а ў н а. Юрка, твой брат дваюрадны, да нас едзе.

Т о л я. Юрка?!

З і н а і д а П а ў л а ў н а. Не радуйся! Ён табе не кампанія. *(Глянула на гадзіннік.)* Трэба, напэўна, схадзіць на вакзал.

Т о л я. Можа, Юрка зусім не выехаў з дому, а ты дарэмна бядуеш.

З і н а і д а П а ў л а ў н а *(паказваючы на тэлеграму)*. Марыля піша, што выехаў. Нават просіць, каб сустрэлі. *(Незадаволена.)* Мала яшчэ на маю бедную галаву клопату. Тут са сваім ніяк не ўправішся, кожны дзень вайну точыш. *(Мяняе тон.)* Будзь дома. Я пайшла на вакзал. *(Бярэ сумачку і выходзіць.)*

Толя са злосцю згортвае ў скрынку дэталі «Канструктара». Неўзабаве раздаецца званок. Толя адчыняе дзверы. Заходзіць А л ё ш а.

А л ё ш а *(насцярожана акінуў позіркам пакой. Прыцішана)*. Ты адзін?

Т о л я. Адзін.

А л ё ш а *(больш смела)*. Эх, Толік, дарэмна не прыйшоў! Каб ты толькі бачыў, каб ты толькі чуў, што было цяпер! Мы дзве шыбы выбілі мячом. І ведаеш каму? Міліцыянеру!

Т о л я *(здзіўлена)*. Міліцыянеру?

А л ё ш а. Ды яшчэ якому. З чатырма зорачкамі на пагонах!

Т о л я *(з трывогай).* О, пападзе!

А л ё ш а *(з усмешкай).* Нічога!

Т о л я *(прыцішана).* Паспелі ўцячы?

А л ё ш а. І не збіраліся. Мы думалі, што гэта кватэра пенсіянера Казлова.

Т о л я *(занепакоена).* І што вам было?

А л ё ш а. Нічога! Я адразу пабег дахаты. Расказаў пра ўсё тату.

Т о л я *(здзіўлена).* Расказаў?!

А л ё ш а. Расказаў.

Т о л я. А пасля?

А л ё ш а. Нічога.

Т о л я. Як нічога? Бацька, напэўна, вельмі сварыўся на цябе?

А л ё ш а. Нічога і не сварыўся. Толькі даў мне ліст шкла, алмаз, цвічкі і загадаў ісці шыбы ўставіць. І яшчэ сказаў, каб папрасіў прабачэння ў Казлова.

Т о л я *(здзіўлена).* І не сварыўся?

А л ё ш а. За што? Я ж не вінаваты, што Пецька такі разявака: я ж яму мяч падаваў, а не ў шыбу. *(Мяняе тон.)* І вось слухай, што далей было. Прыйшлі мы ў тую кватэру, дзе шыбы выбілі, а там, аказалася, жыве сам начальнік аддзялення міліцыі. О!

Т о л я. Ну і што?

А л ё ш а. Нічога! Начальнік нам сказаў: «Малайцы! Правільна зрабілі, што самі прыйшлі».

Т о л я. Ну, а пасля?

А л ё ш а. А пасля мяне начальнік пахваліў. Кажа, што я добра шыбы ўмею выразаць. *(З гонарам.)* Сам устаўляў! Ніхто не памагаў!

Т о л я *(здзіўлена).* Што ж усё-такі вам было?

А л ё ш а. Ды нічога! Начальнік міліцыі ска-

заў, што гаражы, якія стаяць пасярэдзіне двара, трэба знесці і на іх месцы зрабіць дзіцячую спартыўную пляцоўку.

Т о л я. О, здорава! Каб маёй маме расказаў, дык ні за што б не паверыла. Слухай, Алёшка, ты раскажы ёй пра гэта.

А л ё ш а. А навошта, калі не паверыць?

Т о л я. Усё адно раскажы, няхай ведае.

А л ё ш а. Ты, мажа, мне не верыш, дык во — чэснае піянерскае! У хлопцаў запытайся.

Т о л я. Веру. *(Пасля невялікай паўзы.)* А да мяне едзе з вёскі мой брат дваюрадны. Юркам яго завуць. Мы яшчэ ніколі не бачылі адзін аднаго. Сам едзе, без нікога, адзін! За трыста кіламетраў адгэтуль. Мама пайшла на вакзал сустракаць яго.

А л ё ш а. От, шчасце! Я табе магу нават «зайцам» у Маскву і назад з'ездзіць. Толькі няхай дазволяць і каб са школы не выключылі.

Т о л я. Ты гарадскі, а Юрка з вёскі. Ён ніколі яшчэ цягніка не бачыў і ў горадзе не быў. *(Мяняе тон.)* Давай пабеглі. Я табе нештачка пакажу.

А л ё ш а. А маці на цябе сварыцца не будзе?

Т о л я. Яна і не здагадаецца. Пакуль прыйдзе, дык мы дзесяць разоў назад вернемся.

А л ё ш а. А калі не паспеем?

Т о л я. Тады ты скажаш, што я да вас на хвіліну выбег.

А л ё ш а. Зразумей, Толік, я ніколі не маніў. Тым больш старэйшым...

Т о л я. Добра, сам выкручуся! Давай памчымся!

Хлапчукі выбягаюць з кватэры.

Зацямненне. Яно азначае, што прайшоў некаторы час. Той жа самы пакой. Чуваць, як хтосьці з калідора адмыкае дзверы. Уваходзіць З і н а і д а П а ў л а ў н а.

З і н а і д а П а ў л а ў н а *(са злосцю кідае на*

*стол сумачку.)* Так і ёсць, недзе раскрыў рот, развесіў вушы ды пацягнуўся па горадзе. *(Уздыхае.)* Ведаю, якое ў вёсцы выхаванне дзяцей. Растуць, на лес гледзячы, без нагляду. Гэта не тое, што ў горадзе — на кожным кроку міліцыя, і дружыннікі, і прахожыя звернуць увагу, калі дзіця няправільны крок зрабіла. А там? У полі ці ў лесе за цэлы дзень дзіця можа само па сабе і курыць навучыцца, і непрыстойныя песні пець... Не, Юрка майму Толіку не хаўруснік... *(Гукае ў бок суседняга пакоя.)* Толя! Толік! *(Паўза.)* Гм!.. Збег з дому! Ну, я яму сягоння лекцыю добрую адчытаю!

Нясмелы стук у дзверы, а затым звоніць званок. Зінаіда Паўлаўна адчыняе. У калідоры з чамаданам у руках стаіць Юрка. У яго на лбе і пад носам сінякі. Штаны разадраныя, адзенне мокрае і прыліпла да цела. Галава ўскудлачаная. На правай назе няма бацінка.

Юрка *(не заходзячы, радасна).* Добры дзень вам!

Зінаіда Паўлаўна *(спалохана падалася назад).* Што? Чаго?

Юрка. Гэта я, Марылін Юрка, з Каменкі... Вы мяне бачылі летась, як да нас прыязджалі. Памятаеце...

Зінаіда Паўлаўна *(пляснуўшы далонямі).* Божа мой! Так і чула маё сэрца, што недзе нешта нядобрае! *(Паказваючы на сінякі і на мокрае адзенне.)* Што гэта?!

Юрка *(збянтэжана).* Там, у Дняпры, тапіўся...

Зінаіда Паўлаўна *(перапыняе).* Парадаваў, пляменнічак, парадаваў. Нарэшце адумаўся, што ў цябе цётка родная ёсць, заявіўся ў госці. Што ж, заходзь, заходзь...

Юрка заходзіць у гасцінута, ставіць чамадан і вінавата стаіць ля дзвярэй.

Ну, хваліся, чаго цябе нячыстая на тую рэчку пагнала?!

Юрка. Я адразу з аўтобуса сюды. Але ў вас хата была замкнёная.

Зінаіда Паўлаўна. А пачакаць не здагадаўся?

Юрка. Я чакаў, але нікога не было.

Зінаіда Паўлаўна. І дачакаўся?

Юрка. Я думаў проста прайсціся да рэчкі... на адну хвілінку...

Зінаіда Паўлаўна. Бачу, прайшоўся! Цётцы роднай паказацца прыйшоў. Што ж, прыгожы стаў. Толькі яшчэ застаецца, каб маці твая палюбавалася, якога сыночка на сваю галаву гадуе!

Юрка. Там хлопца ратавалі, каб не ўтапіўся...

Зінаіда Паўлаўна. На гэта ёсць спецыяльна ратаўнікі. Яны за тапельцаў грошы атрымліваюць. А ты пры чым тут? Сам утапіцца захацеў?

Юрка. Я ж не мог інакш...

Зінаіда Паўлаўна *(не даючы сказаць слова)*. Тут не такія, як ты, ідуць на дно! Гэта не ваша рачулка, якую ў Каменцы любы сабака пераскочыць, а бацюхна-Дняпро!.. Тут, калі сам не ўтопішся, дык русалкі цябе зацягнуць у вір.

Юрка. Якія русалкі? Іх ніколі нідзе не было і няма. Гэта толькі ў казках, ды дзяцей імі страшаць.

Зінаіда Паўлаўна *(збянтэжана)*. Не русалкі, а як іх? Во, кракадзілы, кракадзілы. Яны дзяцей хапаюць... А што ты думаў? На глыбокіх вірах усё можа быць.

Юрка. І кракадзілаў у нас няма. Яны ў Афрыцы. Пра гэта кожны першакласнік ведае.

Зінаіда Паўлаўна *(мяняе тон)*. Пагля-

дзі, куды ўзбіўся з мокрымі нагамі, як квач! Падлогу спляжыш! *(Паказвае на месца ля дзвярэй.)* Стой тут!

Юрка *(адступае да дзвярэй. Вінавата).* Выбачайце, я незнарок.

Зінаіда Паўлаўна *(здзекліва).* Вось такім размаляваным у сінякі, з разлупленымі штанамі ды з адным бацінкам і дахаты вернешся. Я латаць не буду! Няхай яшчэ дома паглядзяць, які шыбенік расце.

Юрка *(штосьці хоча сказаць).* Паверце, я...

Зінаіда Паўлаўна *(перапыняе).* Не веру ні на грош! О-о! Мяне не правядзеш! Я такіх, як ты, наскрозь бачу. Прызнавайся: бадзяўся недзе, задраўся біцца, гузоў нахапаў і ў дадачу — ледзь не ўтапіўся. Так? *(Паўза.)* Ну што? Маўчыш! Відаць, мая праўда! Дома ты можаш наплесці сорак бочак арыштантаў. І, думаеш, паверацьь? Не, не тут было! Я вось цяпер напішу тваёй маці, раскажу ўсю праўду, няхай ведае, які яе сыночак... *(Выходзіць у суседні пакой.)*

Юрка, не вытрымаўшы абразы, рэзка паварочваецца і выбягае з кватэры.

Заходзіць Зінаіда Паўлаўна. Яна нясе адзенне.

Зінаіда Паўлаўна *(на хаду).* Я цётка твая родная і павінна цябе вучыць, як жыць. *(Мяняе тон.)* Вось знайшла тут нейкія штаны і кашулю, пераадзенься... *(Заўважыўшы, што Юркі няма ў пакоі. Спакойна.)* Гм! Знайшоўся мне яшчэ з мухамі ў носе. І паўшчуваць нельга. *(Кідае на кушэтку адзенне. Уздыхнуўшы.)* Якія цяпер дзеці пайшлі, слова не скажы... Ну, дзе той тапелец? Няхай заходзіць, можа, галодны. *(Расчыняе насцеж акно. Гукае.)* Юрка! Юрка!.. *(Прыслухоўваецца.)* Няма... *(Зачыняе акно.)* Нідзе не дзенешся, есці захо-

чаш — прыйдзеш! *(Мяняе тон.)* Цікава, што тут сястрыца за гасцінцы прыслала? *(Адкрывае чамадан Юркі. Спалохана.)* Божа мой! І надумала гэтым шыбенікам яйкі пасылаць. Так і ведала. Патоўк усе. *(Нясе чамадан у суседні пакой.)*

Неўзабаве прыадчыняюцца дзверы, і з калідора паказваецца галава Алёшы.

Алёша *(упэўніўшыся, што нікога няма, гаворыць да кагосьці ў калідоры. Прыцішана).* Ніхто не заходзь! Я сам тут яго давяду... Ну, Толік, бярыся за мае плечы.

Алёша, падтрымліваючы, вядзе Толю ў гасціную. Абодва хлапчукі мокрыя з ног да галавы. У Толі абадраная шчака.

Толя *(заўважыўшы на канапе сухое адзенне. Здзіўлена).* Глядзі! Мае старыя штаны і кашуля! *(Пачынае здымаць мокрую кашулю.)* Трэба хутчэй пераадзецца ў сухое і легчы, быццам нікуды з дому не выходзіў. *(Паказваючы на параненую шчаку, з трывогай.)* А гэта як? Здорава відаць?

Алёша. Нічога страшнага. Зажыве.

Толя. Скажу маме, што заснуў і як гахнуўся сонны з канапы шчакою аб падлогу.

Алёша. Кінь! Не паверыць.

Толя. Тады скажу, што машыну з «Канструктара» такую змайстраваў, якая сама пстрычкі дае. Дык гэта яна мяне так. Ці выдумаю, што пружына адарвалася... Ну, што-небудзь зманю... *(Бярэцца за галаву.)*

Алёша. Баліць?

Толя. Кружыцца...

Алёша. А чаго ж ёй не кружыцца? Я і то вады нахлябаўся, як бочка. А ты ж тануў па-сапраўднаму.

Толя. Я толькі памятаю, што хачу крыкнуць,

а вада мяне душыць. А на лузе, калі вочы адкрыў, дык здалося, што зямля гойдалася то ў адзін бок, то ў другі. А я нібыта пасярэдзіне ляжу.

Алёша. А каб ты ведаў, як я напужаўся. Мне здавалася, што я цябе адразу выцягну. Ажно як кінуўся табе на дапамогу, дык сам стаў захлынацца. А затым бачу, бяжыць нейкі хлапчук, кідае на беразе чамадан, зрывае бацінак з нагі і з разгону як шугане ў рэчку...

Толя. Які ён?

Алёша *(паказвае бацінак)*. Вось глядзі! Гэта з яго нагі.

Толя *(прымярае да свае нагі)*. Відаць, пяцікласнік...

Алёша *(паказваючы на бацінак)*. Гэта ж Нюрка падабрала. І навошта ёй было. А хлопец недзе шукаў і без бацінка застаўся.

Толя. Ну, а далей?

Алёша. Я як глянуў, што гэты хлапчук малы, такі, як і мы, толькі крыху каржакаваты, ну, думаю, і ён не дастане цябе. Ажно пакуль Колька на лодцы падплыў, дык ён цябе на той бераг падцягнуў і трымаўся за кусты. Губы твае сінія, сінія былі. А ён з апошніх сіл выбіваўся, а цябе трымаў. Пакуль мы з цябе ваду адкачалі, дык гэтага смельчака і след прастыў. Ты пра ўсё гэта маці раскажы, не мані ёй.

Толя. А нашто ёй расказваць?

Алёша. Тады ты, Толік, дурань, калі пытаешся!

Толя. Сам ты дурань!

Алёша. А ты дурань вялікі ды яшчэ манюка! Вось хто ты!

Толя *(хапае Алёшу загрудкі)*. Які я манюка? А ну, кажы!

Алёша. Ну і скажу!

Т о л я. Кажы! Калі я хлопцам ці табе што зманіў? Кажы!

А л ё ш а. Не мне і не хлопцам. А маці сваёй маніш на кожным кроку і кожны дзень. Ніколі ёй праўды не кажаш. Яна думае, ты ціхенькі, лагодненькі, дома сядзіш, шурупчыкі ды гайкі «Канструктара» перабіраеш. *(З дакорам.)* А яшчэ піянер!..

Т о л я *(вінавата апускае рукі).* Дык гэта толькі ёй...

А л ё ш а. Тым больш. Чаму мы не баімся дома праўду расказваць, якая б яна ні была? А ты? Хочаш цяпер пра нейкую пстрыкалку выдумаць, каб толькі ніхто не ведаў пра хлопца, які цябе выратаваў. Нам трэба яго знайсці. Ён медаль заслужыў... А ты?.. Маці баішся. Што яна цябе з'есць ці лупцаваць пачне?

Т о л я. Яна ніколі мяне не б'е. Толькі не люблю слухаць, як яна свае «лекцыі» мне чытае.

А л ё ш а. Нічога! Пасварыцца, пасварыцца ды сціхне. Вось так трэба маці выхоўваць.

Т о л я. Мая не паддаецца.

А л ё ш а. А ты раз прызнайся, другі, трэці... Паверыць. І яна не будзе трымаць цябе дома і трэсціся над табою як асінавы ліст. Калі хочаш, дык мы ўсім класам да яе зойдзем. *(Толя вінавата маўчыць.)* Чаго нос павесіў?

Т о л я. Я ёй сам прызнаюся...

А л ё ш а. Добра! Паглядзім!

Т о л я. Хлопчыка гэтага знойдзем! Вернем яму бацінак, дадзім груш-сапяжанак, як даспеюць, шапак пяць... І дружыць будзем. Ён, відаць, смелы і плывец добры.

А л ё ш а. У піянерскую газету трэба напісаць. Няхай усе ведаюць пра гэта. Можа, хутчэй знойдзецца.

Т о л я. Абавязкова знойдзецца. Мы ўсім атра-

дам будзем яго шукаць. І знойдзем! *(Мяняе тон.)* Алёша, схадзі на кухню за люстэркам. Яно там на століку. Хачу паглядзець, што тут у мяне на шчацэ робіцца.

Алёша смела адчыняе дзверы ў суседні пакой і збянтэжана замірае на месцы. Перад ім з апалонікам у руках стаіць Зінаіда Паўлаўна.

Зінаіда Паўлаўна *(здзіўлена)*. Алёша?

Алёша *(спалохана)*. Я...

Зінаіда Паўлаўна. Што тут робіш?

Алёша *(збянтэжана)*. Э-э-э! Ключ прынёс. *(Працягвае ключ.)* Калі ласка, гэта ваш.

Зінаіда Паўлаўна *(спалохана)*. А Толік дзе?

Алёша. Ён тут...

Зінаіда Паўлаўна *(заходзіць у гасцінную і здзіўлена глядзіць на сына, які вінавата апусціў уніз галаву)*. Куды бегаў з дому? *(Заўважыўшы на шчацэ ў сына кроў. З трывогай.)* Сыночак! Што з табою?

Алёша. Зінаіда Паўлаўна, не бойцеся, усё страшнае прайшло.

Толя *(мацаючы параненую шчаку, вінавата)*. Гэта я, мусіць, аб куст...

Зінаіда Паўлаўна. Аб які куст?

Алёша *(да Толі)*. Ды не аб куст! А ў лодцы цвічок іржавы тырчаў, дык ты аб яго і кашулю і шчаку разлупіў.

Зінаіда Паўлаўна *(з трывогай)*. Божа мой! Іржавы цвік! *(Да сына.)* Хутчэй да доктара. Каб хаця заражэння крыві не было. *(Замітусілася па пакоі, шукаючы сумачку.)* І што гэта сёння творыцца?

Алёша *(тузае за руку Толю, прыцішана)*. Калоць цябе будуць. О, балючы гэты ўкол!

Т о л я. Я зусім здаровы, мама! Я не пайду!

З і н а і д а  П а ў л а ў н а *(заўважыўшы мокрую кашулю, якую скінуў сын. Успляснуўшы рукамі).* Божа мой! Тапелец! Гэта ты?!

Т о л я *(вінавата).* Я...

З і н а і д а  П а ў л а ў н а *(трасучы перад сынам кашуляй).* Што гэта, пытаюся?

Т о л я. Мама, не сварыцеся. Я скора плаваць навучуся і больш тапіцца не буду.

З і н а і д а  П а ў л а ў н а *(стаіць, апусціўшы рукі).* Што з табой рабіць, сама не ведаю. Відаць, лекцыі мае да цябе не даходзяць. Біць, біць буду! Скалечу ці зраблю з цябе чалавека. Больш нічога не застаецца. Біць!

А л ё ш а. Не трэба так на Толіка. Ён не адзін. І я з ім разам быў. Ён не хацеў тапіцца, паверце. Гэта ён незнарок з кручы ў Дняпро сарваўся.

З і н а і д а  П а ў л а ў н а *(пачуўшы апошнія словы Алёшы, успляснула рукамі).* Божа мой, сыночак! *(Абдымае сына. Да Алёшы, праз слёзы.)* Гэта ты, Алёша, ты, абармот, вінаваты! Пад твой уплыў Толік папаў. Не было цябе тут, дык дзіця ніжэй травы, цішэй вады хадзіла. А цяпер што я ні слова, дык ён на дыбкі!

А л ё ш а. Зінаіда Паўлаўна! У вас вялікая радасць, а вы плачаце...

З і н а і д а  П а ў л а ў н а. Якая такая радасць?

А л ё ш а. Толіка вашага выратавалі. А мог на дно, як тапор, пайсці. Ён жа плаваць не ўмее.

З і н а і д а  П а ў л а ў н а *(да Алёшы).* Гэта ты яго пацягнуў на рэчку з дому. Гэта ты Толіка чуць не ўтапіў. Ты! Ён да гэтага не дадумаўся б. *(Плача, паказваючы на дзверы.)* Прашу пакінуць майго сына, і каб больш тут нагі тваё не было!

Т о л я *(вырваўшыся з абдымкаў маці, закры-*

*вае сабою дзверы).* Мама! Мама! Ты няпраўду кажаш! Няпраўду! Алёшка харошы, харошы! І ўсе хлопцы харошыя! І міліцыя харошая! Усе! Ты чуеш, мама? Усе харошыя! І жулікі дзецям галовы не адразаюць! Гэта я Алёшку на рэчку пацягнуў, я! Ты чуеш, мама?! Усе хлопцы плаваць умеюць, праўду гавораць, а я... *(Заплакаўшы, кідаецца і абдымае маці.)* Даруй, мамачка, даруй! Я заўсёды табе маніў. Больш не буду! *(Плача.)* Алёшка харошы! Ты ў яго запытайся, як ён кінуўся ў Дняпро, каб мяне выратаваць.

А л ё ш а *(да Зінаіды Паўлаўны).* Гэта не я. *(Паказвае бацінак.)* А гэта вось таго, хто выратаваў вашага Толіка. Нам трэба гэтага смельчака знайсці.

Зінаіда Паўлаўна глянула на бацінак. Аб чымсьці задумалася.

Т о л я. Вось бачыш, мама, Алёша харошы, і ўсе нашы хлопцы такія.

А л ё ш а. Ён аднекуль з чамаданам прыбег. Каб не ён...

З і н а і д а П а ў л а ў н а *(занепакоена, перапыняе).* Чырвоны чамадан?

А л ё ш а. Чырвоны.

З і н а і д а П а ў л а ў н а. А хлопчык такі белабрысы?

А л ё ш а. Белабрысы!

З і н а і д а П а ў л а ў н а. У белай вышыванай кашулі?

А л ё ш а. У белай. Вышыванай! Гэта ён! *(Занепакоена.)* Вы бачылі яго? Дзе? Дзе ён?

З і н а і д а П а ў л а ў н а *(сама сабе. У глыбокім задуменні. Мнагазначна).* Дзе ён?..

Т о л я. Мама! Дык ты была тады на рэчцы?

А л ё ш а. Вы бачылі яго?

Зінаіда Паўлаўна маўчыць.
Звініць званок.

З і н а і д а П а ў л а ў н а *(выціраючы слёзы. Да хлапчукоў).* Ідзіце, дзеткі, у той пакой. Пасля пагаворым.

Толя і Алёша ідуць у суседні пакой. Зінаіда Паўлаўна адчыняе дзверы. У калідоры стаіць Ю р к а. Зінаіда Паўлаўна збянтэжана адступае ўбок, даючы яму дарогу.

Ю р к а *(не кранаючыся з месца).* Мама прасіла, каб я пусты чамадан дадому прывёз.

З і н а і д а П а ў л а ў н а *(некаторы час вінавата стаіць перад Юркам, а затым гукае).* Толік! Сыночак!

З суседняга пакоя выбягае Т о л я.

*(Радасна, праз слёзы.)* Гэта Марылін Юрка, твой дваюрадны брацік.

Т о л я *(крычыць).* Алёшка!

Выбягае А л ё ш а.
Хлопчыкі застылі ў здзіўленні, якое паступова пераходзіць у радасныя ўсмешкі. Зінаіда Паўлаўна стаіць збоку, адчуваючы сваю віну перад дзецьмі.

З а с л о н а.

## ЗМЕСТ

Гаўрошы Брэсцкай крэпасці . . . . . 3
Шпачок . . . . . . . . . . 67
Выратаваны . . . . . . . . . . 123

На белорусском языке

АЛЕКСАНДР ИВАНОВИЧ МАХНАЧ

ПЬЕСЫ

Издательство «Мастацкая літаратура» Государственного комитета Совета Министров БССР по делам издательств, полиграфии и книжной торговли. Минск, Советская, 19.

Рэдактар Е. А. Пяршай. Мастак В. В. Сокалаў. Мастацкі рэдактар А. І. Труханава. Тэхнічны рэдактар З. Г. Сень. Карэктар Л. С. Мануленка.

Здадзена ў набор 28/V 1973 г. Падп. да друку 30/XI 1973 г. Тыраж 5000 экз. Фармат 70×100 1/32. Папера друк. № 1. Ум. друк. арк. 5,85. Ул.-выд. арк. 5,44. Зак. 305. Цана 29 кап.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі. Мінск, Ленінскі праспект, 79.

**Махнач А.**

М 36 П'есы. Мн., «Маст. літ.», 1974.
144 с. з іл.

Аўтару гэтай кнігі Аляксандру Іванавічу Махначу — удзельніку абароны Брэсцкай крэпасці — у 1941 годзе сваімі вачыма давялося ўбачыць, як побач з воінамі мужна змагаліся ў крэпасці-герої юныя выхаванцы палка і дзеці камандзіраў. Аб гэтым ён і расказвае ў п'есе «Гаўрошы Брэсцкай крэпасці» (новая рэдакцыя п'есы «Маленькія салдаты»).

Драма «Шпачок» — пра юнага разведчыка, які дапамагаў партызанам.

У п'есе «Выратаваны» дзеянне адбываецца ў наш час. Яе героі — таксама дзеці. Пісьменнік расказвае пра іх справы, пра іх імкненне быць смелымі і праўдзівымі.

Бел 2

$\frac{0075\text{-}003}{\text{М }302(05)\text{-}74}$ 79-74

М

## У ВЫДАВЕЦТВЕ «МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА» ПА РЭДАКЦЫІ КРЫТЫКІ І ЛІТАРАТУРАЗНАЎСТВА Ў 1974 ГОДЗЕ

**Выйдуць кніжкі:**

А. Макаёнак. *П'есы*

Р. Бярозкін. *Кніга пра паэзію.*

В. Бечык. *Свет жывы і блізкі.*

П. Мядзёлка. *Сцежкамі жыцця.*

У. Юрэвіч. *Погляд.*